# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 17—18 (279—280) 3 — 16 мая 1997 г. КОШТ 4000 РУБЛЁЎ

**Віншуем народ Беларусі са святам Перамогі!**




**Певень — птушка фантастычная. Ён прыгожы і мужны, як рыцар. Певень — гэта жыццё, рух, няўрымслівасць і гонар. І калі певень, трасянуўшы чырвонай каронай, праспявае сваю ранішнюю песню на Гомельшчыне, дык яе, вядома ж, пачуюць адвечныя суседзі на Браншчыне і Чарнігаўшчыне. У адказ прагучыць з усіх бакоў: "Ку-ка-рэ-ку! Маўляў, жывіце ў радасці і згодзе!" Вось таму фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" абраў эмблемай пеўня з вёскі Весялоўка, якая месціцца на мяжы трох славянскіх дзяржаваў: Беларусі, Украіны і Расіі. Нам весялоўскі певень вельмі падабаецца, але каб ён не заставаўся сам-насам, мы папрасілі мастака Мікалая Байрачнага намаляваць яму сябра. І вось ён, наш Певень-рэпарцёр, пер'е якога зіхаціць усімі барвамі вясёлкі.**

**Шкада, што тое зіхаценне не бачна на чорна-белай старонцы газеты. Але яго пабачаць усе ўдзельнікі фестывалю, бо арыгінал малюнка мы маем намер падарыць у якасці прыза ад газеты "Культура". А каму? Хай пакуль наша намінацыя застаецца таямніцай.**

**Ку-ка-рэ-ку! — спявае наш певень. Пад ягоную песню 14 траўня расхінецца заслона на сцэне...**

**(Фестывальны спецвыпуск на стар. 11 — 14)**

КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

Афіцыйна

# І ВЕСЯЛОЎКА, І СТАРЭ МЯСТА...

**Сёлета вяснова-летні культурны сезон у Беларусі адрозніваецца шэрагам значных падзей, якія, з аднаго боку, з'яўляюцца вынікам папярэдняй працы ўстаноў культуры, а з другога — маюць пэўныя падставы да закладвання важных і цікавых традыцый у скарбонку культурнага жыцця дзяржавы. Пра найбольш яркія з гэтых падзей распавядае першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір РЫЛАТКА:**

— Усе мерапрыемствы, аб якіх пойдзе гаворка, маюць значэнне і класнасць. Што стане традыцыяй, а што проста застанецца ў гісторыі культуры, — вырашыць час. Так супала, што менавіта на травень прыпадае некалькі з іх.

Толькі што скончыўся ў Нясвіжы Другі нацыянальны фестываль камернай музыкі "Музы Нясвіжа", які праходзіў з 2 па 4 траўня і, безумоўна, мае шмат цікавых уласцівасцяў. Яго мастацкім кіраўніком быў народны артыст Рэспублікі Беларусь Міхаіл Фінберг, і натуральна, да большасці канцэртаў меў непасрэднае дачыненне Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Камерны састаў аркестра, якім кіруе Валерый Сарока, падрыхтаваў да фестывалю унікальную праграму з твораў як сучаснай беларускай камернай музыкі, так і беларускай музыкі мінулых часін. Вялікай працай аранжыроўшчыкаў, музыкантаў, харавых калектываў адноўлены, часам па некалькіх радках, што захаваліся, камерныя музычныя творы беларускай класікі і беларускага барока, тых кампазітараў, чые імёны працяглы час былі ў небыцці: Напалеона Орды, Мацея Радзівіла, Восіпа Казлоўскага і іншых. Разам з тым прагучала сучасная музыка, многія кампазітары атрымалі магчымасць прысутнічаць на прэм'ерных паказах сваіх опусаў у залах з акустыкай рэдкай прыгажосці. Сярод аўтараў, чые творы прагучалі ў Нясвіжы, — Дзмітрый Смольскі, Галіна Гарэлава, Уладзімір Кур'ян, Аляксандр Літвіноўскі, Сяргей Янковіч, Генадзь Ермачэнка, Дзмітрый Лыбін, Віктар Войцік, Ігар Палівода.

Фестываль атрымаўся інтэлігентным, прыгожым і слушным з пункту гледжання як гістарычнай — адраджэнне музычнай культуры, так і агульнай накіраванасці на прапаганду беларускай музыкі. Увогуле, Нясвіжскі край чакае свайго адраджэння, нядаўна яго наведаў прэзідэнт краіны, відавочна, што трэба чакаць пэўных крокаў па рэстаўрацыі традыцый гэтай, адной з найбагацейшых у духоўным сэнсе мясцінаў.

Наступная важная падзея: з 19 па 21 траўня ў Варшаве пройдуць Дні культуры Беларусі ў Польшчы. Я мяркую, што гэта таксама стане традыцыяй. Дзён беларускай культуры ў Польшчы не было ніколі, калісьці праводзіліся Дні савецкай культуры на прыкладзе Беларусі — не больш. Нельга сказаць, што мы — рэдкія госці ў Варшаве, але ў такім маштабе, як цяпер, беларускае мастацтва там не бывала. На вялікай варшаўскай сцэне ўбачаць балет "Страсці" ("Рагнеда") Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі, у якім, на мой погляд, упершыню на такім высокім мастацкім узроўні вырашана гістарычная тэма Беларусі. Але гэта — не толькі дакладнае адлюстраванне гістарычных падзеяў, пастаноўшчык Валянцін Елізар'еў, на мой погляд, здолеў знайсці тую вобразную "разынку", якая дае спектаклю доўгае жыццё. У наступны дзень у Каралеўскім Замку, у прэстыжнай канцэртнай зале, выступіць з вялікай праграмай наш камерны аркестр. Ведаю, якая там цудоўная акустыка, і ўпэўнены, што канцэрт будзе цікавым. А потым у тэатры "Рома", на адной з таксама прэстыжных канцэртных пляцовак, выступіць ансамбль "Харошкі" з праграмай, як заўсёды зробленай на базе беларускага фальклору. Адначасова ў Нацыянальным музеі будуць экспанавацца творы Вітольда Бялыніцкага-Бірулі: у свой час мы адзначылі, што выставы, прымеркаваныя ў Беларусі да 125-годдзя беларускага генія, карысталіся вялікай папулярнасцю як сярод беларусаў, так і ў замежных гледачоў. Апрача згаданага, у Варшаве выступяць вакальны ансамбль "Чысты голас", піяніст Андрэй Паначэўны, уладальнік першай прэміі на конкурсе ў Кёльне і спецыяльнай прэміі на шапэнаўскім конкурсе. А ў кінатэатрах пройдуць паказы новых беларускіх фільмаў — мастацкіх, дакументальных, мультыплікацыйных.

Калі перагарнуць каляндар далей, то амаль адразу па заканчэнні Дзён культуры ў Польшчы надыдзе час святкавання Дня славянскага пісьменства. У краіне адновіцца цікавая традыцыя, якая нарадзілася яшчэ ў 1990-м годзе, калі прайшло Першае міжнароднае свята славянскага пісьменства. У той час у Мінску была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар святых Кірыла і Мефодыя, перайменавана вуліца, адбыўся вялікі канцэрт з удзелам прадстаўнікоў Балгарыі, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны. Зараз да гэтага дня мы вырашылі прымеркаваць фестываль духоўнай музыкі, які раней праводзіўся некалькі разоў у Мінску, але ў іншыя каляндарныя тэрміны. На мой погляд, злучэнне двух падзеяў цалкам лагічнае і мае ўсе шансы на працяг у будучыні. Цэнтральнай з'явай фестывалю будзе вялікі канцэрт харавой духоўнай музыкі ў Белдзяржфілармоніі з удзелам ансамбля "Чысты голас", хору "Санорус", хору імя Цітовіча, камернага хору Ігара Мацюхова, харавой капэлы імя Рыгора Шырмы і хору тэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам Віктара Роўды. У канцэрце таксама возьмуць удзел салісты оперы з Санкт-Пецярбурга. Але свята будзе значна шырэйшае, чым музычны фестываль. 23 траўня ў школах краіны пройдуць урокі гісторыі славянскага пісьменства, адбудзецца навуковая канферэнцыя, у якой возьмуць удзел навукоўцы з замежжа, напрыклад з Грэцыі. У абласных цэнтрах Беларусі таксама плануецца правесці ў гэтыя дні канцэрты духоўнай музыкі.

Такім чынам, травень адкрые вялікі сезон культурных мерапрыемстваў у Беларусі. Далей, у чэрвені, адбудзецца II Міжнародны Шагалаўскі пленэр, які сёлета супадае са 110-годдзем з дня нараджэння Марка Шагала. Да яго прымеркавана вялікая выстава з твораў майстра, якая стала магчымай дзякуючы амбасадзе Францыі ў Беларусі. Выстава будзе экспанавацца ў Мінску, а потым пераедзе ў Магілёў. У тым жа Магілёве летам плануецца правесці іншы пленэр — у рамках першага Свята выяўленчага мастацтва імя Бялыніцкага-Бірулі, на якім мы мяркуем даць магчымасць паказаць сябе беларускім мастакам усіх пакаленняў. Вядома ж, летам, у ліпені, пройдзе Славянскі Базар — фестываль, які не губляе ні сваёй папулярнасці, ні значнасці — але гэтыя падзеі вымагаюць ужо больш дэталёвай гаворкі. Хацелася б спадзявацца, што зараз наша краіна ўваходзіць у часы закладання цікавых культурных традыцый, якія будуць спрыяць росту духоўнасці і яднанню народаў. У гэтай сувязі хацелася б вызначыць асобна апошнюю па пераліку, але не па значнасці, падзею траўня — фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы".

*(Працяг на стар. 11).*

## ВЫСТАВЫ, ФЕСТЫВАЛІ, КАНЦЭРТЫ



У рамках Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур 21 — 22 красавіка ў Мінску прайшоў першы Форум музычных культур народаў Беларусі "Квецень сонечных промняў". Мерапрыемствы форуму складаліся з адкрыцця мастацкай выставы "Свет вачыма дзяцей", конкурсу малюнкаў на асфальце, канцэрта фальклорнага ансамбля "Дударыкі" і навукова-педагагічнай канферэнцыі "Узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных музычных культур народаў Беларусі".

*На здымку: свае мастацтва дэманструюць удзельнікі мастацкай выставы са студыі "Крынічка" Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

# КУРБАН-БАЙРАМ, ВАРТЭОР І ШМАТ ШТО ЯШЧЭ...

***Цудоўна! У нас з'явілася яшчэ адна традыцыя — фестывалі нацыянальных культур. Тут можна пабачыць нацыянальныя касцюмы, звычаі, стравы, танцы, паслухаць песні. II фестываль нацыянальных культур ужо распачаўся і будзе доўжыцца цэлы год у розных гарадах Беларусі. Заключны этап фестывалю адбудзецца ў 1998 годзе ў Гродне. Каб атрымаць каментар да гэтага вялікага свята, наш спецкар звярнуўся са сваімі пытаннямі да дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Віктара МАЦЮШЭНКІ.***

**— Спадар Віктар, ці ёсць нейкія адрозненні паміж першым і другім рэспубліканскімі фестывалямі нацыянальных культур?**

— На мой погляд, гэткія фестывалі патрэбныя для захавання культурнай спадчыны нацыянальных меншасцей. Летась новае свята было ўхвалена ўсімі дыяспарамі. Але, на вялікі жаль, не ўсе змаглі прыняць у ім удзел. Тыя мерапрыемствы, што адбываліся ў Гродне, засведчылі, што мы выбралі памысны шлях. Гэта вельмі цікава, гэта вабна, гэта шматкалярова. Мы паставілі перад кожным нацыянальным аб'яднаннем задачу, каб яны на працягу года праводзілі ўсялякія агляды, фестывалі, творчыя вечарыны і г.д. Вось тут кампетэнтнае журы і будзе адбіраць лаўрэатаў, якія прыедуць на выніковы фестываль у Гродна. Да таго ж журы будзе мець магчымасць папярэдне вырашаць некаторыя праблемы фестывалю. Так, раней колькасны склад дэлегацый ад нацыянальнага аб'яднання не павінен быў перавышаць 25 чалавек... Хаця, напрыклад, у габраяў ёсць тэатр песні і танца, які налічвае 70 чалавек. У 1997 годзе дарога для гэтага калектыву адкрытая.

**— А хто ўваходзіць у склад журы?**

— Узначальвае журы Міхась Дрынеўскі, народны артыст Беларусі. Акрамя яго адбіраць лаўрэатаў будуць яшчэ шэсць чалавек. Дарэчы, галоўным рэжысёрам выніковага фестывалю прызначаны Аляксандр Фядотаў.

**— Што, на Ваш погляд, у падобных фестывалях з'яўляецца самым адметным?**

— Прыемна бачыць, што кожнае нацыянальнае аб'яднанне імкнецца адрадзіць сваю культуру — звычаі, святы, кухню. Вось, напрыклад, у гэтым годзе 28 чэрвеня армянскае культурна-асветніцкае таварыства "Аястан" упершыню будзе рабіць на Беларусі свята "Вартэор".

**— На мінулым фестывалі нацыянальных культур хадзілі цэлыя легенды пра нацыянальныя кухні.**

— Ведаеце, кухні ў нас якраз і не атрымалася. Свае нацыянальныя стравы прадэманстравалі толькі татары і азербайджанцы... Праўда, шашлык у азербайджанцаў быў са свініны, хаця яны прасілі барана. Сёння мы маем задуму правесці фестываль нацыянальнай кухні, але ўсё будзе залежаць ад грашовых сродкаў.

**— А яшчэ якія мерапрыемствы пройдуць сёлета?**

— 11 мая будзе "Дзень маці" — гэта ўкраінскае нацыянальнае свята. 31 мая — III фестываль песні ўкраінцаў Беларусі. Далей плануецца фестываль польскіх нацыянальных калектываў, ён пройдзе ў некалькіх гарадах — Воранаве, Ваўкавыску, Пінску, Мінску, Браславе. Потым, як ужо я казаў, армянскае свята "Вартэор". Да 600-годдзя асадніцтва татараў на землях Вялікага княства Літоўскага ёсць задума вялікага вандроўнага свята "Курбан-Байрам", якое пройдзе па гарадах кампактнага пражывання беларускіх татараў — Іўе, Ліда, Навагрудак, Скідаль. Шкада, што яно пакуль не зацверджана, але аргкамітэт па правядзенні "Курбан-Байрама" ужо існуе. І далей ідуць восеньскія мерапрыемствы, якія будуць удакладняцца.

**— Які рэзананс за мяжой на гэткую актыўную дзейнасць нацыянальных дыяспар Беларусі?**

— Вялікі ажыятаж. Напрыклад, на фестываль песні ўкраінцаў Беларусі прыедуць госці з Літвы, Расіі, Латвіі, Украіны. Каля 40 чалавек.

**— Падобныя фестывалі могуць стаць добрай традыцыяй для розных краін — накшталт культурнай алімпіяды.**

— У прынцыпе гэта было б цудоўна, на вялікі жаль, нашу традыцыю правядзення буйных нацыянальных святаў пакуль не пераймаюць. Хаця і ёсць падобныя прыклады. Але гэткага маштабу, як на Беларусі — няма.

**— Ці ёсць у Вас ідэя стварыць пры Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур свае выдавецтва, каб друкаваць казкі розных народаў, слоўнікі ды іншую літаратуру?**

— Патрэба, натуральна, ёсць, але дзе ўзяць грошы, каб набыць той жа рэдакцыйны комплекс?..

* * *

***Пасля размовы са спадаром Віктарам Мацюшэнкам я вырашыў сустрэцца з кімсьці, хто непасрэдна ўваходзіць у пэўнае нацыянальнае аб'яднанне. Гэткім чалавекам аказалася сакратар Цэнтра ўкраінскай песні Любоў Задарожная.***

**— Распавядзіце, калі ласка, пра будучы III фестываль песні ўкраінцаў на Беларусі. Што зменіцца ў правядзенні гэтага свята?**

— У мінулыя гады традыцыйна першы фестывальны дзень мы выступалі ў філармоніі, затым другі дзень — на адкрытай пляцоўцы ў парку імя Горкага. Цяпер будзе крышку інакш — першы дзень — у філармоніі, а другі плануецца — у Маладзечне. Зараз наконт гэтага ідуць перамовы. Гарадскія ўлады Маладзечна абяцалі дапамагчы нам з грашыма.

**— Дык атрымоўваецца, што грошы на культурныя мерапрыемствы нацыянальныя аб'яднанні шукаюць сваімі сіламі?**

— Фактычна так. Нам вельмі дапамагаюць беларускія ўкраінцы, якія займаюцца бізнесам. І кветкі, і харчаванне, і гатэль, і грошы за арэнду залы — за кошт фундатараў, якім неабыякавы лёс украінскай культуры на Беларусі.

**— У нашай краіне ёсць нейкія выданні на ўкраінскай мове?**

— У Брэсце выдаецца газета "Берестейський край", яе рэдактар спадар Петруковіч.

**— Ад дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур я чуў, што беларускія ўкраінцы маюць добрыя кантакты з украінцамі іншых краін?**

— Так. Ужо тры гады да нас прыязджаюць госці з Украіны. Цяпер таксама прыедуць з Украіны, Літвы, Латвіі і Цюмені.

**— А што больш за ўсё запомнілася Вам з творчай дзейнасці беларускіх украінцаў?**

— Гэта калі фальклорны калектыў "Крыніца" запрасілі ў Гомель на падпісанне дамовы аб сяброўстве і супрацоўніцтве паміж Украінай і Беларуссю. Тады мы не толькі пабачылі прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнку і Леаніда Кучму, але і разам спявалі. Прэзідэнт Украіны падарыў нам альбом "Гістарычныя і культурныя помнікі Украіны".

**Запісаў Зміцер ВОЛКАЎ**

# "О, МОЦАРТ, МОЦАРТ!"

Новыя назвы ў афішы нашага опернага тэатра, на жаль, апошнім часам з'яўляюцца вельмі рэдка. Больш за тое, кудысьці зніклі спектаклі, якія ў свой час вызначалі ўзровень беларускай оперы — "Вайна і мір", "Фауст", "Лаэнгрын", "Дон Карлас"...

І вось, колькі месяцаў таму на афішах з'явілася інтрыгуючая назва. Аматарам музычнага мастацтва была прапанавана музычна-тэатральная кампазіцыя пад назвай "О, Моцарт, Моцарт!" Яе ініцыятар і музычны кіраўнік — галоўны дырыжор тэатра Аляксандр Анісімаў.

Асновай кампазіцыі, яе драматычным стрыжнем стала опера Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры". Створана яна на амаль цалкам захаваны тэкст "маленькай трагедыі" Пушкіна.

Падзеі вакол смерці Моцарта дагэтуль ахутаны таямніцай. Кожнае пакаленне гісторыкаў, пісьменнікаў, музыказнаўцаў спрабуе даць гэтай таямніцы сваё тлумачэнне. Адна з найбольш распаўсюджаных версій — Моцарта атруціў Сальеры. Вось ужо больш за 150 гадоў працягваецца пасмяротны суд над Сальеры, і хаця колькасць яго адвакатаў, асабліва сярод музыказнаўцаў павялічылася, па-ранейшаму гучаць і галасы абвінаваўцаў. Многія вучоныя сёння ўпэўнены: Сальеры невінаваты. Яны нагадваюць: Сальеры назвалі "Нестарам сярод кампазітараў", Глюк ганарыўся ім, як сваім лепшым вучнем, пры жыцці Сальеры меў сусветную славу. Ды і ў легендзе, запісанай Пушкіным, ёсць нейкая няўпэўненасць: "мог атруціць". Але чамусьці сам Пушкін адкінуў усе сумненні і паклаў гэты факт у аснову свайго маленькага шэдэўра. Пэўна, Пушкіна мала цікавіла гістарычная праўда, яго хвалявала праўда мастацкая. Героі Пушкіна — не гістарычныя асобы, а персанажы літаратурныя, якія шмат у чым адрозніваюцца ад сваіх прататыпаў. Як і ў Пушкіна, у оперы Рымскага-Корсакава ўсяго толькі дзве дзейныя асобы: Моцарт і Сальеры. Следам за Пушкіным кампазітар асаблівую ўвагу аддае фігуры Сальеры, забойцы, які, паводле слоў Бялінскага, "любіць сваю ахвяру, любіць яе мастацкай паловаю душы сваёй, любіць яе за тое ж самае, за што і ненавідзіць". Ні ў адным з папярэдніх твораў Рымскі-Корсакаў не апускаўся ў такія патаемныя глыбіні чалавечай псіхікі.

Зразумела, такі твор вымагае і асаблівага стылю паводзінаў артыстаў — выканаўцаў роляў Моцарта і Сальеры. Тут нельга схавацца за славутай опернай мелодыяй, за прыгожай падачай гуку. Асаблівай дакладнасці патрабуе дэкламацыйны стыль оперы — музычнай і сцэнічнай. Выканаўцы партый Моцарта і Сальеры на нашай сцэне — спевакі С.Драбышэўскі і А.Мельнікаў — нават знешне адпавядаюць сваім персанажам. Кволы, безабаронны Моцарт С.Драбышэўскага здаецца трэсачкай у руках усемагутнага бязлітаснага лёсу, які ўвасабляе Сальеры — А.Мельнікаў. Дзякуючы лаканічнасці сцэнічнага афармлення, уся ўвага акцёраў скіравана на даследаванне псіхалогіі герояў, іх душэўных рухаў, памкненняў. Перад намі, нібы пад павелічальным шклом, разгортваецца "маленькая музычная трагедыя", і паступова цалкам нармальны чалавек, які, па яго словах, ніколі нікому не зайздросціў,ператвараецца ў забойцу.

Можна шмат расказваць пра гэтую выдатную оперу і пра яе яркае ўвасабленне на нашай опернай сцэне. Але лепей пабачыць усё на свае вочы. Наступны паказ праграмы "О, Моцарт, Моцарт!" адбудзецца 10 мая. Склад выканаўцаў праграмы пастаянны. Як заўсёды, за дырыжорскім пультам — маэстра Анісімаў.

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА**

# СЛЕД, НІБЫ ЗА ЛОДКАЙ...

***30 красавіка ў мастацкай галерэі "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў адкрылася невялікая выстава жывапісу Віктара Альшэўскага. Але мне хацелася б расказаць пра яго творчасць шырэй.***



Віктар Альшэўскі — мастак "новай рэальнасці", абмежаванай у прасторах. Гэта прасторы настальгічнай мінуўшчыны і ілюзорнай будучыні. Разумная арганізацыя прастораў, што хаваюць у сабе бясконцасць. Шлях — да духоўнага Храма, які яшчэ не пабудаваны. Альбо ўжо пабудаваны, але мы не ведаем шляху, што вядзе да яго?

Віктар Альшэўскі напружана шукае гэты шлях "новай рэальнасці", у якім арганічна пераплеліся сюррэалістычныя рэмінісцэнцыі і строгі класічны рэалізм, экспрэсіяністычныя экзерсісы і геаметрычныя гучныя лініі, што містычным чынам зніто ўваюць энергетычныя кропкі бясконцай жывой матэрыі. Тут боль, роспач суседнічаюць з радасцю, самота — з імгненнямі шчасця, прадчуванне чалавечай трагедыі са спакойнай казкай маленства.

У мастаку нібыта жыве адчуванне Сталкера. Не ведаю, ці падабаецца яму творчасць Андрэя Таркоўскага, у якога "ўсе рэчы — вынайдзеныя". Але іх звязвае штосьці нябачнае...

Ягоныя невідушчыя з "Тэатра", ягоны разламаны "да крыві" гранат і леў, які спрабуе вырвацца з клеткі, ягоны Каўчэг, гэты адвечны помнік Сусвету, ягоныя апранутыя ў даспехі рыцары, якія нібыта страцілі душы, — усе яны прымушаюць думаць пра крушэнне надзей, пра палёты, што сканчваюцца зазчасна.

Я не ведаю, што адчувае Віктар Альшэўскі ў сённяшнім нетрывалым свеце. Пачатак канца свету? Не, хутчэй, ён адчувае ў сабе магутнасць будаўніка, які разумее, што навокал усё пабудавана не так, як яму хацелася б. Гэта пачуццё чалавека ў маленькім, не па яго памеры пашытым гарнітуры. Адчуванне неразгаданасці жыцця і ягонага драматычнага напружання. Альбо адчуванне салдата, які згубіў сваю вайсковую частку?

Альшэўскі — салдат памежнай місіі. Ён ідзе па мяжы, не абараняючы ні той, ні другі бок. Ён абараняе сябе, сваю творчасць, сваё права бачыць свет такім, якім ён сабе яго ўяўляе. Праз абстрактную філасофію і творчую фантазію, праз інтуіцыю і гістарычную памяць...

Так, замест памежных слупоў ён будуе свае карціны: "Не хачу нікому нічога навязваць". Напачатку нараджаецца ідэя —"неіснуючы" і чыста пластычны момант, затым да яго далучаецца тая самая інтуіцыя — і ствараецца асяроддзе, што спараджае парадокс: "Раблю тое, што мне спачатку было незразумелым. Тое, што можа прыйсці нават са снабачанняў альбо з няпэўных успамінаў дзяцінства".

Альшэўскі — з шэрага "тайнапісцаў". Ён — мастак пільны, за ім цягнецца след, нібы за лодкай. І ў сваім жывапісе ён жорсткі, "геаметрычны", даволі рэйкаваны, але заўсёды — філасафічны, з "другім" і "трэцім" планамі, са сваімі метафарамі і сімваламі, са сваёй строга выверанай эстэтычнай платформай...

Ягоны "Ікар" адзіўляе, уласна кажучы, не старой, як свет, тэмай адвечная імкнення чалавека да невядомага, але сізіфавай безвыходнасцю чалавечых дзеянняў. Чырвоны, нібыта абпалены агнём, фон, зламаная лесвіца, агаленыя, знясіленыя агромністыя постаці, якія насуперак усяму ўпарта караскаюцца ўверх па лесвіцы, Ікар — іхні лідэр і правадыр, які падае ўніз, — усё гэта ўносіць трывогу, з'яўляючыся законам безнадзейнасці. Бясконцая наканаванасць Ікаравага лёсу, бясконцая невыніштальнасць мары...

Альбо — карціна "Які ўстае": чалавек спрабуе падняцца на ногі пад цяжарам сабора, які ён сам сабе ўзваліў на плечы. Навошта? Каб ісці далей, у тое святое месца, дзе будзе стаяць гэты храм, і куды, магчыма, прывядзе нас, неразумных і лянівых, шлях...

Віктар Альшэўскі не заціскае сябе ў якую-небудзь плынь. Але я б прылічыў ягоную творчасць да постканцэптуалізму: асацыятыўнасць, жорсткая логіка пабудоваў, элемент інтрыгі.

Безумоўна, ягоная творчасць не разлічана на "простага савецкага гледача", на "саўка", выхаванага за паўстагоддзя сацрэалізму ў духу літаратурна-ілюстрацыйнага ўспрыняцця жывапісу "як у жыцці". Паглядзець шыльду з назвай, потым — на палатно: ці адпавядае? І — пакрочыць далей...

Творчасць В.Альшэўскага прымушае напружана разважаць, думаць, асэнсоўваць, прыкладаць разумовыя высілкі, каб вызначыць сваё ўнутранае стаўленне да свету мастака. Альшэўскі мае рацыю, калі кажа, што для яго "мастацтва заўсёды было і будзе мерай чысціні і свабоды духу". Той свабоды духу, якой нам сёння так нестае.

**Барыс КРЭПАК**

*На рэпрадукцыі: В.Альшэўскі. "Які ўстае".*

# У СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

Травень — апошні месяц у творчым сезоне сталічнага Дома літаратара. І хоць вясна паклікала шмат мінчан на свае лецішчы, спадзяемся, што на травеньскіх імпрэзах будзе ўсё ж такі людна.

75-я ўгодкі з дня нараджэння Алеся Салаўя прыпадаюць на першае траўня. Вечарына "О, мая Беларусь! Хто з табой, той — шчаслівы..." адбудзецца 21 траўня. У ёй маюць браць удзел музыкі, спевакі, знаўцы літаратурнай спадчыны Алеся Салаўя, яго трагічнага жыццёвага шляху.

Апошнім часам усё больш людзей цікавяцца сваімі каранямі. Адшукаць іх — хаця б да пятага калена — жадаюць многія. Пэўную працу ў гэтым накірунку праводзяць навукоўцы. Пераканацца ў гэтым можна на вечарыне "Наш радавод" 28 траўня, дзе адбудзецца прэзентацыя унікальнай кнігі "Малы гербоўнік Навагрудскай шляхты". Старажытная музыка, спевы, цікавыя выступленні і магчымасць набыць "Гербоўнік" чакаюць удзельнікаў гэтай вечарыны.

А 30 траўня адбудуцца аж дзве імпрэзы: сустрэча з рэдакцыяй "Нашай Нівы", падрабязную інфармацыю пра якую чытачы знойдуць у травеньскіх выпусках газеты, а таксама вечарына "На чужыне родны васілёк", прысвечаная 70-м угодкам нараджэння дзеяча культуры беларускага замежжа Вітаўта Кіпеля. Гэтую вечарыну ладзіць згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў. І пачнецца яна а 16-й гадзіне, усе ж іншыя — у 18.30.

**Ірына АЛЯКСЕЕВА**

# ПРАЦУЮЦЬ:

***Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь***

Выстава, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага графіка Анатоля Тычыны.

Выстава "Мінская парцэляна. 1940 — 1990-я гады", прысвечаная 50-годдзю Мінскага парцэлянавага завода (з 12 мая).

Выставы "Беларускі плакат у гістарычным развіцці" і "Беларуская кніжная ілюстрацыя" ў Гальшанах і Мазырскай раённай карціннай галерэі ў в.Гурыны (з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея).

***Рэспубліканская мастацкая галерэя Беларускага Саюза мастакоў***

Выстава твораў народнага мастака СССР і Беларусі, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў Расійскай Федэрацыі, Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Міхаіла Савіцкага.

Выстава жывапісу Анатоля Кузняцова, прысвечаная 50-годдзю з дня яго нараджэння.

***Мастацкі цэнтр "Жыльбел"***

Выстава жывапісу акадэміка Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Тоўсціка.

***Музей сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля***

Выстава твораў вядомага скульптара Эдуарда Астаф'ева.

***Гасцёўня У.Галубка ў Траецкім прадмесці***

Выстава партрэтнага жывапісу "Уладары старажытнай Беларусі".



# ПРЫЗНАНЫ ЛЕПШЫМ

Нядаўна ў Нямеччыне адбыўся Міжнародны конкурс харавых калектываў. Паездка ў горад Дармштат хору Беларускай акадэміі музыкі, арганізаваная Міністэрствам культуры, скончылася трыумфальна: хор з Мінска быў прызнаны лепшым. Студэнты Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР прафесара Віктара Роўды ў які ўжо раз прадэманстравалі сваё высокае майстэрства і добрую прафесійную падрыхтоўку.

Зараз Акадэмія музыкі рыхтуецца ўзяць удзел у фестывалі "Маладыя галасы", што адбудзецца ў Мінску 30 траўня. Сімвалічна тое, што поруч з салістамі Дзяржаўнага опернага тэатра Беларусі на фестывалі будуць спяваць студэнты з Акадэміі музыкі.

**А.Р.**

# БЛІЗКІ СУСЕД ДАРАЖЭЙ ЗА ДАЛЁКАГА СВАЯКА

**На травень прыпадае падзея, значная для адносінаў паміж Беларуссю і нашым найбліжэйшым еўрапейскім суседам — Польшчай: з 19 па 21 траўня ў Варшаве пройдуць Дні культуры Беларусі. З гэтай падставы наш карэспандэнт сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Польшчы ў Беларусі пані Эвай СПЫХАЛЬСКАЙ.**



**— Пані пасол, Дні культуры Беларусі праводзяцца ў Польшчы ўпершыню з часоў былога СССР і, напэўна, на ўзаемнай аснове?**

— Згодна з падпісаным пагадненнем аб культурным абмене паміж нашымі дзяржавамі, зараз Дні культуры будуць праводзіцца штогод папераменна. У наступным годзе пройдуць Дні Польшчы ў Беларусі, потым, у 1999, зноў беларуская культура пакажа сябе ў нас. Канкрэтны змест гэтых мерапрыемстваў узгадняецца міністэрствамі культуры, зразумела, кожны бок хацеў бы паказаць лепшае з таго, што мае.

**— Ці сапраўды ў Польшчы сёння існуе шчырая цікавасць да беларускай культуры?**

— Кожная нацыянальная культура заўсёды была ў цэнтры цікавасці палякаў, беларуская асабліва: Навагрудак знаходзіцца ў Беларусі, імёны Манюшкі, Агінскага, Касцюшкі, Міцкевіча і яшчэ многіх іншых асобаў аднолькава дарагія беларусам і палякам. Няма сэнсу спрачацца, кім быў, напрыклад, Міцкевіч — больш беларусам ці больш палякам, значна важней не забыцца на цудоўныя каштоўнасці ягонай творчасці. І нас цікавіць не толькі культура, якая існуе на стыку Беларусі і Польшчы, цікава і тое, што далей. Беларуская культура добра вядомая на Беласточчыне, але, на маю думку, яна павінна быць вядома значна шырэй. Творчасць часцей за ўсё абапіраецца не толькі на мясцовыя вытокі, і каб размаўляць аб культуры народа, трэба ведаць яе ўсю. Гэта збліжае народы, паляпшае ўзаемаразуменне. Калі ў гэтай галіне, дзе меней за ўсё палітыкі, мы пазнаем адно аднаго, адчуем узаемную павагу, то і ў астатніх абласцях будзем адносіцца адно да аднаго зусім інакш.

**— Беларусь стала першым месцам Вашай працы ў якасці дыпламата, ці не так?**

— Так. Увогуле я маю некалькі прафесій. Сваю першую прафесійную падрыхтоўку я атрымала ў якасці выкладчыка польскай мовы для невідушчых дзяцей. Па другой спецыяльнасці я — будаўнік, працавала кіраўніком буйнога будаўніцтва ў Пазнанскім ваяводстве. Пазней была абрана на працу ў прафсаюзы, потым пяць гадоў працавала ў Парламенце, была першым намеснікам Аляксандра Квасьнеўскага яшчэ да яго абрання на пасаду прэзідэнта. Працуючы адначасова ў прафсаюзах і ў Парламенце, прайшла свой трэці цыкл навучання — у галіне паліталогіі. У 90-м годзе скончыла факультэт грамадскай палітыкі, а потым — двухгадовы паслядыпломны курс па арганізацыі і кіраванню. Тут — мая першая праца ў дыпламатыі, і пачатак быў трохі цяжкім. Але мне дапамагла каманда спецыялістаў амбасады, якія вельмі добра падрыхтаваныя прафесійна і маюць вопыт працы ў тутэйшых умовах. Ратацыя ў нас адбываецца такім чынам, што адначасова змяняецца не больш за чвэрць штату. Таму цяпер у складзе працаўнікоў амбасады ёсць тыя, хто тут ужо два гады, і чатыры, і больш. Я часта выкарыстоўваю веды калегаў, бо асаблівасці дзейнасці, што гістарычна склаліся, таксама маюць значэнне ў маёй працы. Цяпер, пасля паўгоддзя працы, я адчуваю сябе ўпэўнена на сваёй пасадзе.

**— Вы тут з сям'ёй?**

— З мужам, дзеці засталіся ў Варшаве, па іх, зразумела, сумую. Але яны ўжо цалкам самастойныя, дарослыя. Паўлу 23 гады, вучыцца ў Варшаўскім універсітэце на факультэце журналістыкі і грамадскай палітыкі. Анцы — 18, заканчвае эканамічны ліцэй з банкаўскім ухілам. Штомесяц абодва бываюць тут, і таксама прыкладна раз на месяц муж ездзіць у Варшаву, я, на жаль, так часта не магу. Муж не працуе, зараз у яго шырокае кола інтарэсаў, але ў сувязі са спецыфікай маёй працы звычайна ён прадастаўлены самому сабе. Жывем мы ў невялікім драўляным доме ў Драздах, дзе пасялілася большасць замежных пасолаў.

**— Як Вы любіце бавіць вольны час?**

— Яго ў мяне зусім мала, бо дыпламатычныя спатканні і сустрэчы па пытаннях навукі і культуры, як правіла, адбываюцца ўвечары. Час вяртаюся дадому не раней дзесяці гадзін. Здаўна люблю кніжнае чытанне, час ад часу перачытваю такі ўзоры для класічнай літаратуры твор, як "Гаргантюа і Пантагруэль", асабліва калі трэба зняць псіхалагічнае напружанне. Люблю Заля, засталося многа прыхільнасцяў ад часоў вывучэння літаратуры. Па нядзелях, калі дазваляе час, не кожны тыдзень, люблю сесці ў аўтамабіль і праехацца па бліжэйшых закутках, паглядзець помнікі даўніны. Што асабліва люблю: прыпыніцца дзе-небудзь і паразмаўляць з людзьмі. Тут сустракаюцца выключна цікавыя людзі, шчырыя і адкрытыя. Часам, калі заўважаюць мой акцэнт, цікавяцца, адкуль я. Адчуўшы, што з Польшчы, прапануюць: "Кажыце на польскай, мы разумеем!" Так і гутарым, я — на польскай, яны — на беларускай мовах. У такіх вандроўках часта заўважаю шмат цікавых мясцін — лясы, азёры, сенажаці. Беларусь — цудоўна прыгожы край.

**— Ці бывалі Вы ў іншых, апрача Мінска, буйных гарадах Беларусі?**

— Была ў Магілёве, Брэсце, Гродне, у бліжэйшы час маркую наведацца ў Гомель і Віцебск. Як правіла, гэта пратакольныя візіты да губернатараў абласцей з мэтай завязвання гаспадарча-эканамічных адносінаў, і я заўсёды еду з консулам і саветнікам па гандлі.

Паездкі таксама суправаджаюцца сустрэчамі з прадстаўнікамі арганізацый палякаў у Беларусі як буйных, так і невялікіх. У іх ёсць свае праблемы, некаторыя дапамагае вырашаць амбасада і мая краіна. Павінна сказаць, што ўсе гэтыя арганізацыі цалкам непалітычныя накіраванасці і ў асноўным падтрымліваюць тут традыцыі польскай мовы і культуры.

**— Амбасада аказвае фінансавую дапамогу гэтым арганізацыям?**

— Амбасада не мае такой магчымасці. Часам падобную дапамогу ў канкрэтных справах канкрэтным асобам аказваюць консульствы.

**— Ці займаецеся Вы непасрэдна пытаннямі эканамічнага супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі?**

— Эканомікай займаецца бюро саветніка па гандлі. Ад мяне патрабуецца, каб на ўсіх франтах супрацоўніцтва нашых дзвюх краін усё функцыянавала нармальна. Зараз я бачу адну з буйнейшых праблем у галіне эканамічнага супрацоўніцтва, таму лічу неабходным гэтае пытанне добра ведаць, каб адчыніць дзверы таму і другому боку для вырашэння праблем.

**— Вы задаволены сваёй дзейнасцю ў нашай краіне?**

— Дзейнасць толькі пачынаецца, толькі акрэсліваецца кола задач, і задач гэтых шмат, і рашэнне іх патрабуе шматлікіх кансультацый, іншы раз працяглых па часе. Я гэта добра разумею і ўвогуле не маю праблем, з якімі не магла б выйсці да беларускага боку. Няма таксама праблем, калі неабходна сустрэцца з пэўнымі асобамі, і людзі тут адкрытыя і гатовыя да супрацоўніцтва. Прынамсі, такія мае ўражанні сёння.

**— Поспехаў Вам — і, спадзяюся, да новых сустрэч, бо, маю надзею, што далейшыя адносіны паміж Польшчай і Беларуссю будуць часцей даваць для гэтага падставы.**

— Да сустрэчы.

*Гутарыў Ігар КЛОКАЎ*
*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

## Да Дзён культуры Беларусі ў Польшчы

# КРОК ПРАЗ ВАРШАЎСКІ МОСТ

Сёлета 19 мая ў Польшчы пачнуцца Дні культуры Беларусі. Упершыню наша суверэнная маладая рэспубліка будзе дэманстраваць дасягненні сваёй нацыянальнай культуры ў суседняй краіне. Ініцыятыва гэтага мерапрыемства нарадзілася ў Пасольстве Беларусі ў Варшаве яшчэ летась. Па нашым меркаванні, шырокая прэзентацыя беларускай культуры і мастацтва ў Польшчы, як і польскай у Беларусі (дарэчы, у наступным годзе пройдуць Дні культуры Польшчы ў Беларусі), стане важным крокам у развіцці добрасуседскіх адносін паміж дзвюма краінамі, дасць магутны імпульс для супрацоўніцтва ў галіне культуры, навукі, адукацыі, дазволіць наладзіць цесныя сувязі паміж грамадскасцю нашых краін.

Беларусь і Польшчу звязваюць шматвекавыя традыцыі добрасуседскіх адносін, асабліва гэта датычыцца духоўных, культурных, сяброўскіх сувязей. Часам цяжка знайсці тую мяжу паміж беларускасцю і польскасцю. Варта прыгадаць Адама Міцкевіча і Элізу Ажэшка, Міхала Клеафаса Агінскага і Станіслава Манюшка, творчасць якіх з'яўляецца неацэнным скарбам як польскай, так і беларускай гісторыі і культуры. Тое ж можна сказаць і пра Францыска Скарыну, Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янку Купалу, імёны якіх добра вядомы ў Польшчы.

Сёння палякі, што жывуць у Беларусі, развіваючы і памнажаючы традыцыі польскай культуры, павялічваюць тым самым унёсак беларускай культуры ў еўрапейскую і сусветную цывілізацыю.

Нельга не заўважыць і таго, што ўносяць у польскую культуру беларусы, якія жывуць сёння на тэрыторыі Польшчы. Прозвішчы беларусаў — празаіка Сакрата Яновіча, паэта Віктара Шведа, мастака Лявона Тарасевіча і іншых — можна паставіць у шэрагу найбольш выдатных дзеячаў польскай сучаснай літаратуры і мастацтва. Велізарную работу па захаванні і развіцці традыцый беларускага фальклору, звычаяў, архітэктуры праводзіць ужо больш за 40 гадоў Беларускае Грамадска-культурнае Таварыства з сядзібай у Беластоку. Гэта па яго ініцыятыве праводзіцца штогод Фестываль беларускай песні ў Беластоку, у якім удзельнічаюць сотні выканаўцаў з усёй Польшчы. Не менш папулярнае "Беларускае Купалле". Беларускую моладзь з усёй Польшчы збірае Фестываль сучаснай маладзёжнай музыкі "Басовішча". Цяжка сабе ўявіць якое-небудзь свята на Беласточчыне без удзелу беларускіх фальклорных калектываў "Маланка", "Васілёчкі", "Хлопцы-рыбалоўцы", іх — дзесяткі. Хутка ў Гайнаўцы закончыцца пабудова Музея беларускай нацыянальнай культуры, які, думаецца, стане цэнтрам духоўнага і грамадскага жыцця для беларускага асяроддзя ў Польшчы.

Калі мы гаворым пра нацыянальныя меншасці, беларускую ў Польшчы і польскую ў Беларусі, то трэба падкрэсліць, што ўрады Беларусі і Польшчы імкнуцца забяспечыць спрыяльныя ўмовы для захавання, развіцця і выказвання імі сваёй нацыянальнай, культурнай, моўнай, этнічнай самабытнасці, свабоды веравызнання. Гэта зафіксавана ў Дагаворы паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве ад 23 чэрвеня 1992 года, а таксама ў шэрагу іншых міжурадавых і міжведамасных пагадненняў. Асобнае месца сярод іх займае міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны.

Сёння Беларусь і Польшча маюць усе падставы і далей развіваць традыцыйныя сяброўскія адносіны і супрацоўніцтва ва ўсіх галінах. Гэта ў поўнай меры тычыцца і культурных сувязей, якія шырацца з года ў год.

Прыемна зазначыць, што ўсё часцей мы бачым нашых выканаўцаў на прэстыжных Міжнародных фестывалях, якія праходзяць у Польшчы. Яны дэманструюць высокі прафесійны ўзровень беларускага мастацтва. Варта згадаць міжнародны Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, на якім беларускія калектывы каторы ўжо год займаюць вядучыя месцы. Сапраўдай сенсацыяй XIII Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Фрыдэрыка Шапэна, аднаго з найбольш прэстыжных, стала выкананне твораў Шапэна маладым беларускім піяністам Андрэем Паначэўным, які хоць не здабыў прызавога месца, але сабраў сімпатыі публікі і спецыялістаў. З вялікім поспехам праходзяць спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы падчас традыцыйных тэатральных фестываляў у Беластоку. Апошнім часам актывізуюцца непасрэдныя кантакты паміж творчымі саюзамі Беларусі і Польшчы, нацыянальнымі ўстановамі культуры, артыстычнымі калектывамі. У якасці прыкладу можна назваць супрацоўніцтва Саюзаў кампазітараў Беларусі і Польшчы, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і драматычнага тэатра імя Венгеркі ў Беластоку. Плённае супрацоўніцтва ў галіне культуры — адзін з галоўных напрамкаў прыгранічных сувязей, непасрэдных сувязей паміж абласцямі Беларусі і ваяводствамі Польшчы, гарадамі-пабрацімамі.

Ужо некалькі гадоў кнігавыдаўцы нашай краіны выстаўляюцца на Міжнародным кніжным кірмашы ў Варшаве. Дарэчы, летась беларускія выдаўцы атрымалі ўзнагароду Фонду Польскай культуры за прапаганду польскай кнігі ў Беларусі. І сёлета Беларусь будзе адным з удзельнікаў кірмашу.

Пяць гадоў дзейнічаюць і актыўна супрацоўнічаюць беларускае таварыства "Беларусь — Польшча" і польскае "Польшча — Беларусь". Можна пералічыць нямала цікавых ініцыятыў і мерапрыемстваў, такіх, як алімпіяды беларускай мовы ў Польшчы, сумесныя канферэнцыі беларускіх і польскіх гісторыкаў, сустрэчы літаратараў і іншыя. Не магу не назваць і штогадовыя акцыі па аздараўленні беларускіх дзяцей у лагерах і дамах адпачынку. Дарэчы, такія дабрачынныя акцыі праводзяць штогод шматлікія дзяржаўныя, грамадскія арганізацыі, касцёл, звычайныя грамадзяне, якія запрашаюць дзяцей у свае сем'і. Карыстаючыся з нагоды, хачу выказаць вялікую ўдзячнасць усім тым, хто разумее і падзяляе боль Беларусі, якую жахлівым крылом накрыла Чарнобыльская трагедыя.

Як бачыце, кантакты паміж нашымі краінамі шырокія і разнастайныя. На наш погляд, прысутнасць беларускай культуры ў Польшчы будзе яшчэ болей заўважнай, калі ў Варшаве адкрыецца Цэнтр Культуры, перамовы аб праекце Пагаднення аб дзейнасці такіх цэнтраў — Беларускага ў Польшчы і Польскага ў Беларусі — ужо вядуцца.

Вяртаючыся да Дзён культуры Беларусі, хочацца выказаць спадзяванне, што яны стануць сапраўдным святам культуры нашай краіны ў Польшчы і прынясуць хвіліны сапраўднай радасці ўсім тым, у каго ад назвы Беларусь пачынае мацней біцца сэрца, адкрыюць блізкую і далёкую Беларусь тым, хто яе не ведае.

Творчасць геніяльнага Адама Міцкевіча, двухсотыя ўгодкі з дня нараджэння якога нашы народы будуць разам адзначаць у наступным годзе, гэта адна з тых многіх залатых ніцей, што аб'ядноўвалі і будуць аб'ядноўваць Беларусь і Польшчу.

**Віктар БУРСКІ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.**



*На здымку: Пасол Бурскі (другі справа) сярод удзельнікаў мастацкай самадзейнасці Беласточчыны.*

ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

МАЙСКІ АРТ-ВІТРАЖ

*5 мая — дзень народзінаў Станіслава Манюшкі*

# НЯХАЙ ЖЫВЕ ТАПОЛЯ, ШТО ПАМЯТАЕ СТАНІСЛАВА МАНЮШКУ!

***Як сімвал, сімвал таго, што памяць можа перажыць стагоддзі. І як напамін людзям, што нельга забывацца на сваю спадчыну, сваіх знакамітых продкаў. Такія думкі ўзніклі ў мяне падчас размовы з Віктарам СКОРАБАГАТАВЫМ, салістам Опернага тэатра, мастацкім кіраўніком "Беларускай капэлы", старшынёй Беларускага фонду імя Станіслава Манюшкі.***

**— Спадар Віктар, чаму так сталася, што постаць Манюшкі доўгі час не вывучалася і наогул была малавядомай на Беларусі?**

— Гэта сапраўды вельмі дзіўная з'ява. Думаю, яна была ў пэўным сэнсе звязана і з тагачаснымі палітычнымі нюансамі. Культура Беларусі доўгі час нібыта пачыналася толькі з 1917 года, што, зразумела, не адпавядала рэальнасці. Шмат хто з простых недасведчаных людзей і нават з музыкантаў быў упэўнены, што Манюшка нарадзіўся ў Польшчы. І зараз яшчэ некаторыя палякі лічаць, што Манюшка нарадзіўся ў Кудове, дзе праходзяць Манюшкаўскія фестывалі. Праўда, трэба прызнаць, што ў Польшчы сітуацыя значна лепшая, чым на Беларусі, там ужо выдадзены поўны збор твораў Манюшкі, выдадзеныя ўсе ягоныя лісты. Шмат гадоў існуе фестываль у Кудове. Нам пакуль не ўгнацца за нашымі польскімі калегамі і сябрамі, але тым не менш, я спадзяюся, дагонім.



**— Калі і кім быў створаны Беларускі фонд імя Станіслава Манюшкі?**

— Фонд існуе з 1993 года. Шмат хто прымаў удзел у яго стварэнні: Міністэрства культуры Беларусі, "Беларуская капэла" — бо мы ўвогуле займаемся справай узнаўлення музычнай культуры Беларусі, — а таксама асобныя людзі. Мы паставілі сабе за мэту, каб як мага болей прагучала твораў Манюшкі і, пажадана, у манаграфічным выглядзе. У нас было шмат праграм, цалкам створаных па Манюшку, на радыё мы запісалі ўжо болей за 120 розных твораў Манюшкі. Я спадзяюся, што манюшкаўскі рух ужо спыніць немагчыма, манюшказнаўства на Беларусі шырыцца.

Увогуле апошнім часам у канцэртах гучыць многа твораў Манюшкі, а з цягам часу будзе яшчэ болей, бо з'яўляюцца выданні яго твораў, якія раней цяжка было знайсці.

**— Якія ў Беларускага фонду імя Станіслава Манюшкі стасункі з падобнай арганізацыяй у Польшчы — Таварыствам Манюшкі?**

— Выдатныя! У нас поўнае ўзаемаразуменне і плённае супрацоўніцтва. Да нас часта прыязджае старшыня гэтага Таварыства пані Марыя Фолпын. У 1993 годзе на Манюшкаўскім фестывалі, паводле прызнання пані Марыі, самыя цікавыя моманты былі звязаны з нашым удзелам — упершыню прагучалі за 32 гады існавання фестывалю "Свіцязянка", арыя камісара Банавентуры Выкрутага з "Ідыліі" ("Сялянкі"). Рэдка на фестывалі выконваліся творы Манюшкі на вершы Сыракомлі "Лірнік вясковы" — а мы выканалі два нумары. Вельмі цікавым было супрацоўніцтва на тым фестывалі, а праз год узнёсла прайшлі Дні Манюшкі ў Мінску.

**— Раскажыце, што ўжо дасягнута ў справе вывучэння дзейнасці Манюшкі на Беларусі?**

— Справа ў тым, што хоць Манюшка наш суайчыннік, болей за тое — ён мінчук, мы мала пра яго ведаем. Апошнім часам сітуацыя змянілася. Я вось пра што. Як было зазвычай у шляхты, у Манюшкі была летняя рэзідэнцыя — сядзіба Убель, за 30 кіламетраў ад Мінска, дзе, дарэчы, і нарадзіўся Станіслаў Манюшка. Падчас Вялікай Айчыннай вайны там праходзіла лінія фронту і было знішчана літаральна ўсё. Засталася толькі адна таполя, якая бачыла Станіслава Манюшку, — па малюнках Напалеона Орды, па розных дакументах узнаўляецца гэтая сядзіба, прычым у тым выглядзе, які мела, калі нарадзіўся Станіслаў.

Практычна ўсе архітэктурныя помнікі, звязаныя з імем Манюшкі, адзначаны — гэта і сядзіба Убель, і дом Манюшкаў у Мінску на вуліцы Інтэрнацыянальнай; на доме, у якім была гімназія, дзе вучыўся Манюшка, усталявана мемарыяльная дошка. Намаганнямі Несцяровічаў, бацькі і дачкі, непасрэдна на тым месцы, дзе знаходзілася сядзіба Убель, у школе створаны музей Станіслава Манюшкі, адзіны ў свеце.

Але ўсё гэта, я лічу, няпоўна, бо ў гэтым ланцугу не хапала аднаго звяна — выканання музыкі Станіслава Манюшкі. І мы пачалі мэтанакіравана рыхтаваць праграмы — спачатку я з Ганнай Каржанеўскай праспяваў у 1992 годзе манаграфічную праграму "Манюшка на радзіме", праз год з ансамблем салістаў "Класік-авангард" і некаторымі іншымі салістамі Опернага тэатра — Міхаілам Жылюком, Нінай Казловай — удзельнічалі ў штогадовым фестывалі Манюшкі ў Польшчы. У 1994 годзе грунтоўна адзначылі 175-годдзе з дня нараджэння Манюшкі — быў сімфанічны канцэрт з удзелам і польскіх, і беларускіх выканаўцаў, харавая капэла імя Рыгора Шырмы таксама брала ўдзел у гэтым канцэрце, быў камерны канцэрт, на якім, мы, абапіраючыся на лісты Манюшкі, стварылі як бы спектаклі — сустрэчу Дуніна-Марцінкевіча і Станіслава Манюшкі. Ролі выконвалі артысты Купалаўскага тэатра — Валерый Філатаў (Дунін-Марцінкевіч) і Віктар Манаеў (Станіслаў Манюшка). Выконваліся творы, прысвечаныя Манюшку, — кампазітар Уладзімір Дарохін спецыяльна да той падзеі напісаў скрыпічную фантазію на тэму оперы "Галька", якая ўпершыню была выканана ў касцёле Святога Роха, адбылася імша, прысвечаная памяці Станіслава Манюшкі, гучала музыка з ягоных малітоўнікаў.

Летась мы выдалі першы зборнік твораў Станіслава Манюшкі — рамансы і песні на вершы Яна Чачота, дарэчы, сабралі ўсе 22 творы. Галіна Каржанеўская зрабіла музычную рэдакцыю выдання, а Уладзімір Мархель падрыхтаваў вершы, рабіў каментары, мы разам напісалі прадмову. Зараз ужо падрыхтаваны наступны зборнік і ён хутка выйдзе з друку — усе творы Манюшкі на вершы Уладзіслава Сыракомлі. У наступным годзе мы плануем выпусціць два тамы твораў Манюшкі на вершы Адама Міцкевіча.

Вось такім шляхам мы ідзем і распаўсюджваем на Беларусі веды пра Станіслава Манюшку і ягоныя творы. Ён варты таго, каб мы памяталі, што гэты выдатны кампазітар — наш зямляк. Я спадзяюся, што хутка мы зможам пачуць і оперныя творы Манюшкі, як калісьці на сцэне нашага Опернага тэатра ішлі "Страшны двор" і "Галька".

**— Упэўнены, што гэта адбудзецца сапраўды хутка. Дзякуй Вам за размову.**

Міхась БАШУРА

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# ВЯЛІКІ ВІТОЛЬД ЕДЗЕ Ў ВАРШАВУ

***З Камісарам выставы жывапісу В.Бялыніцкага-Бірулі, якая падрыхтавана для паказу варшавянам, галоўным захавальнікам Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Мікалаем ПАГРАНОЎСКІМ гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Мікалай Міхайлавіч, як адбіраліся творы для выставы Бялыніцкага-Бірулі?**

— Карціны выбіраліся разам з віцэ-дырэктарам Дэпартамента міжнародных сувязяў і Палоніі панам Кшыштафам Цветчам — прога з выставы мастака, прымеркаванай да ягоных 125-х угодкаў з дня нараджэння, што ў сакавіку экспанавалася ў нашым музеі.

**— Ці былі якія-небудзь спрэчкі пры адборы твораў?**



— Прынцыповa — не. Праўда, пан Светч сказаў, што, безумоўна, усё гэта цудоўна, але прасіў больш паказаць твораў, выкананых Вітольдам Каятанавічам менавіта на Беларусі, на радзіме...

**— Што гэта значыць?**

— Ён удакладніў, што мастак усё ж — беларус, а не расеец. Я спрабаваў растлумачыць яму, што ён беларус, нарадзіўся на Магілёўшчыне, але адукацыю атрымаў у Расіі, там цалкам сфармаваўся як мастак, правёў большую частку свайго доўгага жыцця, жыў разам з сям'ёю, а радзіму наведваў толькі зрэдку. І немагчыма так штучна "разрэзаць" на часткі, "па-жывому" ягоную творчасць: гэта, маўляў, беларуская частка, а гэта — руская. І калі б мы нават вельмі жадалі, наўрад ці знойдзецца ў нас для такой выставы неабходная колькасць твораў, напісаных менавіта на Беларусі.

**— І што адказаў пан Светч?**

— Ён пагадзіўся з нашымі меркаваннямі, адзначыўшы, што канчатковае рашэнне пры выбары твораў застаецца за беларускім бокам. Пан Светч дадаў таксама, што, на ягоную думку, выстава варшавянам спадабаецца, але яго непакоіць тая акалічнасць, што залы, выдзеленыя для выставы, невялікія па памерах, і шмат карцін там размясціць будзе вельмі цяжка.

**— А што гэта за памяшканні?**

— Для высвятлення гэтага пытання я спецыяльна наведаў Варшаву. Там мне былі прапанаваны два варыянты: галерэя сучаснага мастацтва "Захента" альбо музей Кардзгарда ў палацава-паркавым комплексе Лазенкі. Я абраў другі варыянт. Чаму? Па-першае, музей — аднапавярховы будынак класічнага ўзору — месціцца ў цудоўным, вельмі папулярным у жыхароў Варшавы парку, недалёка ад помніка Шапэну, па-другое, сама зала для нашай выставы падалася мне ідэальнай: светлая, утульная.

**— Колькі твораў вялікага мастака можна тут размясціць?**

— Я падлічыў усю экспазіцыйную плошчу і адразу, паводле каталога, абраў трыццаць шэсць твораў: ні больш, ні менш.

**— Такім чынам, з шасцідзесяці адной карціны нашай музейнай экспазіцыі ў Варшаву паедуць трыццаць шэсць?**

— Так. І згодна з просьбай польскіх калег акцэнт мы зрабілі менавіта на беларускіх матывах у творчасці мастака. І яшчэ. Калекцыю мы падабралі такім чынам, каб паказаць польскаму гледачу пейзажы розных гадоў, пачынаючы з ранніх — "Хуткаплынная рэчка", "Ля млына", "Час цішыні" і скончваючы творамі, напісанымі ў 40 — 50-я гады — "Аголеныя бярозкі", "Надвячорак юнага траўня", "Яблыні квітнеюць", "Беларусь. Пачатак траўня", "Зялёны травень", "Вясна ідзе" і іншымі.

**— А як з рэкламай?**

— Рэклама наступная: плакат, каталог (тэксты напісаны, натуральна, на польскай мове). Спадзяёмся на сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку і на газету "Культура". Я чуў, што спецыяльна да Дзён беларускай культуры ў Варшаве вы рыхтуеце нумар на польскай мове?

**— Так. І плануем змясціць матэрыял пра творчасць Бялыніцкага-Бірулі. Калі адкрыецца выстава?**

— 19 траўня. Увогуле, Дні беларускай культуры ў Варшаве працягнуцца да 22 траўня, але наша выстава будзе працаваць да 2 чэрвеня.

**— А ці плануецца наладзіць Дні польскай культуры на Беларусі?**

— Так. Цяпер, аднак, не магу дакладна сказаць, калі. Хацелася б адзначыць толькі, што сёлета на снежань у нашым музеі запланавана выстава жывапісу прафесара Пазнаньскай Акадэміі мастацтваў Ежы Навасельскага.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

### ЯК САЦРЭАЛІЗМ ПЕРАМОГ БЕЛАРУСЬ

# МАЛЕЧА ЦАХЕС У ГАРШКУ, або ФАНТАН ЧЫРВОНАЙ ФАРБЫ

### Артыкул першы

Нядаўна адзін з найстарэйшых жывапісцаў сказаў мне з болем: "Вось вы, крытыкі, прыклалі нямала намаганняў да таго, каб прынізіць сацыялістычны рэалізм. І што ж? Хіба мастацтва стала лепшым? Альбо мастакі пачалі лепей жыць? Нічога падобнага! У тыя часы мы і бяды не ведалі. Так, пісалі правадыроў, калгасныя святы, зборы ўраджаю, заводскія будні, перадавых даярак і механізатараў, асушэнне балотаў, магутную Чырвоную Армію — ну дык што? Каму гэта перашкаджала? А жылі мы, шчыра кажучы, як "белыя людзі": заўсёды была праца, добрыя ганарары, адсутнічалі праблемы з фарбамі, пэндзлямі, падрамнікамі, багетам... А цяпер, каб набыць што-небудзь — ніякай пенсіі не хопіць. Нас, мастакоў, паважалі на ўсіх узроўнях партыйнай і савецкай улады. Ды і майстэрні нашыя пастаянна наведвалі кіраўнікі ўсіх рангаў. За неабходнай дапамогай можна было звярнуцца ў ЦК — там, зазвычай, ішлі насустрач...".

Што я мог адказаць? Сапраўды, настальгічныя ноты па адышоўшым у нябыт сацрэалізме, а значыць, і па часе, што яго ўзгадаваў, усё часцей даводзіцца чуць у мастакоўскіх кулуарах. Прыклады бяруцца наступныя: а што, позні Вітольд Бялыніцкі-Біруля, Віталь Цвірко, Андрэй Бембель, Заір Азгур, Яўген Зайцаў, Іван Ахрэмчык, Валянцін Волкаў, Аляксандр Мазалёў, Аляксандра Паслядовіч стваралі хіба ў іншую эпоху? А Міхаіл Савіцкі, Леанід Шчамялёў, Віктар Грамыка, Гаўрыла Вашчанка, Май Данцыг, Георгій Паплаўскі, Арлен Кашкурэвіч, Анатоль Анікейчык, Уладзімір Стамальшонак, Аляксандр Кішчанка, Васіль Сумараў, Андрэй Заспіцкі — хіба не ў эпоху сацрэалізму яны ўвайшлі ў вялікае мастацтва? А пры якой сістэме быў дасягнуты вялікі прагрэс у асваенні космасу, у спорце, літаратуры, балеце, музыцы?

Развітваючыся, мастак-ветэран напеў мне куплет: "Всё хорошее в прошлом/ Нам забыть не дано,/ Это было недавно,/ Это было давно..."

Я падумаў: дык што, атрымліваецца, што мінулае цягне назад? Ці ўсё ж трэба ісці наперад? Што рабіць? Хаця такая настальгія па даўно мінулым цалкам зразумелая. Сёння большасць мастакоў апынулася ў такім катастрафічным становішчы, якое нашым папярэднікам, дзеячам культуры, і не снілася. Аднак і ў тыя "незабыўныя" часы "поўнай і канчатковай перамогі сацыялізму", і ў перыяд "развітага сацыялізму" былі не толькі ўрадавыя замовы па афармленні вуліц і плошчаў да рэвалюцыйных святаў, па выкананні "гістарычнага" плана манументальнай прапаганды, былі не толькі добрыя майстэрні для "выбітных" майстроў сацрэалізму, узнагароды, Сталінскія і іншыя прэміі і іншыя даброты ідэалагічным "паслугачам" партыі.

Было і ўмацаванне "класавай барацьбы" на шляху да "светлай будучыні", былі і "ворагі народа", "контррэвалюцыйныя змовы", "шкодніцтва", "тройкі", расстрэлы і бясконцыя этапы ў нябыт. І ўсё гэта пад "бурныя і працяглыя апладысменты" народных мас пад кіраўніцтвам "бацькі сацыялістычнага рэалізму" Сталіна і ягоных вучняў — "верных ленінцаў".

І яшчэ былі доўгія, закручаныя чэргі за чорным хлебам на пачатку 50-х (я сам неаднаразова стаяў у такіх чэргах). Былі і знакамітыя падаткі на кожнае дрэва ў сялянскім садзе, і суды над тымі, хто спазніўся на працу, і палітычныя працэсы над дысідэнтамі. Памятаю падзеі ў Навачаркаску ў 62-м: я быў там 5 чэрвеня, праз два дні пасля расстрэлу рабочых-дэманстрантаў, якія выйшлі на вуліцу з пратэстам супраць падвышэння коштаў. Гэта толькі адна са злачынных акцый камуністычнага рэжыму супраць працоўных, чые інтарэсы ён нібыта абараняў. І нават вялікі гуманіст, найаўтарытэтнейшы Міхаіл Шолахаў, які жыў недалёка ад вышэйпамянёнага месца, прамаўчаў...



*Помнік І.Сталіну на Цэнтральнай плошчы ў Мінску, побач стаяць адзін з аўтараў манумента Андрэй Бембель і Барыс Няпомняшчы. 1954 г.*

"Безвременье вливало водку в нас", — гэта сказаў Высоцкі пра 70-я гады, пра шматлікія асабістыя драмы таленавітых людзей. Розныя бакі адной і той самай з'явы ў эпоху застою, настальгічнай для многіх маіх сучаснікаў, спалучаліся і спараджалі той жа эфект, што і знакаміты кубік Рубіка: кубік круцілі ў далонях — і знікалі таленты, аплочваючы рахункі часу. Співаліся, рабіліся слабымі, бязвольнымі, усё лягчэй ішлі на кампрамісы. Іншыя, наадварот, рабіліся жорсткімі, зласлівымі, больш цынічнымі. Час сціскаў, разбураў, камячыў. Асабліва — маладых. Гэта быў своеасаблівы бег па коле. Замкнёным коле. І, калі пайсці далей, можна вярнуцца да забытага старога: бег у патыліцу адзін за адным...

А што да матэрыяльных даброт для мастакоў, дык далёка не ўсе яны былі "белымі людзьмі". Многія галадалі, жабрачылі, жылі ў "падполлі", так бы мовіць, у своеасаблівым "скіце", дзе для сябе і сваіх сяброў стваралі падпольнае, нефармальнае мастацтва, не маючы ні майстэрняў, ні прыстойнага жытла, ні дамоваў, ні прызнання "народа". А некаторыя з іх проста заўчасна пайшлі з жыцця. Узгадваю сумныя лёсы таленавітых мастакоў А.Валатовіча, А.Сурмача, К.Сарокі, А.Пятрухны, У.Мазалёва, Г.Абухава, М.Лазюка, А.Кузьміча, У.Паражняка, У.Дубравы...

Так, быў час, калі і "кошты зніжалі", і калі можна было набыць "за трыццатку — прыёмнік, за сто дваццаць — касцюм". Але гэта быў час прыніжэння чалавечай годнасці і бессаромных кампрамісаў. Можна прывесці дзесяткі прыкладаў, калі мастак, які зрабіў таленавіты эскіз альбо гатовую карціну, вымушаны быў перапрацоўваць выпакутаваную работу, каб дагадзіць "партыйным" густам тупых чыноўнікаў, што "кіравалі" нашым мастацтвам. Ну, а той, хто не ішоў на кампрамісы, рабіўся альбо "фармалістам", альбо здраднікам "генеральнай лініі партыі ў справе далейшага бальшавіцкага разгортвання культуры і мастацтва, вартых вялікай эпохі сацыялістычнага будаўніцтва".

Пасля размовы з тым старым мастаком у мяне і з'явілася думка напісаць гэтае эсэ. І ў ім паспрабаваць асэнсаваць шлях, па якім метад сацрэалізму, "аплоднены высокімі камуністычнымі ідэаламі", стаў "глыбокім скачком у мастацкім развіцці чалавецтва", увайшоўшы, дакладней, уварваўшыся ў беларускае мастацтва 30-х гадоў.

Сёння наспеў час зразумець сэнс таго, што з намі, з нашай культурай, тады адбылося. Гэта неабходна для выпрацоўкі новых базавых каштоўнасцей, патрэбу ў якіх сённяшняе пакаленне, што разгубілася сярод "рынкавага сацыялізму", інтуітыўна адчувае амаль фізічна. Калі мастацтва гэтага не зробіць — яно нічога не вартае. Зялёнае святло запаліцца тады толькі для новых зомбі і тэрмінатараў...

Час перамогі метаду сацрэалізму на Беларусі — гэта час абстракцый, якія чамусьці зваліся ідэаламі і непадзельна кіравалі людзьмі, нібыта таямнічыя, нябачныя "найвышэйшыя" істоты. Людзі сапраўды не бачылі іх, не адчувалі ні смаку, ні паху, але падпарадкоўваліся ім, як хворыя падпарадкоўваюцца гіпнозу, а лунацікі — рухам светлавых хваляў месяца.

Гіпноз гэты захоўвае сваю моц і цяпер, асабліва ў асяродку найстарэйшых творцаў. Так, ідэя для нас вышэйшая за рэальнасць, а абстракцыя — за чалавечыя пачуцці. Мы ўсё яшчэ паўтараем формулу Маркса: свядомасць вызначаецца быццём. Але вопыт XX стагоддзя цалкам знішчае яе: не свядомасць вызначалася быццём, а быццё вызначалася свядомасцю, ідэяй, тэорыяй. Нашае стагоддзе зрабілася эпохай гвалту над жыццём, гвалтам абстракцыі над чалавекам, міфаў над рэальнасцю.

Тэрмін "сацрэалізм", які ўпершыню прагучаў падчас прамовы старшыні Аргкамітэта Саюза пісьменнікаў І.Гронскага 12 студзеня 1932 года, — гэта стварэнне Сталіна, стварэнне эпохі 30-х гадоў. Менавіта тады быў вынайдзены гэты гістарычны фантом, які панаваў больш за 50 гадоў і на Беларусі. Паўвека здзекаваўся ён з нашай культуры, аддзяляючы "чыстых" ад "нячыстых", узнагароджваючы адных і караючы іншых. І толькі нядаўна многія ўбачылі, што гэта — Малеча Цахес, які ўтапіўся ва ўласным гаршку. Дзе цяпер гэтыя панылыя і тужлівыя велізарныя палотны, фільмы, кнігі, оперы лаўрэатаў (двойчы і тройчы!) і дэпутатаў, верных сцяганосцаў абстракцыі, што тады здавалася "самай перадавой"? Перадавой яна магла быць толькі ў тым сэнсе, што першай звалілася ў "яміну гісторыі"?

За часы шматгадовага панавання на Беларусі дзяржаўнага мастацтва (назавем яго так), замоўнага рэалізму былі ўзарваныя велізарныя пласты культуры, страчаны шматвяковы вопыт духоўнага мыслення і інтэлектуальнага развіцця. Пад фанфары мастацтва будаваліся фабрыкі і заводы, узводзіліся палацы і плаціны, умацоўваліся калгасы, ішлі бітвы за ўраджай, асушаліся балоты. Карацей, мянялася аблічча зямлі, але дух заставаўся на месцы, бо ён упіраўся ілбом у канчатковую ісціну. Культура гадавалася, нібыта лысенкаўская пшаніца, нібыта хрушчоўская кукуруза, — яе навязвалі, ёй уводзілі ін'екцыі ў выглядзе "перадавых ідэй". Культуру падмянялі ўсеагульнай пісьменнасцю. Але ж культура — не сума ведаў, а імкненне да святла.

Навошта мастакам высоўваць недахопы, калі відавочныя гістарычныя перамогі? Навошта вышукваць цяжкасці, калі "живем мы весело сегодня, а завтра будет веселей"? Навошта выказваць незадаволенасць калектывізацыяй? Хто наважыцца выказаць сумненне ў вінаватасці "ворагаў народа", калі Ліён Фейхтвангер разам з тава-

# ДЫКТАТ І СВАВОЛЯ

## Прыцiскалі? Дыктавалі? Падпарадкоўвалі? Шасцідзесятнікі разам з усім станоўчым зрабілі вельмі кепскую справу...

***Юрый Мікалаевіч Цвяткоў добра вядомы нашаму кінагледачу. Плённа працуючы ў беларускім кінематографе ўжо ў 60-я гады, ён быў у свой час рэжысёрам не толькі мастацкіх, але і шэрага адметных дакументальных фільмаў: "Памяць каменя", "Песні Палесся" і інш. За цыкл дакументальных стужак у 1986 г. Юрый Цвяткоў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. За даволі доўгі тэрмін творчай работы на "Беларусьфільме", дзе давялося працаваць не толькі ў якасці рэжысёра, але, пазней, і дырэктара кінастудыі, Юрый Мікалаевіч супрацоўнічаў з многімі беларускімі пісьменнікамі-сцэнарыстамі. Цяпер Юрый ЦВЯТКОЎ — намеснік міністра культуры Беларусі. Абнадзейвае, што на такой пасадзе працуе творчы чалавек, якому не чужыя праблемы іншых творцаў. Успаміны Юрыя Мікалаевіча, яго разважанні, меркаванні аб беларускім кінематографе і, наогул, аб мастацтве сталі тэмай для сённяшняй гаворкі з карэспандэнтам "К".***

**— У Вас багатая творчая біяграфія. Адна з першых работ на "Беларусьфільме" — мастацкі фільм "Анюціна дарога". Помню ўражанні ад гэтай стужкі, якая прайшла на экранах напрыканцы 60-х, поміцца своеасаблівая аўра гэтага фільма. Раскажыце, як працавалі над фільмам, як Вы пачыналі?**

— Калі гаварыць пра "Анюціну дарогу", то найперш успамінаецца Кастусь Губарэвіч. Якраз ён пісаў сцэнарый да гэтага фільма, як і яшчэ да чатырох, якія мы здымалі разам. Трэба сказаць, што я ўдзячны лёсу, што мне, тады яшчэ дыпломніку-аператару, выпала такая цікавая творчая сустрэча. Гэта быў неардынарны чалавек, багаты духоўна і, у той жа час, вельмі прыхаваны. Назіраючы яго з раніцы да вечара на здымачнай пляцоўцы, я не пераставаў здзіўляцца ягонай сабранасці, уменню мякка, інтэлігентна падпарадкоўваць калег свайму стылю работы, ствараць творчы настрой, які так неабходны на здымачнай пляцоўцы. Прыгадваюцца яго спрэчкі з рэжысёрам Голубам на здымках фільмаў "Анюціна дарога" і "Дзяўчынка шукае бацьку". Леў Голуб — высокі, статны — гучна даказвае нешта Губарэвічу, той быццам бы пагаджаецца, маўкліва пазіраючы на суразмоўцу. Вось ужо быццам бы і згадзіўся, што гэтую сцэну трэба здымаць па-іншаму, і раптам: "Пачакай, пачакай, а як жа зацверджаны сцэнарый, чалавек пісаў, выношваў у сабе, а мы? Не, трэба здымаць адпаведна сцэнарыю!" Ён заўсёды выйграваў гэтыя баі з Голубам. Нешта было ў ім такое, што прымушала падпарадкоўвацца яму, лічыцца найперш з яго думкай. А разам з тым, тады ўжо вядомы драматург, Губарэвіч выглядаў як звычайны настаўнік, заўсёды "сам у сабе", нешматслоўны, спакойны, ціхі і, я сказаў бы — сумны. Спрабуючы аналізаваць яго паводзіны, я прыйшоў да высновы, што гэтага чалавека, гэтую творчую асобу сфармаваў той час, у якім ён жыў. Нямногія з пакалення Губарэвіча пазбеглі рэпрэсій, больш паловы СП Беларусі было вынішчана турмамі, лагерамі, ссылкамі. Тая ж частка беларускай інтэлігенцыі, што ацалела ў 30-я — 50-я гады, навучылася трымаць свае думкі і пачуцці падалей ад чужога вока і вуха. Вось і Губарэвіч быў такі: абы не вырвалася лішняга слова, якое магло б растлумачыць яго як чалавека, раскрыць ягоную сутнасць...

**— Гэтая прыхаванасць у той ці іншай ступені была характэрная для ўсяго творчага пакалення, якое прайшло праз час рэпрэсій.**

— Так, ёсць дакументальныя кадры, дзе адзін з пачынальнікаў беларускага кіно драматург Рыгор Якаўлевіч Кобец расказвае пра тое, што перажыў пасля арышту ў трыццатыя гады. Ён вярнуўся ў Беларусь зусім хворы і нашай здымачнай групе было цяжка супрацоўнічаць з ім. Але не быў зломлены духам. І гэта не "высокі штыль", так было сапраўды. Ён ведаў аб арышце напярэдадні. Як ён ні хаваўся, але ж усё роўна злавілі. Былі першыя допыты, здзекаваліся да таго моманту, пакуль не страчваў прытомнасць. Потым, калі ачуньваў, клалі на драўляную лаўку і білі па пятках. Праз нейкі час ні спінны, ні галаўны мозг не мог працаваць, і чалавек у такім стане мог падпісаць любы дакумент, "ператварыцца" ў сведку тых падзей, якія ніколі не адбываліся. Канешне, сёння цяжка ўявіць сабе выдатную постаць гэтага чалавека, аўтара сцэнарыяў шэрага знакамітых беларускіх фільмаў і аднаго з самых папулярных — "Шукальнікі шчасця". Цікава не тое, што з цітраў фільма, які ў той час ведалі літаральна ва ўсім свеце, было выкрэслена прозвішча аўтара. Цікава іншае — што ў гэтыя ж часы вядомы драматург "плённа" працаваў на лесапавале.

**— Якія жорсткія катаванні перанёс гэты чалавек!**

— Катаванні страшэнныя, але калі пра тых, хто гэта рабіў, кажуць "звяры", я думаю, што гэта задужа



*Уладзімір Караткевіч, ягоная жонка Валянціна і Юрый Цвяткоў.*

рышам Сталіным пасмяяўся над вялікай колькасцю партрэтаў правадыра, але пацвердзіў: працэсы ў СССР праводзіліся законна, падсудныя чыстасардэчна прызнаваліся ў сваіх цяжкіх злачынствах перад народам. А чаму асобных дысідэнтаў цікавяць заходнія мадэрністы? Адкуль гэтае пакланенне? Навошта прыгадваць паразы 41-га, калі вайна пераможна скончылася ў 45-м? Каму якая справа да палеглых, да тых, чый лёс дасюль невядомы, калі кавалеры Залатой Зоркі, вярнуўшыся з фронту, паўсюль робяць цуды? І наогул: каму гэта выгадна? На чый млын ліецца вада? Ці не з чужога голаса песня?

"Ворагаў народа", сярод якіх былі тысячы інтэлігентаў, у выніку ўсё больш моцнай "класавай барацьбы" з'явілася бездань. Пры Сталіне адных знішчалі, іншых гнаілі ў турмах і лагерах, а трэція — іх большасць — працягвалі ствараць "для народа", нібыта нічога і не адбылося. І далёка не ў кожнага з гэтых "трэціх" варта кідаць камень, абвінавачваючы ў палахлівасці і падлізніцтве.

Памятаеце, дзяўчынка ў "Катлаване" Андрэя Платонава ўспрымала нявінныя геаграфічныя мерыдыяны не інакш як "загародкі ад буржуяў"? А Агееў з аповесці Васіля Быкава "Кар'ер", якога ўратавала ад фашыстаў жонка святара Бараноўская, — як пакутліва спрабаваў спалучыць у душы нармальнае чалавечае пачуццё ўдзячнасці і неразважлівую вернасць прынцыпу "класавага падыходу"?

Формулы і догмы сацрэалізму на працягу дзесяцігоддзяў служылі адміністрацыйна-бюракратычнай сістэме з мэтай адлучэння творчых дзеячаў ад мастацкай культуры. У імя сацрэалізму здзяйсняліся здзекі над цудоўнымі мастакамі, пісьменнікамі, паэтамі, музыкантамі, кінематаграфістамі, тэатральнымі дзеячамі.

Аднак наступ на мастакоў, якія ішлі "не ў нагу", раней за іншыя рэгіёны Савецкага Саюза пачаўся на Беларусі.

І гэты працэс доўжыўся амаль да знакамітай "адлігі" 60-х, у час якой творцы ўпершыню нібыта ўзнялі галовы. Але да гэтага было яшчэ далёка...

**Барыс КРЭПАК**

# "...НА НЕРВАХ ТЧЭЦЦА"

Якраз гэтыя рысы здаюцца мне найбольш вызначальнымі для таленту Раісы Баравіковай — паэткі і грамадскага дзеяча, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова і Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Па знешніх параметрах шлях яе тыповы для тых, хто сёння складае творчую эліту Беларусі і хто, пачынаючы з пасляваеннай пары, прыходзіў у ВНУ сталіцы з вёсак і мястэчак, радзей — з абласных гарадоў. "Сена на асфальце" — ахрысціў некалі гэты працэс Міхась Стральцоў. Розніца, хіба, у тым, што Раіса "вярнулася" ў Мінск з Масквы, з Літаратурнага інстытута, які шмат талентаў выпеставаў, але і шмат заглынуў і, пражаваўшы (альбо не пражаваўшы), выплюнуў, бо, зарыентаваны выключна на геніяў, не даваў галоўнага — маральнай апоры ўнутры самога сябе. Маладая дзяўчына, што прыехала туды з быхаўскай раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" (куды, у сваю чаргу, трапіла з Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе нарадзілася), змагла захаваць сябе, свой свежы, яркі талент і адначасна ўзяць лепшае, што дае Літаратурны інстытут — шырыню поглядаў і шліфаванне тэхнікі верша. Праўда, у "Рамонкавым беразе" выразна адчуваецца пэўная рамантычная "літаратуршчына", але затое ёсць нязвыклая для беларускай жаночай паэзіі раскаванасць, нават, калі хочаце, страснасць. У той час, калі рыхтаваўся гэты першы зборнік, Раіса абжывала беларускую сталіцу, як і усе мы, пускаючы карэньчыкі ў непадатлівы мінскі асфальт, дзе, аднак, лягчэй згубіцца ў адзіноце, так неабходнай для творчасці. Гэта быў час, калі кожны з тых, хто азваўся словам, тым больш — беларускім, быў пры асаблівым доглядзе — і наглядзе.

З наступным зборнікам яна не надта спяшалася, ён выйшаў праз чатыры гады, і назва яго як найлепей адпавядала зместу — "Слухаю сэрца". Затым пайшлі "Такое кароткае лета" (81 г.), "Адгукнуся голасам жалейкі" (84 г.), "Каханне" (87 г.) і, нарэшце, "Люстэрка для самотнай".

Дзіўна, але той падспудны жар, які быў у ранніх вершах, не толькі не згас, але як бы ўзмацняўся ад зборніка да зборніка. Рамантычная "дзяўчынка на шары" сышла з калыхлівых бакавін каляровага ўзвышша і пайшла сваёй дарогай, цвёрда ступаючы па зямлі,

***Зайздросціць паэтцы могуць толькі тыя, каму ейны выхад "на людзі", на сцэну, дзе яна коратка ўладарыць разам з магіяй свайго слова, свайго імені, здаецца сутнасцю і знакам усяго яе жыцця і хто вядомыя высновы аб тым, што ўсё гэта — вынік цяжкай працы, неяк незаўважна прапускае міма вушэй, а бачыць тое, чаго хацелася б яму самому... Тыя ж, каму добра знаёмы менавіта гэты бок, не асветлены "юпітэрамі" — мітульга з выдавецкімі планамі, адносіны з крытыкай, а самае галоўнае — напружаныя гадзіны над радком, якія бяруць шмат сіл і здароўя, — патаварыску радуюцца іншаму: здольнасці дайсці да сарцавіны з'явы, уменню знайсці свежае, яркае слова, непасрэднасці, якая не губляецца з гадамі.***



ад якой атрымлівала і атрымлівала ўсё новыя сілы, што часам ажно перапаўнялі: "Цяжэюць грудзі ад жадання,/ засведчы сам усё і згінь,/ ужо лунае жар спаткання/ у шолахах начных вяргінь." ("Не трэба папракаць у здрадзе")

Аднак паэтка ўсё роўна роднасная небу, ягоным законам, таму яе жыццё "гэта слізкая ў восень хада па няроўнаму тонкаму промню", адчуваць які можна толькі абвостранай інтуіцыяй — і Дарам...

Дар у беларускага мастака (маю на ўвазе мастацтва Слова) — гэта нешта зусім асаблівае, адрознае ад таго, што нясуць з сабою і ў сабе паэты іншых народаў. Беларускую кнігу чытаюць усё меней, кола ўжытку мовы ўсё звужаецца — літаратура не перастае даваць, як выбухаць, талентамі, і якімі! Мне гэта нагадвае феномен, які не могуць і дасюль вытлумачыць навукоўцы-біёлагі: калі на ваўкоў пачалі паляваць з верталётаў і ўзнікла пагроза іхняга вынішчэння, ваўчыцы сталі прыносіць па дзесяцьдванаццаць ваўчанят, хаця дасюль нараджалі сама болей па двое. Можа, сама Маці-Зямля супраціўляецца неразумнасці ейных дзяцей?! І як хочацца верыць, што нашчадкі будуць, як нешта звыклае, браць у рукі беларускую кнігу і чытаць там, напрыклад, такія радкі:

"Пяе! Душа мая пяе!/ Ізноў любві ўзыходзіць зорка.../ І мне ў праменнасці яе/ чамусьці горача і горка. ("Паверце, тыя, хто згубіў...")

(Дарэчы, кніга "Такое кароткае лета", з якой узяты гэты верш, як і папярэдняя — "Слухаю сэрца", аздобленая адным з найталенавітых нашых мастакоў, гэтак рана памерлым Міколам Селешчуком, і спалучэнне пад адным, як кажуць, дахам двух такіх талентаў надае самім кніжкам няўлоўны водар гэтай вось гарачыні і горычы.) Але творы, выпушчаныя ў свет, жывуць сваім уласным жыццём, і, зноў перачытваючы вершы Раісы Баравіковай, адчуваеш нейкую ўдзячную лёгкасць душы, нібы папіў у спякотны поўдзень крынічнай вады з жарала, што пругкім струменем выштурхваецца аднекуль з падземных глыбіняў. Можна пасля аналізаваць, што там, у тых зямных сховішчах, якія мікраэлементы, якія часцінкі соляў. Але самае беспамылковае ўражанне — першае: "Любі траву, і першы гром, і гай,/ суніцу, што на промніку пячэцца,/ а сэрца і трывогі ўсе аддай/ радку, што пачуццём на нервах тчэцца". Так, любіць навакольнае, уражвацца хараством свету могуць многія. Перадаць жа гэта ў радку — рэдкія шчасліўцы.

Можа, якраз таму паэзію Баравіковай — любяць. У бібліятэках часта бяруць яе вершы, чытаюць, падкрэсліваюць асобныя радкі. Таму бібліятэкаркі заўсёды радуюцца, калі можна залучыць да сябе гэткую паэтку, — самую, бадай што, яркую паэтычную зорку на нашым далягладзе.

Дарэчы, і слухаць яе надта цікава. Не ўсе літаратары могуць чытаць свае творы. Раіса ж, выходзячы, нібыта спрабуе спалучыць у адно старажытную трыяду: космас-чалавек-зямля (сапраўды, кітайскія ці тыбецкія лекары дасюль беспамылкова вызначаюць стан чалавека па гэтых трох відах пульсу), яна прыўносіць у аўдыторыю нейкую дадатковую энергію, якая і сапраўды як бы сыходзіць з нябёсаў на паэтку падчас ейнага выступлення. І так ва ўсім — у вядзенні вечароў (у Доме дружбы, напрыклад, вельмі высока ацэньваюць яе працу па вядзенні "мастоў сяброўства"), у грамадскай дзейнасці, якой таксама нямала выпала на ейную долю, у прозе і драматургіі. І, дарэчы, падчас спектакля "Барбара Радзівіл" у зале тэатра "Вольная сцэна" заўсёды шмат гледачоў, і справа не толькі ў майстэрстве рэжысёра і акцёраў. Каханне, праз якое мы бачым высокіх гістарычных асоб, надае іхнім вобразам трапяткую маляўнічасць праўды, а яна ў тым, што, нягледзячы ні на што, яно, каханне, застаецца, адыходзіць жа — хцівасць, шалёная прага ўлады, высокія дзяржаўныя інтарэсы... Невымерна важныя ў той час, яны сёння — нішто. І, можа, у няспынным сцверджанні гэтай вечнай ісціны — галоўная вабнасць паэзіі Раісы Баравіковай, яе крэда, якое дало назву самаму, бадай, лірычнаму яе зборніку вершаў — "Каханне". І пра ўсё гэта шчыра і сардэчна думаецца цяпер, у дні яе першага юбілею...

**Вольга ІПАТАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

---

гучна. Проста была такая дзяржаўная скіраванасць, такі загад зверху, які павінен быў быць выкананы, калі не — то следчы імгненна ператвараўся ў падсуднага. Дык вось, Рыгору Кобецу, як і шэрагу іншых пакутнікаў, з якімі мне давялося працаваць, я некалькі разоў прапанаваў напісаць пра той час. Спачатку ён адмаўляўся, спасылаючыся на сваю інваліднасць. А потым растлумачыў проста: "Як толькі я пачынаю ўспамінаць той час і спрабую нешта напісаць, у мяне пачынаюць дрыжэць рукі, уся мая істота, і я тады ўжо нічога пісаць не магу.

**— Гэта быў псіхалагічны бар'ер, узведзены перажытым.**

— Псіхалагічны бар'ер, якога Рыгор Якаўлевіч так і не змог пазбыцца да скону свайго веку.

**— Цяпер не цяжка зразумець, чаму гэтае пакаленне было прыхаваным...**

— Так, безумоўна, яно было сфармавана сваім часам, воляю тых сацыяльных абставін, у якіх ім давялося жыць і ствараць. Яны не маглі выказацца, раскрыць сябе, свой талент напоўніцу і ў той жа час — яны мелі што сказаць. Таму сваім вымушаным маўчаннем альбо, лепш будзе азначыць так: напаўголасам, перадвызначылі з'яўленне шасцідзесятнікаў у нашым мастацтве. Шасцідзесятнікі прыйшлі на ўдзячную глебу, яны разумелі, што атрымалі тую кроплю волі, якой не мелі і не маглі мець іх папярэднікі, і выкарысталі гэта цалкам, загаварыўшы на поўны голас. Колькі яскравых талентаў выявілася ў 60-я і 70-я гады ў літаратуры, у кінематографе і наогул у мастацтве!

**— Прызначэнне кожнага наступнага творчага пакалення — дарасці да сваіх папярэднікаў і пераўзысці іх. Такі ўжо закон развіцця творчасці. Як на Ваш погляд, наступныя пакаленні змаглі сказаць сваё слова ў кінематографе і літаратуры? Якое становішча склалася на сённяшні дзень у мастацтве, як Вы ацэньваеце ўзровень мастацтва ў параўнанні з 60 — 70-мі гадамі?**

— Пра гэта цяпер яшчэ не прынята гаварыць, пра гэта скажуць праз 5-7 гадоў. Але скажуць абавязкова. Дык вось, шасцідзесятнікі разам з усім станоўчым, што прынеслі з сабою, зрабілі вельмі кепскую справу. Нідзе, ні ў якім накірунку мастацтва наступнае пакаленне, якое ішло за імі следам, не праявілася належным чынам, не раскрылася цалкам.

**— Чаму так сталася?**

— Адзінкі з шасцідзесятнікаў перадалі нешта сваім нашчадкам, сапраўды адзінкі. Большасць рабіла сама, нікому нічога не перадаючы. І мне здаецца, што гэта таксама было прадыктавана аб'ектыўнымі ўмовамі часу. Калі яны асэнсавалі сутнасць тых палітычных працэсаў, што адбыліся ў нашай краіне, яны зразумелі, што могуць выказаць на поўны голас усё, пра што іх папярэднікі павінны былі маўчаць. Зрабіўшы філасофскія высновы для сябе, замацавалі свае імёны. Гэта былі выдатныя творчыя асобы. Але пасля іх засталося голае поле. Ці варта здзіўляцца, што сёння ёсць значны спад у мастацтве ў параўнанні з мінулымі дзесяцігоддзямі? Шасцідзесятнікі выпрацавалі свой стыль і ў літаратуры, і ў кінематографе, яны моцна стаялі на сваіх пазіцыях, а калі раптам з'яўляўся малады, яркі талент, які не ўпісваўся ў гэты, адзіна магчымы стыль — сумесь рэалізму і экспрэсіянізму, — яны ці падаўлялі яго, альбо выпіхвалі ў замежжа. Мне цяжка адказваць на гэтае пытанне, бо я таксама належу да гэтага пакалення. Больш за тое, я сам бачыў такіх людзей, якія пачыналі яскрава, неардынарна, але былі вымушаны падавіць свой талент і прыстасавацца да агульнай плыні.

**— Ці можаце Вы іх назваць?**

— Гэта было б не этычна, бо гэтыя людзі і зараз працуюць на "Беларусьфільме" і "Масфільме", увогуле ў мастацтве...

**— Але ж у літаратуры ўсё ж такі былі асобныя прарывы...**

— Былі яны і ў кіно, але дамінанта шасцідзесятнікаў заставалася. Калі ж казаць пра Караткевіча, з якім мяне звязвала не толькі творчае супрацоўніцтва, але і асабістае сяброўства, дык ён якраз не належаў да тых, якія прыціскалі, дыктавалі, падпарадкоўвалі, хаця і быў шасцідзесятнікам. Надзвычай шчодры, яркі талент! Ён мог падарыць некаму сюжэт, а якія вершы пісаў!

**— Існуе ці то быль, ці то легенда, быццам бы Уладзімір Караткевіч сядаў за свой пісьмовы стол толькі тады, калі на ім сталі кветкі і абавязкова — у чыстай кашулі, ствараючы такім чынам сабе творчы настрой.**

— Мяне здзіўляе ўменне некаторых асобаў ствараць легенды і сімвалы. Я дапускаю, што ў асобныя моманты жыцця так і было. Але гэта не было правілам. У мяне ёсць дакументальныя кадры, як Валодзя ў халоднае надвор'е, калі мы сядзім і грэемся каля вогнішча, заходзіць распрануты ў Свіцязь і купаецца. Ну, уявіце, мы каля вогнішча сагрэцца не можам, а ён у гэты час купаецца! Пасля ён выходзіць з вады, бярэ добрую чарку, каб сагрэцца, і ў халодным наскрозь прамёрзлым жалезным мікрааўтобусе піша вершы, паклаўшы аркуш на калені. Якая чыстая кашуля, якія там кветкі!

**— Разам з Уладзімірам Караткевічам Вы працавалі, ствараючы дакументальныя фільмы.**

— Так, была ў яго добрая задума: напісаць сцэнарый для стужкі па архітэктуры Беларусі. Як вядома, у вайну "зямля пад белымі крыламі" пацярпела як ніякая іншая, амаль цалкам была ператворана ў руіны. Валодзю гэта было балюча, ён хацеў выказацца. Але, як часта гэта бывае ў творчага чалавека, адна задума нечакана замянілася другою. Ён патэлефанаваў і папрасіў тэрмінова прыйсці да яго. Калі мы сустрэліся, ён сказаў: "Фільма пра архітэктуру не будзе, давай зробім стужку пра легенды Беларусі". Як вы зразумелі, тады нарадзілася ідэя дакументальнага фільма "Памяць каменя".

**— Ну, а самы яркі ўспамін пра Уладзіміра Караткевіча?**

— Ёсць і такі. Толькі не ведаю, ці можна друкаваць гэта. Караткевіч пісаў сцэнарыі як да дакументальных, так і да мастацкіх стужак і рабіў гэта па-майстэрску ў поўным сэнсе гэтага слова. Вядома, што Караткевіч нікому не дазваляў сябе правіць, нават яго фразу з гэтай нагоды памятаю: "І коскі не папраўлю". Дык вось, неяк ён напісаў вельмі цікавы сцэнарый на рускай мове "Гневное солнце палящее". Сюжэт быў на першы погляд немудрагелістым: гісторыя адной жанчыны, а вось мастацкія акцэнты Караткевіч расставіў так, што фільм павінен быў атрымацца псіхалагічна напоўненым. Напачатку быў такі эпізод: трохгадовая дзяўчынка працягвае ручку да чырвоных ягад маліны праз куст крапівы. Яна ўпершыню спазнае страх, ведае, што руку сваю апячэ, але пераадольвае яго і дацягваецца. Другі раз яна пераадольвае страх у свае пятнаццаць гадоў, страх адносін дзяўчыны з хлопцам, і гэтак далей. "Гневное солнце палящее", на думку Караткевіча, павінна было сімвалізаваць той страх, які спапяляе чалавека праз усё ягонае жыццё, альбо ён знаходзіць у сабе сілы супрацьстаяць страху. А чаму гераіняй была абрана жанчына? Таму, што сама прырода яе надзяліла больш тонкім адчуваннем страху. І каб зацвердзіць гэты сцэнарый, сабраўся мастацкі савет. Абмеркавалі і вырашылі выкінуць са сцэнарыя якраз гэтыя псіхалагічныя моманты барацьбы гераіні з сабою, са сваім страхам. А без іх атрымліваўся відавочна спрошчаны варыянт. У той момант, калі стала зразумелым, што сцэнарый у першапачатковым выглядзе не пройдзе, Караткевіч падняўся з месца і кажа: "Можна, я п...ць схаджу?" Сказаў і пайшоў. Мастацкі савет быў шакіраваны. Пачалося абмеркаванне гэтай падзеі. Нехта сказаў: "Пад вялікіх іграе", нехта заначыў: "Ну, што вы, ён шчыры..." Аднак усё ж вырашылі пачакаць. Чакалі паўгадзіны, пасля адправілі дэлегацыю ў прыбіральню, але, канешне ж, Караткевіча там не было. Яго тады не было ўжо нават у Мінску. Ён выйшаў з мастацкага савета і паехаў... у Оршу! Ну, вось вам і ўспаміны. Толькі, ці надрукуюць іх...

**Занатавала**
**Алена РЫГОРАВА**

# НЯСВІЖСКІЯ ДЫВЕРТЫСМЕНТЫ

***Музы Нясвіжа водзяць свой карагод ужо чацвёртае стагоддзе. Варта крыху прыслухацца, і рэшткі былой раскошы і хараства радзівілаўскай рэзідэнцыі загучаць моцным непаўторным акордам. У цудоўны парк даўно ўжо не вязуць цудоўных раслін з далёкага Кітая, і сярод алей не чуваць крокаў тых, хто быў творцамі і натхніцелямі бурнага мастацкага нясвіжскага жыцця. Але іх цені нябачна прысутнічаюць тут, сярод старых сцен і векавых дрэў, і трэба зусім няшмат, каб ажыў Нясвіж — адзін з цэнтраў не толькі музычнай, але і ўсёй мастацкай культуры Беларусі.***

У другой палове XVIII стагоддзя на Нясвіжскай зямлі музыка была на першым плане сярод іншых мастацтваў. У гэты час ствараюцца і дзейнічаюць разнастайныя па складзе аркестры, музычныя школы, оперна-балетныя тэатры. Іх стваральнікі — Радзівілы, Агінскія, Ельскія і іншыя мецэнаты — шмат рабілі, каб азнаёміць жыхароў Беларусі з заходнееўрапейскай культурай, запрашаючы да сябе славутых еўрапейскіх кампазітараў. Гучалі оперы, сімфоніі, канцэрты, уверцюры, дывертысменты, серэнады, санаты. У абстаноўцы ўсеагульнага захаплення і ўлюбёнасці ў музыку пачала стварацца музыка мясцовых кампазітараў. Яна ўсё часцей і часцей гучала ў гарадскім асяроддзі, суправаджаючы балі, маскарады, феерверкі багатай знаці, чулася ў касцёлах, на іншых рэлігійных дзеяннях, а таксама сярод простых людзей. Прафесійны ўзровень мастацкай творчасці мясцовых кампазітараў хутка стаў даволі высокім. Гэта былі прадстаўнікі вышэйшага саслоўя, адукаваныя знаўцы мастацтва, якія падтрымлівалі цесныя сувязі з музыкантамі, кампазітарамі свету, тонка адчувалі музыку. Таму і творчасць іх натуральна ўпісалася ў кантэкст еўрапейскай музычнай культуры.

Нясвіж — сэрца музычнай культуры Беларусі мінулых стагоддзяў — у другі раз збірае на сваёй старажытнай зямлі Фестываль камернай музыкі. Той факт, што ў праграме фестывалю прадстаўлена інструментальная музыка М.Радзівіла, В.Казлоўскага, М.Агінскага, Н.Орды, зусім не выпадковы. Творы гэтых кампазітараў, па-свойму дасканалыя, трывала ўваходзяць у кантэкст сучаснага выканальніцтва.

Фестываль "Музы Нясвіжа" нібы ўбірае ў сябе дух сінтэтычнага ўспрымання мастацтва як свята жыцця — тое, што калісьці вызначала бліскучае і пышнае існаванне культуры магнацкіх двароў Беларусі і нібыта працягвае тонкую залатую ніць з мінулага ў будучыню, каб нехта яшчэ падхапіў яе.

**Уладзімір СКАРАХОДАЎ,**
**навуковы кіраўнік фестывалю, кандыдат філасофскіх навук, прафесар.**





















**Фотарэпартаж Генадзя ЖЫНКОВА**

## ЛУНАЛІ МУЗЫ НАД КАСЦЁЛАМ

***А прызямліліся — у родавым замку Радзівілаў. І гэта не рамантычная метафара, гэта — рэальнасць. Другі фестываль камернай музыкі ў Нясвіжы адкрываўся першым выкананнем "Месы" нясвіжскага манаха-бернардзінца, арганіста XVIII ст. Шымкевіча ў канцэртнай апрацоўцы сучаснага беларускага кампазітара Алега Залётнева. Канцэрт хору "Санорус" і аркестра планавалі правесці ў касцёле, але замест гэтага літургічная музыка гучала ў... санаторыі "Нясвіж". І хаця яго будынкі раней былі замкам Радзівілаў, атмасфера лячэбніцы адчувалася па ўсім: "водар" гукаў змешваўся з пахам ежы і медыкаментаў, а каля салістаў раз-пораз прабягалі асобы ў гімнастычных трыко.***

Прэс-канферэнцыя ў мэра Нясвіжа Уладзіміра Дражына растлумачыла сітуацыю: улады не знайшлі паразумення з ксяндзом. Сярод журналістаў папаўзлі чуткі, што з падзямелля касцёла зніклі некалькі фамільных саркафагаў, якія ксёндз нібыта збіраўся прадаць за мяжу, каб назбіраць грошы на рамонт. Паводле слоў мэра, працуе камісія. Але, нягледзячы на вынікі яе працы, хутка касцёл будзе перададзены дзяржаве, рэлігійная ж суполка возьме яго ў арэнду.

Што ж да самога замка Радзівілаў, дык яшчэ ў 1993 годзе была прынята пастанова адкрыць у ім філіял Нацыянальнага музея з выкарыстаннем у якасці рэзідэнцыі ўрада.

Можа, зараз гэта і спраўдзіцца, бо напярэдадні фестывалю Нясвіж наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, які паабяцаў правесці рэстаўрацыю гістарычнага помніка. Адным словам, Нясвіж патрэбны дзяржаве і Прэзідэнту, а дзяржава і Прэзідэнт патрэбныя Нясвіжу. Застаецца спадзявацца, што гэта фраза, вымаўленая напрыканцы прэс-канферэнцыі доктарам філалагічных навук, прафесарам Адамам Мальдзісам, стане прарочай.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

*Падрабязней пра фестываль "Музы Нясвіжа" вы даведаецеся з бліжэйшых нумароў "К".*

## "ЦЫГАНСКІ БАРОН" — ГЭТА НЕ БАГДАДСКІ ЗЛОДЗЕЙ

Адносна спакойная тэатральная вясна ў Мінску ўсё ж такі здзівіла гледача напрыканцы красавіка прэм'ерай. Прэм'ерай, якая была сугучна пермапентнаму надвор'ю пасля Вялікадня. Іншымі словамі: як пярун сярод яснага дня,



прагучала камічная опера Штрауса "Цыганскі барон" на сцэне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі.

Гэты твор вядомы мінскаму гледачу: больш за 20 гадоў таму спектакль ішоў на галоўнай пернай сцэне — у ДАВТ. Не сакрэт, што новая пастаноўка нясе і новую рэжысёрскую звышзадачу, якая, мякка кажучы, не згубілася за дарагімі касцюмамі выканаўцаў. Падкрэслю, мастак Вольга Жалонкіна стварыла настрой гледачу яркімі знаходкамі ў спалучэнні колеру і блястак і данесла густы "баронаў" і "чэлядзі" першай паловы XIX стагоддзя. У традыцыі тэатра выдатнымі былі не толькі касцюмы, але і дарагія дэкарацыі. Прабачце, тое, што мы звычайна завем сцэнаграфіяй, не мае дачынення да "мебліроўкі" сцэны падчас спектакля "Цыганскі барон".

Прыхільнікі тэатра музычнай камедыі напэўна пагодзяцца са мной, калі я скажу, што і новыя ролі ў выкананні А.Ісаева, Л.Станевіч, А.Ранцанца не зрабілі вялікага адкрыцця ні ў амплуа акцёраў, ні ў тэатральным жыцці музычнага тэатра. Звычайны, даўно знаёмы сюжэт: традыцыйны трохкутнік, які з пастаноўкі ў пастаноўку пераносіцца ў сцэнічным дзеянні, нагадваў фабулу "мыльніцы" з вядомага курорта Санта-Барбара.

Хочацца верыць, што новы рэжысёр тэатра Барыс Лагода шчыра намагаўся прадэманстраваць свой прафесіяналізм усімі сродкамі тэатральнага мастацтва: на сцэне часам "пражываўся" драматычны тэатр, гучалі оперная арыя і аперэтачныя каскадныя партыі, балет...

Дарэчы, балетны нумар прайшоў на "ўра" і пад крыкі "брава". Я нават не памылюся, калі скажу, што апладысменты тычыліся музыкі Сарасатэ, на якой будавалася балетнае дзейства. Выразная музыка, стылёвае адзенне. Толькі пры чым тут балет? Хаця танец доўжыўся больш за 8 хвілін...

Каго толькі не было на сцэне ў той вечар: хор, салісты балета, вядучыя артысты тэатра... і аэраплан. Так, менавіта, аэраплан падкрэсліў камічнасць рамантычнага твора. Хаця на прэс-канферэнцыі адзначылі, што наш лётны састаў "падвёў пад манастыр" тэатр і не ў свой час давёз шлемы для графа Аманая, ролю якога выконваў П.Рыдзігер. А навошта? Ніхто і не сумняваўся, што граф — ён жа лётчык, ён жа губернатар... Дык вось, на сцэне не было толькі багдадскага злодзея...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** А калі б лётчыкі з Мачулішчаў падарылі яшчэ і акуляры да шлема графу Аманаю, дык бразільскі карнавал апынуўся б пад пагрозай закрыцця.

**Ж.В.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## ВІВАТ І МІЖНАРОДНАМУ КІНАРЫНКУ І БЕЛАРУСКАМУ КІНО НА КАНСКІМ, ВЕНЕЦЫЯНСКІМ, ЛОС-АНДЖЭЛЕСКІМ... ФЕСТЫВАЛЯХ!



У розных кінатэатрах сталіцы з 23 па 26 красавіка прайшоў паказ конкурсных стужак беларускіх і расійскіх кінематаграфістаў па тэматыцы: "Дзень Чарнобыля", фільмы для дзяцей і юнацтва, вучэбныя і навукова-папулярныя фільмы. Фестывальны паказ адбыўся ў рамках І Міжнароднага кінарынку. У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі Мінгарвыканкама, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, Беларускі саюз кінематаграфістаў...

Дарэчы, гэта далёка не поўны спіс арганізатараў. А калі б вы падчас фестывалю пабылі на конкурсным паказе ў кінатэатры "Масква", дык разгубіліся б зусім. Сцэну, акрамя пластыкавых кветак, "упрыгожвалі" дзве тумбы-афішы. Толькі не падумайце, што на іх быў спіс стужак і тэле-відэакампаній — удзельніц кінарынку. Надпісы на афішах сведчылі аб шматлікіх зацікаўленых фірмах-спонсарах у правядзенні І Міжнароднага кінарынку ў Беларусі. Вядома, такая даніна модзе, як рэклама спонсараў культурных мерапрыемстваў і знаёмства гледачоў з бескарыслівымі аматарамі кінамастацтва, неабходная. Бо, напрыклад, я заўважыла, што сярод мінскіх спонсараў не было, бадай, толькі бюро рытуальных паслуг. Хаця, па-праўдзе, шрыфт на тумбах не дазваляў разгледзець назвы прадпрыемстваў ніжэй, чым за пяты радок: усе літары аднолькавыя і нагадвалі табліцу Мендзялеева. Хай бы, між іншым, толькі гэтакія недахопы і заставаліся б... Але ж падчас прэс-канферэнцыі журналісты даведаліся: гораду ані капейчына не спадзе ў казну ад гэтага мерапрыемства. І ў той жа час у прэс-рэлізе сказана: п.№ 1 — "укрепить статус г.Минска, в год 930-летия белорусской столицы, как центра культурной и деловой активности на Европейском континенте". Цікава: чым збіраліся замацаваць арганізатары кінарынку статус Мінска? Стужкамі?



*Прыз газеты "Культура" атрымаў Ігар Волчак.*

Цікава і другое, што пад гэты кінарынак не быў зняты ні адзін фільм, які ўзмацняў бы статус Мінска на тым самым кантыненце. І надта ж сумняваюся я, што і стужкі, якія атрымалі Гран-пры на І Міжнародным кінарынку, будуць "раскручваць" і лабіраваць бацькі-арганізатары на іншых кінафэстах. Справа гэта — кінематограф для айчынных прадпрымальнікаў новая. А каму ж хочацца грошы на вецер пускаць, калі вынік невядомы? Зразумела, каб адзін з прызоў, калі не "Папараць-кветку", дык дыплом, уручылі кампаніі "Эмблін" Стывена Спілберга "за лепшае спалучэнне мізансцэны з камп'ютэрнай графікай у кіно", дык статус Мінск-кінематаграфічны ўзняўся б на казачную вышыню Статуі Свабоды. Але ж замежныя стужкі ішлі па-за конкурснай праграмай...

Толькі не падумайце, што падчас фестывалю глядзець не было чаго. Гэта мне за айчынных кінематаграфістаў крыўдна стала. Конкурс дзіцячых фільмаў паказаў не толькі канчатковую перамогу анімацыйных і мультыплікацыйных стужак над іншымі відамі кінамастацтва, але і высокі ўзровень прафесійнасці. Дастаткова ўзгадаць стужкі Уладзіміра Пяткевіча: "Жыло-было дрэва" і "Казкі лесу". Стылёвыя па гуку, вытрыманыя па колеры, яны маглі б упрыгожыць любы іншы еўрапейскі кінафэст. Толькі хто ж іх там замовіць, калі на Беларусі няма ні маркетынгавай школы, ні прафесійных прадзюсераў... Менавіта такой неадукаванасцю беларускіх майстроў ад сінематографа гэты кінарынак нагадаў мне "Славянскі базар" — конкурс эстрадных выканаўцаў у Віцебску. Карціна тая ж: Беларусь выстаўляе сваіх удзельнікаў, якія не цікавяць прадзюсераў, скажам, з Расіі. А прыватных каналаў, студый гуказапісу і іншых вытворчасцей шоу-бізнесу, як і зацікаўленых прафесіяналаў, у нас пакуль няма. Такім чынам, трымаем вялікі конкурс, а спяваем для сябе. А ў кіно: праводзім кінарынак, а самі не ведаем, якія стужкі выстаўляць? Тыя, што увогуле здымаюцца сёння на Беларусі шматлікімі тэлестудыямі, ці тыя, што павінны быць у фестывальнай праграме кінарынку? Шкада. Але, справа І Міжнароднага кінарынку мае вялікае значэнне, хаця б таму, што кінарынак нарадзіўся, знайшліся аматары фестывальнага руху на Беларусі і, нарэшце — грошы, якія гарантуюць у траўні наступнага года правесці II Міжнародны кінарынак у Мінску. Спадзяюся, што традыцыя штогодняга фестывалю падштурхне і айчынны кінематограф на новыя творы. Бо і мастацкія традыцыі ў майстроў кадра жывуць, і беларускае кіно вядомае ў свеце.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** І апошняе. Відаць, арганізатарам не хапіла часу падзякаваць прафесійнаму журы, якое працавала на працягу чатырох дзён у розных кінатэатрах сталіцы. Як кажуць, гэта не апошні і не самы глыбокі "пракол" новых арганізатараў фестывальнага руху на Беларусі... А вось каманду — працоўную групу айчыннага фестывалю "Лістапад" нельга было не адзначыць. Такая ўдалая каманда склалася, ужо маючы вопыт працы падчас некалькіх фестываляў у Мінску.

Каманда "К" віншуе каманду Валянціны Сцяпанавай, намесніцы старшыні Саюза кінематаграфістаў, за чарговую праяву прафесійнага падыходу да арганізацыі кінасвята.

**Ж.В.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*Творчы тандэм Тумеля—Купрыянаў задаволены прызом фестываля ў намінацыі "Лепшая праграма на БТ для дзяцей".*

***Гран-пры — "Папараць-кветку" — І Міжнароднага кінарынку атрымалі наступныя стужкі:***

*"Жыло-было дрэва" — "Беларусьфільм", рэжысёр У.Пяткевіч;*
*"Шэльма" — "Беларусьфільм", рэжысёры А.Ганчаронак, І.Чацверыкоў;*
*"Чарнобыль. Попел" — "Летапіс", рэжысёр С.Лук'янчыкаў;*
*"Аазіс" — "Л.О.Н", рэжысёр Ю.Хашчавацкі;*
*"Каложская царква" — "Белвідэацэнтр", рэжысёр Ю.Ківалаў-Станкевіч.*

## ВОСЕМ ЖАНЧЫН

Гэта трэба было бачыць. Падчас спектакля вада нечакана абрынулася на сцэну, імгненна зрабіўшы вільготнымі расліны ўмоўных дэкарацый і драпіровак. А "дождж" усё ліў і ліў. У зале з'явіўся нават водар азону, што падарыў гледачам рэдкую магчымасць адчуць усё хараство натуралістычных тэатральных эфектаў. Як высветлілася пазней, з прычыны занадта вялікага напружання ў электрасетцы спрацавала сістэма супрацьпажарнай бяспекі. Гродзенскі аблдрамтэатр апынуўся ў аварыйнай сітуацыі. Спектакль сарваўся. Нечаканыя абставіны прапанавалі тэатру эксперымент: ці знойдзе трупа выйсце з экстрэмальнага становішча? Экзамен быў з гонарам вытрыманы.

Актрыса Таццяна Харламава ў гэтым спектаклі іграла ролю занадта клапатлівай маці ўжо амаль дарослага дзіцяці. Пакуль гледачы знаходзіліся ў дзіўным стане разгубленасці і цікаўнасці, яна хуценька "выйшла з вобраза" і прадэманстравала надзвычайны талент кіраўніка-арганізатара. Спалучаючы супрацьлеглыя станы — сцэнічны і экстрэмальна-жыццёвы, актрыса здолела паказаць не толькі свой шырокі прафесійны дыяпазон, а і жаночы, асабовы. Яе спакойнаму, але рашучаму голасу немагчыма было не падпарадкавацца. Згодна з яе дакладнымі і разумнымі загадамі дзейнічалі і выканаўцы, і публіка. Гэта было цудоўнае сола...

А дождж усё ішоў. Здавалася, пасля такой паводкі тэатр вымушаны будзе адмовіцца ад спектакляў на няпэўны тэрмін. Але ўжо наступным вечарам у ягонай малой зале быў паказаны спектакль паводле п'есы Р.Тама "Восем жанчын, якія кахаюць".

Кожны тэатр мае свой "выратавальны круг" — спектакль, які мае поспех падчас самых неверагодных нешчаслівых супадзенняў і вытворчых непрыемнасцяў. Да яго, як да дзяжурнай стравы ў рэстарацыі, хутка прызвычайваюцца: ён не прэтэндуе на "вялікія адкрыцці". Карацей, дзяжурны бутэрброд — і не болей. І крытычная сітуацыя — гэта "зорны час" такога спектакля. Таму, мяркую, ён заслугоўвае нашай увагі.

Па-першае, спектакль гэты, карыстаючыся лексікай нашых чыноўнікаў савецкага часу, "паляпшае мікраклімат у калектыве". Безумоўна! У ім ажно восем жаночых роляў! Зазвычай у п'есах мужчын значна больш за жанчын. А актрысы, якія засумавалі без працы, гэта небяспечна-выбуховая сумесь, што пры пэўных абставінах гарантуе непрыемнасці...

Па-другое, спектакль (згодна з гэтай жа тэрміналогіяй) "ідэйна вытрыманы". Якія б "крутыя" змены ні адбываліся ў палітычным жыцці краіны, ён — ніколі не апынецца "на дне". Французскія лёгкія камедыі з іхнімі салоннымі жартамі і смешнымі сітуацыямі, на якія глядач прыходзіць, каб разняволіцца і адпачыць, карыстаюцца нязменным поспехам. А тут яшчэ і дадатковае "задавальненне" кшталту тэлешоу: гульня з гледачамі. Падчас спекаткля кожны з іх можа ўявіць сябе дэтэктывам, вылучыўшы сваю версію забойства і спрабуючы адказаць на вечнае пытанне: хто ж забойца? А ў фінале п'есы глядач нават мае магчымасць пасмяяцца з недарэчнасці ўласных меркаванняў: і як я сам не здагадаўся?

Да ліку несумненных вартасцяў спектакля трэба аднесці і ягоныя дэкарацыі, якія можна хутка пабудаваць і гэтак жа хутка разбурыць. Такім чынам, усе восем жанчын — А.Гайдуліс, В.Лунёва, С.Марэцкая, Т.Харламава, В.Харытонава, Л.Волкава, В.Курыленка, С.Завадская — "выязныя" і маюць магчымасць прадэманстраваць сваё "каханне" на сцэнах шматлікіх Дамоў культуры, клубаў і да т.п. А гэта заўсёды — добрыя грошы ў касе. І не трэба даводзіць, што гэты спектакль ужо састарэў, пасівеў і ўвогуле амаль разваліўся. Не! Ён вельмі патрэбны. І патрэбны ўсім — гэтак адкажуць вам і бухгалтар, і адміністратар тэатра. А што іншае вы ў стане прапанаваць? І, нарэшце, галоўныя аргументы: "гледачу падабаецца", "публіка прымае добра". Усё! Кола замкнулася.

"Восем жанчын, якія кахаюць" у пастаноўцы В.Мяншых — гэта своеасаблівыя "разборкі паміж дзяўчынкамі". Спачатку гэта раздражняе — вельмі ж нелагічна паводзяць сябе гэтыя крыклівыя жанчыны. Замест таго, каб "вылічыць" забойцу (бо ягонай чарговай ахвярай можа стаць кожная з іх), яны пачынаюць дробязныя сваркі, карыстаюцца сітуацыяй, каб палаяцца, высветліць адносіны. Але з гэтых, быццам бы нязначных аскепкаў атрымліваецца ў выніку даволі цікавы калейдаскоп, і следства стыхійна прасоўваецца наперад, набліжаючыся (і, натуральна, набліжаючы гледача) да адказу на пытанне: хто усё ж такі забіў? Выканаўцы нібыта іранізуюць над надзвычай мудрагелістай, непрадказальнай "жаночай логікай". Гэта заблытаны, але ж — шлях да ісціны.

Спектакль развіваецца аднастайна. Бясконцая чарга падобных адна да адной драматычных сітуацый ("машына сапсавалася", "дзверы зачыненыя", "кава атручана", "паралізаваная бабуля паднялася" і г.д.) прыводзіць да таго, што кожная з актрыс імкнецца ўзяць ініцыятыву ў свае рукі і самастойна весці гэтае следства-спектакль. Не сакрэт, што самая нявінная, на першы погляд, дэталь у жаночым калектыве можа стаць крыніцай канфліктаў і непаразуменняў. І як тут не паспачуваць галоўнаму герою, які разыграў "забойства", калі кожная з жанчын, якія жывуць вакол яго — жонка, каханка, дачка, цешча, цётка і г.д., увесь час нечага ад яго патрабуюць, і неабходныя амаль нечалавечыя высілкі, каб утрымліваць сітуацыю ў стане хаця б няўстойлівай раўнавагі. Гэта ж нейкая вар'ятня, прычым курыная! Нават самагубства лепей за такое жыццё!

Тэатр не заўсёды балансуе на мяжы метафар і анекдота, і празмерна драматызуе пачуцці. Несумненныя вартасці спектакля — толькі адзін з бакоў медаля. А іх, як вядома, два. Мы маглі б доўга пералічваць недахопы спектакля, загінаючы пальцы і іранічна ўсміхаючыся, але... Калі на тэатр навальваюцца напасці — пажары, ураганы альбо іншыя стыхійныя бедствы і ён выкатвае выратавальнае кола, — пальцы не загінаюцца. Хай жывуць і кахаюць "Восем жанчын".

**Уладзімір МАЛЬЦАЎ**

ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

МАЙСКІ АРТ-ВІТРАЖ



# МАЛАДОСЦЬ БЕРАСЦЕЙСКІХ "ЗУБРОЎ"

***У сённяшнім свеце, дзе скінута шмат куміраў і спалена шмат мастоў, засталіся ўсё ж такі падставы для надзеі. Надзеі на таленты. А іх, што цалкам яшчэ не запатрабаваныя, захоўваецца нямала ў духоўных нетрах Брэстчыны. Гэтай першароднай якасцю — творчым талентам — шчодра надзеленыя мастакі брэсцкай зямлі. Пра гэта сведчыць і выстава жывапісу, графікі і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, прысвечаная 50-годдзю Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў, што прайшла нядаўна ў Мінску.***

***Пяцьдзесят аўтараў з рознымі творчымі лёсамі і эстэтычнымі поглядамі прадставілі свае лепшыя творы на строгі суд гледачоў. І — не памыліліся. Час так званага "перыферыйнага", "правінцыйнага" мастацтва, дзякаваць Богу, даўно мінуў. Я бачыў, з якой увагай і цікаўнасцю спыняліся наведнікі ля пластычных сімфоній П.Данеліі, палотнаў бацькі і сына Куфко —суровага рэаліста Эдуарда і бліскучага філосафа-экзістэнцыяліста Уладзіслава, ля экспрэсіўна-феерычных "мелодый" Н.Чарнагаловай, ля далікатных лірычных пейзажаў В.Сабалеўскага, ля жывапісных экзерсісаў М.Канькова, пранізліва чыстых акварэляў Г.Сурмы і С.Харашоўцава, ля філасофскіх графічных і жывапісных твораў У.Рамейкі, эстэцкіх малюнкаў М.Гуршчанкова, ля габеленаў М.Князевай і Д.Вымаркавай, ля пластычных фантасмагорый Т.Паўлючук. Ды хіба магчыма ўсіх пералічыць?***

***Карацей, выстава прадэманстравала не толькі высокі ўзровень прафесійнага майстэрства мастакоў Брэстчыны, але і шырокі спектр творчых інтарэсаў: ад традыцыйнага "старога і добрага" рэалізму да філасофскіх абагульненняў, ад мяккай лірыкі пачуццяў да вострай публіцыстычнасці, ад вечных пошукаў сэнсу быцця да нескладаных выяваў навакольнага свету, поўнага гармоніі і спакойнай радасці. І адначасова выстава ўзбагаціла нашыя ўяўленні пра мастакоў: адным, "старым знаёмым", мы зноў паставілі найвышэйшую адзнаку, а іншых, маладзейшых, убачылі ўпершыню і ўзрадаваліся: годнай расце творчая моладзь на Брэстчыне!***



Міхаіл Каньkoў

***Наш карэспандэнт Барыс КРЭПАК сустрэўся са старшынёй Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў Міхаілам КАНЬКОВЫМ і дырэктарам Брэсцкага мастацкага камбіната "Мастацтва" Аляксандрам ГРЫШЧУКОМ.***

**Барыс Крэпак:** Хацелася б пачуць некалькі словаў пра гісторыю стварэння Брэсцкай абласной арганізацыі БСМ...

**Аляксандр Грышчук:** Усё пачалося з так званых Брэсцкіх мастацкіх майстэрняў, якія былі створаны адразу ж пасля Перамогі, у 1946 годзе. Гэта былі першыя на Беларусі вытворча-творчыя майстэрні, якімі кіравалі тады мастакі-франтавікі Пётр Данелія, Іван Фяцісаў, Іван Рудчык, Васіль Шыкін. Пазней свой унёсак у актывізацыю творчага жыцця зрабілі Эдуард Куфко, Мікалай Аўчыннікаў, Васіль Сабалеўскі, Канстанцін Максімцаў, Павел Пагодзін, Мікалай Чураба...

**Б.К.:** А калі непасрэдна была аформлена абласная арганізацыя?

**Міхаіл Каньkoў:** Фармальна яна пачала існаваць з 1971 года, хаця практычна Брэсцкі Саюз мастакоў як філіял дзейнічаў пачынаючы з пасляваеннага часу. Ужо ў 1950 годзе адбылася першая буйная выстава твораў мастакоў Брэстчыны...

**А.Г.:** А з 1960 года рэгулярна наладжваюцца персанальныя, групавыя, маладзёжныя выставы. Пашырыліся кантакты брэсцкіх мастакоў з калегамі з рэспублік былога СССР і з далёкага замежжа, асабліва з суседняй Польшчы.

**М.К.:** Не кажучы ўжо пра тое, што брэстаўчане сталі трывалымі ўдзельнікамі ўсесаюзных і рэспубліканскіх мастацкіх выстаў. Ужо тады імёны Данеліі, Фяцісава, Куфко, Сабалеўскага былі добра вядомыя ў асяроддзі мастацкай грамадскасці.

**А.Г.:** Так, хачу асабліва адзначыць ролю мастакоў-ветэранаў, якія стварылі нашую творчую арганізацыю. Яны і сёння болей за ўсіх перажываюць за лёс Саюза мастакоў, робяць вялікія намаганні для рэалізацыі творчых ідэй. Яны неабыякавыя да таго, як будзе жыць Саюз сёння і заўтра...

**Б.К.:** Колькі сяброў налічвае Брэсцкая мастакоўская арганізацыя?

**М.К.:** Колькасць сяброў нашай арганізацыі невялікая — каля пяцідзесяці мастакоў, але ўсе яны вельмі розныя і па ўзросце, і па відах мастацтва, і па творчай скіраванасці, і па эстэтычным светаўспрыманні. Сярод нас — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Пётр Данелія, акадэмік Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Леў Акімаў, шмат жывапісцаў, акварэлістаў, манументалістаў, мастакоў-праекціроўшчыкаў і дызайнераў, ёсць графікі, майстры дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**А.Г.:** У Баранавічах нават ёсць адна цудоўная сям'я з чатырох чалавек на чале з Уладзімірам Рамейкам, якая стварыла сваю прыватную карцінную галерэю, што стала культурна-мастацкім цэнтрам горада.

**Б.К.:** Якія сёння асноўныя накірункі дзейнасці абласной творчай арганізацыі і яе мастацкага камбіната "Мастацтва"?

**М.К.:** Па-першае, выставачная дзейнасць і яе прапаганда. Па-другое, пры актыўным супрацоўніцтве Саюза і камбіната "Мастацтва" мы наладжваем камерцыйную дзейнасць, падпісваем дамовы аб узаемавыгадным супрацоўніцтве з прадпрыемствамі і ўстановамі Брэстчыны. Натуральна, нашыя творчыя вынікі залежаць ад актыўнасці кожнага мастака, улюбёнага ў сваю справу, і ад таго, наколькі кожны здолее раскрыць свой творчы патэнцыял...

**А.Г.:** Аднак без падтрымкі кіраўніцтва аблвыканкама і асабліва ягонага старшыні Уладзіміра Заламая мы не здолелі б дамагчыся сённяшніх вынікаў. Гэты чалавек ведае, што без захавання і развіцця нацыянальнай культуры нельга пабудаваць сапраўдную, цывілізаваную дзяржаву. Таму не выпадкова такі высокі "індэкс папулярнасці" Уладзіміра Аляксандравіча сярод мастацкай інтэлігенцыі Брэстчыны. Акрамя таго, хачу адзначыць мэра нашага горада Генадзя Масько, які таксама шмат робіць для мастацтва.

**Б.К.:** Я ведаю, што па колькасці наладжаных пленэраў Брэстчына трымае першае месца сярод усіх рэгіёнаў краіны. Прынамсі, так было летась...

**М.К.:** Так, мы рэгулярна наладжваем пленэры. У нас было праведзена таксама некалькі міжнародных пленэраў з Польшчай — у Любліне, Катовіцах, Варшаве і ў нас, на Белым возеры, у Гродне — на Нёмане, а таксама ў нямецкім горадзе Равенсбургу...

**А.Г.:** Толькі летась у вобласці было праведзена дзевяць пленэраў, у тым ліку міжнародны, прысвечаны нашаму земляку Напалеону Ордзе...



Аляксандр Грышчук

**Б.К.:** А якія пленэры будуць працаваць сёлета?

**М.К.:** Запланаваны пакуль чатыры: прысвечаны 900-годдзю Пінска, маладзёжны, пленэр памяці П.Машэрава і на радзіме П.Клімука.

**А.Г.:** Хачу дадаць, што паводле вынікаў пленэраў з дапамогай мясцовых уладаў мы ствараем карцінныя галерэі, каб творчае жыццё ў гарадах і вёсках нашага рэгіёна было пастаянным, жывіла духоўную атмасферу і ўплывала на маральны стан грамадства.

**Б.К.:** Колькі ўжо створана такіх галерэй?

**М.К.:** Пакуль чатыры, у тым ліку ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Астрамечава", у Іванаўскім раёне — на радзіме Напалеона Орды; у вёсцы Камароўка — на радзіме Пятра Клімука; у саўгасе "Заказельскі" Драгічынскага раёна.

**Б.К.:** Такое ўражанне, што ў вас няма праблем...

**А.Г.:** Не! Праблем хапае, як і паўсюль. І ў сэнсе пошукаў замоваў для мастакоў, і ў аплаце індывідуальных творчых майстэрняў і выставачных залаў, і ў пошуках сродкаў на бягучы і капітальны рамонт шэрага памяшканняў. Аднак, паўтаруся, кіраўніцтва аблвыканкама і гарвыканкама ідзе нам насустрач у вырашэнні гэтых і іншых пытанняў нашага мастацкага жыцця. Былі выдаткаваныя пэўныя сродкі для арганізацыі выстаў і рамонт галерэй. Аплата камунальных паслуг творчых майстэрняў і выставачных залаў устаноўлена на ўзроўні аплаты жылых памяшканняў.

**М.К.:** Дадам, што ў абласным бюджэце прадугледжаны грашовыя сродкі на выкананне дзяржаўных замоваў па правядзенні пленэраў у гарадах і раёнах Брэстчыны, выдаткаваныя сродкі на арганізацыю ўрачыстасцяў з нагоды 50-гадовага юбілею Брэсцкай арганізацыі Саюза мастакоў і выданне ілюстраванага альбома пра мастакоў Брэстчыны...

**А.Г.:** Неўзабаве пасля капітальнага рамонту пачне працаваць цудоўны абласны Дом мастака па вуліцы Гогаля, 54, з выставачнымі заламі, студыямі выяўленчага мастацтва, клубам, кафэ і да т.п.

**Б.К.:** Вернемся да выставы мастакоў Брэстчыны. У экспазіцыі былі прадстаўлены ўсе лепшыя творы за апошнія пяцьдзесят гадоў?

**М.К.:** І так, і не. Так — бо мы, сапраўды, імкнуліся паказаць усё лепшае. Не — бо мы не здолелі атрымаць творы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, з музеяў Масквы і прыватных галерэй далёкага замежжа. Не здолелі нават і ў фатаграфіях паказаць тыя манументальныя творы, што ўпрыгожваюць цяпер нашыя гарады і вёскі, дасягненні ў галіне мастацкага праектавання і дызайну. Ды і моладзь магла б шырэй паказаць свой патэнцыял — мабыць, віной таму — яе пасіўнасць...

**А.Г.:** Мне здаецца, што для далейшага развіцця нашай мастацкай культуры ў нас ёсць усе перадумовы. У гэтым сэнсе мы спадзяёмся на абласныя, гарадскія і раённыя ўлады, на кіраўнікоў прадпрыемстваў, на спонсараў, сярод якіх з'яўляецца ўсё больш людзей, якія разумеюць, што мастацтва — адна з найвышэйшых формаў развіцця не толькі нацыянальнай культуры, але і сацыяльна-эканамічнага дабрабыту... Ну, і, безумоўна, — на мастакоў...

**Б.К.:** Вялікіх поспехаў вам!



***Іван РУДЧЫК, жывапісец.***

Гэты беларускі найстарэйшы жывапісец напрыканцы бягучага года адзначыць сваё 90-годдзе. 50 гадоў таму, вярнуўшыся з фронту, ён упершыню ўзяў удзел у мастацкай выставе. З тае пары мастак напісаў сотні сюжэтна-тэматычных карцін і пейзажаў. Мы памятаем ягоныя палотны "Пераход партызан", "Белавежская пушча", "Лясная крэпасць", "Ля сцен Брэсцкай крэпасці", "Песні партызан", "Світанак", "На мірных прасторах". Памятныя ягоныя цёплыя, пранікнёныя лірычныя пейзажы Брэстчыны, поўныя шчырай любові да роднай зямлі: "Луг. Беларусь", "Вясновая паводка", "Альшанка", "Апошні снег", "Апусцелая сядзіба", "Лясное возера", "Бацькоўскі дворык", "Верас квітнее", "Родныя палі"...

Асабліва запомніўся мне пейзаж "Першыя кветкі": поле ў вясёлцы кветак, залітае вадой. На далёкім плане ў тумане — вёсачка, маленькія постаці людзей. І над свежай вадой — два буслы: адзін — на ўскрайку воднага люстэрка, другі — ў палёце...

*На здымку: "Бацькоўскі дворык". Палатно, алей.*

***Пётр ДАНЕЛІЯ, жывапісец-пейзажыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі:***

"...Што такое вобраз прыроды? Мне здаецца, гэта перадусім вобраз самога мастака як прадстаўніка свайго часу. З уласцівымі яму прыкметамі мастакоўскага мыслення, тэмпераментам і манерай выканання. Гэта таксама вобраз нейкага ананімнага героя, душой якога мы адчуваем прыроду. Гэты герой — абавязковы складнік мастацкага вобраза, створанага ў пейзажы, без яго твор немагчымы, а выява прыроды будзе проста мала цікавай. Як, напрыклад, нецікавая вясновая брудная сцяжына. Мастак, адлюстроўваючы яе, нібыта прапускае звычайнае бачанне скрозь эмацыйную прызму, дадае да відовішча этычнае і эстэтычнае адценне. І вось перад нашымі вачыма ўжо не звыклая дэталь будзённай прыроды, а карціна Левітана, Бялыніцкага-Бірулі, Цвірко... Калі паміж мною і тым, што я бачу, узнікае кантакт, я адчуваю хваляванне, якое здаецца мне самым радасным чалавечым пачуццём. Я шчаслівы, калі глядач, бачачы мае палотны, адчувае такое ж хваляванне".





*На здымках: Пётр Данелія. "Восеньскія карункі". Палатно, алей.*

№ 17–18 3 — 16 мая 1997 г.

# ПАТРЭБНАЯ ТВОРЦАМ ІМПРЭЗА

***Аляксей ДУДАРАЎ, драматург, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў.***

**— Калісьці фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" пачынаўся пышна, размашыста, з удзелам сталічных тэатраў Расіі (Маскоўскі Мастацкі тэатр прывозіў Чэхава), Беларусі, Украіны, з удзелам калектываў з Польшчы, Балгарыі і іншых славянскіх краін. Потым "Славянскія тэатральныя сустрэчы" канчаткова перасяліліся ў Гомель і сталі сціплым перыферыйным фестывалем трох абласных тэатраў: Гомеля, Чарнігава і Бранска. Ён меў свой сэнс, свае мэты і задачы, садзейнічаў гастрольным кантактам тэатраў, узаемаабменам творцаў. Які сэнс надаецца сёлетняму фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы"?**

— У кожнага фестывалю ёсць перыяд уласнага станаўлення. Быў ён і ў "Славянскіх тэатральных сустрэчах". Спачатку задумвалася нешта пампезнае — сабраць ледзь не ўсіх славян свету; наладзіць тэатральную імпрэзу з шумам на ўвесь свет. Я лічу, што пампезнасць нават для эстрадных фестываляў залішняя. Гэта ўсё наноснае, мінучае. Вялікапышлівасць, звычайна, сведчыць аб тым, што вакол мастацкай з'явы круцяцца немастацкія інтарэсы, што ставяцца мэты, далёкія ад культуры і тэатра.

Фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" — іншы. Паступова ўсё лішняе адпачкавалася, знікла, і нарадзілася нармальная, перыядычная, патрэбная творцам імпрэза. У тым, што фестываль праходзіць у Гомелі, — ёсць свой сэнс. Там мяжуюць нашыя дзяржавы: Украіна, Беларусь, Расія.

**— Ці ёсць якія-небудзь крытэрыі ў адборы спектакляў, калектываў? Ці афіша фестывалю склалася стыхійна, спантанна?**

— Традыцыйна галоўнымі ўдзельнікамі застаюцца тэатры Гомеля, Чарнігава і Бранска. Можна сказаць, яны не проста ўдзельнікі, а гаспадары сустрэчы. Гэта тэатры найбольш блізкія і па адлегласці, і па творча-арганізацыйных праблемах, і па статусе. Акрамя таго, прыедуць і сталічныя тэатры з Мінска, Кіева, Масквы. Ніякай адборачнай камісіі не існавала. Абласныя тэатры прывозяць тое, што пажадаюць. Беларусь на гэты раз хоча паказаць свае здабыткі: спектаклі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы "Касцюмер" і "Крывавая Мэры". Чагосьці чакаць асаблівага ад фестывалю, любога, не толькі дадзенага, не варта. Бо фестываль — партрэт тэатральнага працэсу ў нашых дзяржавах. А рысы ягоныя вельмі блізкія ў Беларусі і ў суседзяў.

**— Прагледзеўшы рэпертуарную афішу фестывалю, адзначаеш, што большая частка прывезеных спектакляў пастаўлена па творах заходнееўрапейскіх аўтараў: Бамаршэ, Хакс, Харвуд і г.д. Як Вы лічыце, ці варта "сабраць" фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" менавіта на ідэі славянскай драматургіі, каб надаць яму ўласны сэнс і накірунак?**

— Пераважванне замежных аўтараў — таксама паказчык агульнай з'явы. Як толькі тэатры атрымалі свабоду, ім перасталі дыктаваць рэпертуар — усе кінуліся на заходнюю драматургію, спадзеючыся знайсці там новы тэатр, паратунак, у тым ліку і ад уласнага творчага банкруцтва. Але мне здаецца, гэты перыяд затухае. Наступныя фестывалі (не толькі "Славянскія тэатральныя сустрэчы"), відаць, ёсць сэнс болей скіраваць на айчынных аўтараў. Але я супраць таго, каб праводзіць фестываль толькі славянскай драматургіі. Гэта надта штучна. Хаця, паўтару, у мяне застаецца ўпэўненасць, што знайсці сапраўдныя творчыя здабыткі тэатры змогуць толькі на нацыянальным рэпертуары. Вялікіх дасягненняў па творах замежных аўтараў за апошні час у беларускага тэатра не было.

**— Чаму ж Вы самі апошнім часам шмат займаліся перакладамі і апрацоўкамі Шэкспіра?**

— Шэкспір — гэта не заходнееўрапейская драматургія. Ён ужо не мае радзімы. Як і Чэхаў. Перачытваючы Шэкспіра, я раптам зразумеў (і спалохаўся), як змяніўся час. Ён бяжыць імкліва, куды хутчэй, чым гадоў 20 таму. Сёння паставіць Шэкспіра ў арыгінале — немагчыма. Мысленне наша змянілася. Можна на гэта наракаць ці прыняць як факт. Калі ўвасобіць "Гамлета" па Шэкспіру



— можна праседзець у тэатры палову сутак.

**— Але назіраецца тэндэнцыя не толькі перавагі "кліпавага" мыслення, але і супрацьстаянне націску часу: з'явіліся спектаклі, расцягнутыя на 2 — 3 вечары, "Арэстэя" Пітэра Штайна, прыкладам?**

— Тэатр заўсёды складаецца з трох частак: літаратура, артыст, глядач. Менавіта глядач, а не тэатральная эліта. На спектакль у 2 — 3 вечары амаль што немагчыма знайсці "гледача". Я — з тых тэатралаў, якія заўсёды клапаціліся аб тым, каб у зале не было сумна. У межах культуры, канешне, каб не пераўтварыць тэатр у цырк...

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

# Славянскія тэатральныя сустрэчы

**Удзельнікам і гасцям Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы-97"**

***Дарагія сябры!***
***Прыміце сардэчныя віншаванні з нагоды адкрыцця Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы" — традыцыйнага свята тэатральнага мастацтва Беларусі, Украіны і Расіі.***
***Мы рады вітаць на ўбранай у веснавую квецень беларускай зямлі нашых гасцей — артыстаў, рэжысёраў, мастакоў з Масквы, Кіева, Санкт-Пецярбурга, Бранска, Чарнігава. Упэўнены, што гасцінная Гомельшчына, яе працавітыя і таленавітыя людзі зробяць усё, каб удзельнікі і госці фестывалю атрымалі асалоду ад цёплых сустрэч з удзячным гледачом, зведалі яго шчырую павагу і прызнанне, умацавалі векавую дружбу паміж братнімі славянскімі народамі.***
***Жадаю кожнаму з вас моцнага здароўя, асабістага шчасця, натхнення і плённай творчай працы ў імя далейшага росквіту агульначалавечай культуры і мастацтва.***

***Аляксандр ЛУКАШЭНКА***



**Гомель-97**

# "КАЛІ СВЯТА, ДЫК ДЛЯ ЎСІХ!"



***Аляксандр ЯРЧАК, намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама, старшыня аргкамітэта Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы".***

**— Фестываль жыве. Набыў традыцыі, сяброў, фірмавую сімволіку. Што падштурхнула вобласць, каб наладзіць гэтае свята сёлета, прычым з пашыранай праграмай ужо знаёмага фестывалю?**

— Чарнобыльская катастрофа. Гомель раптам адчуў наступствы бяды, і зона радыяцыйная адразу ж стала і зонай маўчання ў культурным жыцці. У гэты раз пройдуць пятыя юбілейныя сустрэчы, таму мы вырашылі пашырыць традыцыйны склад удзельнікаў. А гісторыя фестывалю — наш боль. Да прыкладу: пасля катастрофы вядомы пецярбургскі рэжысёр Ігар Гарбачоў нават раіўся з Акадэміяй навук СССР наконт рызыкоўнасці працы тэатра ў Гомелі падчас гастроляў... Горад літаральна быў выкрэслены з гастрольных раскладаў музыкантаў, артыстаў... Стварылася культурная блакада напрыканцы 80-х гадоў. Гэтае жахлівае становішча трэба было выпраўляць, бо гомельскі глядач-слухач адукаваны і ўдзячны.

**— Ну а цяпер не цяжка ангажыраваць калектывы хоць на невялікія гастрольныя тэрміны?**

— За высокае мастацтва трэба плаціць па вышэйшым разрадзе. Хіба гарадская ці абласная казна ў стане аплаціць камерцыйныя гастролі, хай сабе і невялікага калектыву?

**— Дарэчы, пра балючае, пра грошы. Тэатрам, якія ўдзельнічаюць у фестывалі, гарантаваны ганарар?**

— Безумоўна — не! Вось пражыванне тэатральных труп Гомель бярэ на сябе. Карацей кажучы, тэатры "жывуць" у розных адміністрацыйных раёнах горада, якія па традыцыі і на правах гаспадароў бяруць іх пад сваю апеку. Вось Навабеліцкі раён зноў прыме Чарнігаўскі тэатр. Мы гарантуем толькі апладысменты гамяльчан. Чым не ганарар для артыста? Шчыра кажучы, усе артысты ўсіх трох краін ведаюць умовы працы на фестывалі і не адмовіліся ад удзелу.

Мяркую, што і маскоўскія, і пецярбургскія тэатры сумуюць па творчых камандзіроўках-паказах. Бо калі грошы ў Украіны, Расіі і Беларусі розныя, то цяжкасці ў культурнай прасторы засталіся агульнымі. Праўда, існуе прызавы фонд, які можна лічыць сімвалічным: памятны падарунак і 1 мільён рублёў.

**— Колькі намінацый будуць разыграныя падчас фестывалю?**

— Як і заўсёды: лепшая жаночая роля, лепшая мужчынская роля, лепшая рэжысура ў пастаноўцы. Дарэчы, мне вельмі шкада, што падчас нашага фестывалю мы заўсёды абыходзім увагай тэатральных крытыкаў Гомельшчыны. Калі свята, дык для ўсіх: і практыкаў, і тэарэтыкаў, і гледачоў! Лічу, што менавіта на гэты раз, у пяцігадовы юбілей, мы павінны прадугледзець і спецыяльную намінацыю для крытыкаў.

**— Ці плануюцца іншыя мерапрыемствы падчас тэатральнага свята?**

— Абавязкова. На працягу працы фестывалю плануецца знаёмства гасцей з калектывамі мастацкай самадзейнасці Гомельскай вобласці... Па выніках фестывалю будзе праведзены "круглы стол" з удзелам тэатразнаўцаў, крытыкаў, рэжысёраў, кіраўнікоў тэатраў Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы. Толькі заўсёды за любым вялікім мерапрыемствам стаяць людзі, якія шчыра любяць мастацтва і шануюць тых, хто ставрае яго. Немагчыма супраць волі чалавека прымусіць яго любіць тэатр ці выяўленчае мастацтва. І не важна, хто ты: чыноўнік, педагог, акцёр...

Калі няма патрэбы ў мастацтве, дык і прафесія не абавяжа і не дапаможа. Старшыня аблвыканкама Мікалай Вайцянкоў, былы пасол у Чэхіі і Славакіі, прыступіўшы да сваіх абавязкаў, перш-наперш зрабіў візіт у Міністэрства культуры Беларусі... Так што не хлебам адным жыве чалавек.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# І ВЕСЯЛОЎКА, І СТАРЭ МЯСТО...

*(Працяг. Пачатак на стар. 2).*

Фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы", які пройдзе ў Гомелі з 14 па 18 траўня — другі з чаргі вясновых святаў мастацтваў. Традыцыя яго жыве з часоў, якія цяжка дакладна нагадаць. На мяжы трох братніх рэспублік — раней, а цяпер — незалежных дзяржаваў, — часта сустракаліся прадстаўнікі Беларусі, Расіі і Украіны па розных падставах. Такія традыцыі існуюць і у Магілёўскай вобласці, а ў Гомелі яны аказаліся падмацаванымі па-мастацку цэласнай формай тэатральнага фестывалю. Дарэчы, назва яго ў свой час нарадзілася ў сталіцы, але мінчукі не ўтрымалі традыцыі, і цяпер "Славянскія тэатральныя сустрэчы" аселі ў абласным цэнтры. На фестываль прыедуць лепшыя спектаклі з тэатраў трох сумежных абласцей — Гомельскай, Бранскай і Жытомірскай, — а таксама прадстаўнікі тэатральнага свету сталіц трох дзяржаў — Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга і Кіева. Купалаўцы вязуць у Гомель дзве свае прэм'еры — "Крывавую Мэры" і "Касцюмер". Гэта спектаклі цалкам розныя па стылістыцы, па ідэі, але, на мой погляд, яны годна прадстаўляць тэатральны свет сталіцы. З Масквы і з Пецярбурга чакаем невялікія (што, напэўна, звязана з цяжкасцямі транспарціроўкі дэкарацый), але цікавыя і арыгінальныя спектаклі. Падчас фестывалю пройдзе канферэнцыя, удзельнічаць у якой пажадалі, разам з беларусамі, расіянамі і ўкраінцамі, таксама прадстаўнікі Польшчы і Літвы. Але асноўнае напаўненне свята створаць тэатральныя калектывы сумежных абласцей трох краін. Дарэчы, стан іхняй культурнай інтэграцыі часам даходзіць да таго, што тэатры абменьваюцца акцёрамі, рэжысёрамі і нават спектаклямі. Такім



вось чынам традыцыя правядзення фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ўплывае на штодзённае культурнае жыццё.

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**



# РЭПЕРТУАР

## Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы" г.Гомель 14 — 18 мая 1997 г.

**Сцэна Гомельскага аблдрамтэатра**

**14 мая**

Адкрыццё фестывалю.

19.00 Бранскі абласны драматычны тэатр (Расія)

А.К.Талстой "Князь Сярэбраны"

**15 мая**

19.00 Брэсцкі абласны тэатр драмы і музыкі (Беларусь)

П'ер Бамаршэ "Жаніцьба Фігаро"

**16 мая**

12.00 Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача У.Гібсан "Стваральніца цуду"

19.00 Чарнігаўскі абласны музычна-драматычны тэатр імя Т.Шаўчэнкі (Украіна)

У.Шэкспір "Сон у летнюю ноч"

**17 мая**

16.00 Гомельскі абласны драматычны тэатр (Беларусь)

А.Грын "Пунсовыя ветразі"

**18 мая**

18.00 Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы (Беларусь)

Р.Харвуд "Касцюмер"

**Сцэна Незалежнага тэатра**

**15 мая**

17.00 Кіеўскі маладзёжны тэатр (Украіна)

Г.Клаус "Дзень кахання, дзень свабоды"

**16 мая**

16.30 Маскоўскі драматычны тэатр імя М.Гогаля (Расія)

А.Яхантаў "І гэту дурніцу я кахаў"

**17 мая**

14.00 "Класічны тэатр" г.Санкт-Пецярбург (Расія) Ф.М.Дастаеўскі "Сон смешнага чалавека"

19.00 "Незалежны тэатр" г.Гомеля (Беларусь)

П.Хакс "Амфітрыён"

**18 мая**

12.00 Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы (Беларусь)

Дз.Бойка "Крывавая Мэры"




### "КНЯЗЬ СЯРЭБРАНЫ"

Гістарычны раман Аляксея Талстога увасобіў на сцэне рэжысёр Э.Купцоў. Складаную выразную ролю Васіля Блажэннага выконвае малады акцёр Зміцер Дакучаеў. Захавана гістарычная лінія ўзаемаадносін персанажаў, сучаснікаў Івана Грознага — Барыса Гадунова, баярына Марозава, Малюты Скуратава. Спектакль пра тых, хто, па словах аўтара, "устоял в добре".




### "АМФІТРЫЁН"

Рыфмаваную п'есу П.Хакса "Амфітрыён" ажыццявіў вядомы акцёр Андрэй Троіцкі. Яркія сцэны — камедыйныя карцінкі з жыцця антычных багоў Марса, Юпітэра, Леды ўвасабляюць артысты тэатра: Таццяна Булгакава, Сяргей Чугай, Галіна Анчышкіна...

### "ЖАНІЦЬБА ФІГАРО"

Пастаноўку здзейсніў рэжысёр Вахтанг Чхаідзе. Бессмяротная камедыя застаецца актуальнай і сёння, бо яна — пра каханне і вернасць. Галоўныя персанажы Сюзана і Фігаро змагаюцца за сваё шчасце. Чысціню пачуццяў і адданасць яны супрацьпастаўляюць разбэшчанасці дваранства. І перамагаюць, дзякуючы сваёй кемлівасці, мілым хітрыкам, якія забаўляюць гледачоў.

Спектакль напоўнены цудоўнай музыкай Моцарта і танцамі.

Галоўныя ролі выконваюць вядучыя акцёры тэатра Тамара Ляўчук, Міхаіл Мятліцкі, Людміла Рабая, Сяргей Пяткевіч, і, наогул, у спектаклі занята амаль уся трупа.



ЧЕРНІГІВСЬКИЙ ОБЛАСНИЙ МУЗИЧНО-ДРАМАТИЧНИЙ ТЕАТР імені Т. Г. Шевченка

### "СОН У ЛЕТНЮЮ НОЧ"

Пастаноўку ажыццявіў малады рэжысёр Андрэй Бакіраў. У спектаклі існуюць знаёмыя фабулы шэкспіраўскіх твораў: і з "Рамэа і Джульеты", і з "Буры", і ўсё, што напісана драматургам, нейкім чынам жыве, прысутнічае і выяўляецца ў сцэнічным творы. Акрамя рэалістычных персанажаў п'еса напоўнена фантастычнымі істотамі. Але ж і фантазія не бывае ў Шэкспіра адарванай ад зямной рэальнасці...

### "СТВАРАЛЬНІЦА ЦУДУ"

Вось ужо шмат гадоў тонкая чалавечная п'еса У.Гібсана "Стваральніца цуду" не пакідае сцэнічныя падмосткі розных тэатраў. Яна стала сапраўднай класікай, выпрабаваннем на сталасць для дзіцячых тэатраў. Пастаноўка п'есы ў Беларускім ТЮГу — мастацкая падзея для тэатра. Яе ўвасобіў запрошаны з Расіі рэжысёр У.Салюк. Гісторыя аб тым, як сляпаглуха-нямая дзяўчынка ўпершыню прамаўляе словы, становіцца гісторыяй спасціжэння духоўнасці, цярплівасці, любові да бліжняга.

### "ДЗЕНЬ КАХАННЯ, ДЗЕНЬ СВАБОДЫ"

Сама назва спектакля Маладзёжнага тэатра захапляе. Каханне і свабода, бадай, вышэйшыя каштоўнасці нашага жыцця. У п'есе слова "свабода" мае перш за ўсё самы звычайны сэнс — дзень выхаду з турмы героя Жоржа. Ён кахае не толькі сваю жонку Жанну, але і дачку Крысціну — не як бацька, а як муж, сексуальны партнёр...

Такія ўзаемаадносіны персанажаў надаюць спектаклю дэкадэнцкі, пікантна-сексуальны водар...

### "КРЫВАВАЯ МЭРЫ"

П'еса маладога беларускага драматурга Дзмітрыя Бойкі "Крывавая Мэры" знайшла сваё яркае сцэнічнае ўвасабленне на малой сцэне Купалаўскага тэатра.

... Ён і Яна. Саюз нябачных сардэчных ніцяў. Саюз кахання, якое з'яўляецца раптоўна, але калі яго не берагчы — на змену прыходзіць холад адзіноты і разлукі. Чаму так адбываецца? Чаму памірае каханне? Як улавіць тую нябачную мяжу, за якой знікае мелодыя любові? Знікае... каб вяртацца назад праз боль адзіноты.

Ён (М.Кірычэнка) і Яна (З.Белахвосцік) у форме яскравай сцэнічнай эксцэнтрыкі спрабуюць разабрацца ў сваіх ўзаемаадносінах, трымаючыся за дрыготкую ніць успамінаў, калі іх сэрцы яднала каханне...

Ажыццявіў пастаноўку Аляксандр Гарцуеў.




### "КАСЦЮМЕР"

"Касцюмер" — адна з лепшых п'ес знакамітага англійскага драматурга Рональда Харвуда, пастаноўку якой на Купалаўскай сцэне ажыццявіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Пінігін.

Дзеянне п'есы адбываецца ў студзені 1942 года. Англійскі правінцыйны тэатр іграе "Караля Ліра"...

На працягу аднаго дня з жыцця акцёраў маленькага тэатра перад гледачамі разгортваецца трагедыя двух людзей: акцёра Сэра Джона, які ўсё жыццё аддаў сцэне і памірае на ёй, і яго касцюмера Нормана, які быў слугой і ценем акцёра. Менавіта без Нормана хутчэй за ўсё не спраўдзілася б многіх акцёрскіх удач Сэра Джона... Драматычна гучыць фінал: касцюмера не ўспамінае аніводным добрым словам славуты Сэр Джон у сваіх мемуарах пад назвай "Маё жыццё". Апошняя рэпліка касцюмера: "Ён украў у мяне душу..." — яскрава сведчыць пра тое, што ў жыцці не існуе маленькіх трагедый. Бо кожная трагедыя — гэта вялікі боль...



### "ПУНСОВЫЯ ВЕТРАЗІ"

Кіраўнік тэатра Уладзімір Караткевіч не першы раз звяртаецца да гэтага твора, што сведчыць аб устойлівых прыхільнасцях рэжысёра да рамантычнага светаадчування. Юнацкі рамантызм апавядання спалучаецца з наяўнасцю ў тэатры наіўнай "зялёнай" моладзі — студэнтаў Беларускай Акадэміі мастацтваў, якія існуюць на правах студый і занятыя ў спектаклі. На сцэне пануе туманная атмасфера песень, скокаў, музыкі і сцэнічных эфектаў. Разлічаны спектакль на тых, хто яшчэ верыць у мару, у каханне і ў тое, што мара можа сысці на глебу рэальнасці.



### "СОН СМЕШНАГА ЧАЛАВЕКА"

Часцінку Санкт-Пецярбургскай тэатральнай культуры прывёз Леанід Мазгавой, які працуе ў жанры "Тэатра аднаго акцёра". Ён стварае свае спектаклі — часцей не па п'есах. Драматычнай асновай можа стаць проза М.Булгакава, пароды А.Іванова ці вершы і песні Б.Акуджавы. У "Тэатры аднаго акцёра", лічыць Л.Мазгавой, спалучаецца тэатральнае мастацтва і эстрадна-філарманічнае. Глядач становіцца непасрэдным партнёрам артыста. У Гомелі акцёр пакажа монаспектакль паводле апавядання Ф.Дастаеўскага "Сон смешнага чалавека". Класіка, а гэта значыць тонкая душэўная матэрыя, пэўны настрой, хваляванне ад судакранання з аўтэнтычнымі рэчамі, — стыхія яго творчасці.




### "І ГЭТУ ДУРНІЦУ Я КАХАЮ"

Гэтая камерная пастаноўка на двух акцёраў пару гадоў таму ўвайшла ў абойму "модных" спектакляў Масквы. Яна — удзельнік праекта "Руская сезоны ў Ізраілі", куды трапляе тое, што "на слыху", што называецца "хітом сезона". Да таго ж п'есу ў інтрыгуючым жанры "курортнага рамана" напісаў А.Яхантаў, майстра тонкага і элегантнага гумару, аўтар некалькіх празаічных кніг, лаўрэат літаратурных прэмій. Увасобіў п'есу Сяргей Яшын — параўнальна новы галоўны рэжысёр Тэатра імя Гогаля, адметны пастаноўкай цыкла амерыканскіх спектакляў па Т.Ульямсу, Ю.О'Нілу і інш. Сучаснасць спектакля — у рытме адносін паміж людзьмі, у сінтаксісе, у інтанацыі. Гэта дакладна пачутая інтанацыя нашага жыцця напрыканцы XX стагоддзя і вызначае цікавасць гледача да эксцэнтрычнай п'есы-жарту.

*Каманда "К" удзячная ўсім дырэктарам і загадчыкам літаратурных частак тэатраў — удзельнікаў фестывалю ў Гомелі за звышаператыўную перасылку фота і інфармацыйных матэрыялаў з розных кропак славянскіх дзяржаў у рэдакцыю нашай газеты. Персанальная падзяка — Уладзіміру Караткевічу, які выкарыстаў усе магчымыя і немагчымыя сродкі сучаснай службы сувязі з "Культурай", акрамя галубінай. Вялікі дзякуй, сябры!*

Адказны рэдактар спецвыпуска Жанна ВАСАНСКАЯ



**Наталля ЧАРНАГАЛОВА, жывапісец.**

Жывапіс Наталлі Чарнагаловай — свабодны, імправізацыйны, заснаваны ў значнай меры на інтуіцыі. Ёсць у яе творах штосьці, уласцівае толькі жаночаму мастацтву. Непасрэдная і бурная ў праявах сваіх пачуццяў, Наталля нават і размаўляе амаль заўсёды гучна, эмацыйна. Гэтаксама і ў творах яна не "шэпча", не імкнецца спакваля, непрыкметна выклікаць прыхільнасць гледача... Наадварот, мастачка быццам абвяшчае: маўляў, прымайце такой, якая ёсць. Энергічная манера пісьма, экспрэсіўныя мазкі разлічаны на непасрэднае эмацыйнае ўздзеянне. Згушчэнні асноўнага колеру сярод нейтральнай гамы адценняў, кідкія спалучэнні фарбаў выяўляюць, так бы мовіць, колеравую радасць, якой прасякнута душа мастачкі.

**Алена АТРАХОВІЧ**

*На здымках:*
*Н.Чарнагалова.*
*"Пяшчота". Палатно, алей.*



***Уладзімір РАМЕЙКА, графік, жывапісец, манументаліст, стваральнік прыватнай карціннай галерэі ў Баранавічах:***

"... Мае вытокі? Яны — у маіх бацьках, маім сібірскім маленстве, а больш за ўсё — у маёй Айчыне. Я, мабыць, занадта сацыяльны мастак, занадта востра перажываю складанасць лёсу майго народа. Усю прастору сучаснага жыцця я ўспрымаю як дысгармонію, як агрэсію ў стаўленні да чалавека і прыроды. У жыцці — гэта войны, атручанае Чарнобылем паветра, сацыяльная напружанасць, у мастацтве — духоўная дэвальвацыя, безгустоўшчына і непрафесіяналізм, пошласць так званай "мас-культуры"... І ўсё ж я шчаслівы. Мару напісаць хаця б дзесятую частку запланаванага, убачыць штосьці сур'ёзнае ў творчасці маіх унукаў. Мне трэба таксама забетанаваць двор, перакрыць дах галерэі і яшчэ гадоў трыццаць кожны вечар валіцца ад стомы, а раніцай спяшацца ў сваю майстэрню. Шчаслівы, што я жывы, шчаслівы сваімі ўнукамі, магчымасцю вандраваць, сустракацца з людзьмі. Шчаслівы ад кожнай гутаркі з наведнікамі маёй галерэі, ад мноства твораў, што пакуль ненапісаныя... Шчаслівы сваімі планамі... І яшчэ ў мяне ёсць адна запаветная, патаемная мара — памерці на дыстанцыі, каб "фінішу ў жыцці не атрымалася..."





*На здымках:*
*Уладзімір Рамейка.*
*"Мы — не рабы". Літаграфія.*



***Леў АЛІМАЎ, графік, акадэмік графікі Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.***

27 гадоў таму ён скончыў Маскоўскае мастацкае вучылішча "Памяці 1905 года". І з таго часу ўдзельнічаў у больш як 50 Міжнародных выставах, у тым ліку ў Жэневе, Маскве, Лондане, Сан-Францыска, Варшаве, Варне, Токіо, Парыжы, Нансі. Шмат твораў мастака набылі сусветна вядомыя музеі і галерэі. У 1992 годзе ў Міжнародным біяграфічным цэнтры ў Кембрыджы (Англія) Алімаў атрымаў дыплом "Чалавек года ў мастацтве" і медаль "За творчыя дасягненні ў ХХ стагоддзі". А ў 1995 годзе ў Японіі на выставе "Міжнароднае трыенале графікі Токіо-95" ён заваяваў III прэмію сярод 1815 мастакоў з 67 краін.



*Яўген Шатохін. "Шторм. Паўночная Францыя". Акварэль.*



*Міхаіл Канькоў. "Пейзаж з адзінокім чоўнам". Палатно, алей.*



*Сяргей Казак. "Пінск. Зіма". Палатно, алей.*

***Эдуард КУФКО, жывапісец.***

Гэтага мастака з Брэста ведаюць на Беларусі амаль усе. Ён вядомы жывапісец, чалавек са складаным і драматычным лёсам, які перажыў усе "радасці" гітлераўскага канцлагера смерці ў Ламсдорфе і сталінскага ГУЛАГа: спачатку ў Львоўскай турме амаль чатыры гады, потым — праз "тот Ванинский порт" — у Дальлаг, на Амур, а потым — зноў у Ваніна, у лагер 303, штрафны. Дзесяць гадоў прысуду ўмесцілася ў восем — выйшаў Куфко на волю пасля сакавіка 53-га. А ў 56-м рэабілітавалі... Нядзіўна, што першыя буйныя творы Эдуарда Станіслававіча, якія былі прысвечаны менавіта антыфашысцкай тэме — "Праўда", "Вызваленне", "Нескароны", і першы твор будучага жывапіснага цыкла "ГУЛАГ" з'явіліся тады, у сярэдзіне 60-х. "Іван Дзянісавіч", памятаеце? Той самы абагульнены вобраз героя Салжаніцына, які апрануты, праўда, не ў паласатае адзенне часоў Асвенцыма і Ламсдорфа, а ў грубую робу "ворага народа". Трывожная, нясціхаючая памяць прымусіла Куфко і зусім нядаўна зноў вярнуцца да той жудаснай мінуўшчыны... Але не толькі... Побач з невясёлымі сюжэтамі — светлыя партрэты сучаснікаў і шмат нацюрмортаў. У асноўным ружы — любімыя кветкі мастака. І бэз, і хрызантэмы. Жыццё працягваецца...



*На рэпрадукцыі:*
*"Нескароны". Палатно, алей.*



*Марат Клімаў. "Да восені". Палатно, алей.*

**П**

**ПАДЗЕІ**
**ПРАБЛЕМЫ**
**ПРАГРАМЫ**
**ПРАЕКТЫ**

**МАЙСКІ АРТ-ВІТРАЖ**

**Аўтар "Мастыхіна" — Барыс КРЭПАК**

№ 17—18 3 — 16 мая 1997 г.



# АД УСПАМІНАЎ ДА ФАНТАЗІЙ І НАЗАД

**АНСАМБЛЮ "КАМЕРАТА" — 10 ГАДОЎ**

**Успаміны**

Усе тры хлопчыкі вучыліся ў адным класе — і быў той клас першым наборам у знакаміты хор хлопчыкаў музычнага ліцэя. З цягам часу адзін з іх сам пачаў займацца дзіцячымі калектывамі і сёння ўзначальвае дзіцячы хор Беларускага радыё — гэта Уладзімір Глушакоў. Другі, Кірыла Насаеў, стварыў мужчынскі камерны хор "Унія". А трэці, Ігар Шыкуноў, — ансамбль "Камерата".

Усяго хапала напачатку: і арганізацыйных цяжкасцей, і матэрыяльных, і ваганняў з рэпертуарам. Быў нават момант канкурэнцыі з Ігарам Мацюховым з-за жадання атрымаць статус Дзяржаўнага камернага хору. Была і насцярожанасць з боку беларускіх кампазітараў, калі Ігар Шыкуноў звяртаўся да іх у пошуках твораў.

Зараз усё гэта засталося недзе далёка. А шлейф успамінаў вядзе далей, да фестывалю 1988 года ў Паневежысе, калі і ўзнікла пераарыентацыя калектыву на джазавую музыку — тую, што раней выконвалася толькі напрыканцы канцэртаў, пасля хароў Бартнянскага, Хіндэміта, Часнакова. Яшчэ праз два гады джазавыя стандарты саступілі месца авангарднай праграме, заснаванай на сонарыстычных эфектах. Гастролі ў Амерыцы, Швейцарыі, Польшчы, выступленні на буйнейшых джазавых фестывалях перамяжоўваліся радкімі выступленнямі ў Мінску.

Пік узнёслага арэолу звышэлітарнасці "Камераты" супаў з ад'ездам І.Шыкунова ў Амерыку. Калектыў спачатку разгубіўся, але пахавальных галашэнняў у свой бок вырашыў не спяваць. Проста змяніў аднаго "князя Ігара" на другога — Ігара Мельнікава. І распачаў актыўныя "хаджэнні ў народ" у выглядзе ўсё часцейшага ўдзелу ў самых розных эстрадных імпрэзах. Таму сённяшні дзень "Камераты" — гэта і ўласныя кампазіцыі, большасць якіх належыць таленавітай Вользе Вараб'ёвай, і шматлікія варыяцыі вакол стылю рэтра, уключаючы апрацоўкі песень І.Лучанка. Але гэта ўжо не для ўспамінаў, а, хутчэй, для роздуму.

**Роздум**

Стыль, якога прытрымлівалася "Камерата" раней, ужо існаваў на захадзе ў выглядзе так званай room-music: нешта накшталт гукавога "дызайну", які прызначаны садзейнічаць медытацыйнай гармоніі чалавека з навакольным асяроддзем. "Камерата" выступіла ў ролі гэткага "перакладчыка" нязвыклай для нас стылістыкі на беларускую глебу, да таго ж зрабіла гэта надзвычай прафесійна.

Наступным этапам засваення любой замежнай спадчыны становяцца падкрэсленыя прыклады яе знітавання з мясцовым матэрыялам: так у І.Шыкунова з'явілася кампазіцыя "Беларуская". Вось толькі ляжаў яе запіс на радыё, нікому не патрэбны. Ці ж нам да інтэлектуальных гульняў постмадэрна, калі ёсць дасціпныя апрацоўкі шматлікіх калектываў "а ля беларус"? Так і засталося далейшае развіццё тых стылёвых дыфузій недзе ў аблоках фантазій.

**Фантазіі**

Як ні кажыце, надта рана сышла "Камерата" са шляху першапраходцаў. Бо беларускія кампазітары ўжо звярнулі ўвагу на арыгінальны вакальны ансамбль — і ўзніклі думкі (а часам і партытуры), у якіх ядналася выканальніцкае і кампазітарскае імкненне да зорных сусветных вяршынь. Вось каб той перыяд крышачку працягнуўся... Дык не — нам засталіся толькі ўспаміны.

**Успаміны-2**

Ну чаму так заўсёды ў гісторыі беларускай музычнай культуры? Толькі-толькі пачнуць нараджацца абрысы нейкай адметнай з'явы — і тут жа знікаюць. Можа, справа яшчэ і ў эканоміцы, не кажучы пра астатняе. Хаця, пра гэта лепей і не ўспамінаць, бо ад успамінаў так і цягне да фантазій.

А крыху пафантазіраваўшы, можна прыйсці да высновы, што сёння "Камерата" робіць тое ж, што і ўчора — шукае "сярэдняе арыфметычнае" паміж заходнееўрапейскім і нашым беларускім. Толькі крок робіцца не ад іхняга да нашага, а наадварот. І замест авангарда ўзнікае лёгкае рэтра. Зразумела, гэта менавіта тое, да чаго імкнецца зараз эстрадная песня, і прысутнасць "Камераты" робіць беларускую эстрадную тусоўку больш блізкай да прафесіяналізму, да мастацтва і мастацкасці. Але ж рэтра — гэта таксама ўспамін. І напамін, што калектывы, падобныя да сённяшняй "Камераты", ужо існавалі ў межах былой вялікай дзяржавы. А калектывы, падобныя да "Камераты" ранейшай, — не. Ды ўся справа ў тым, на жаль, што не існавала раней і слухача, які б усвядоміў усю неардынарнасць беларускага ансамбля і мог бы падтрымаць яго пошукі матэрыяльна. А ці ёсць ён, прабачце, сёння?.. Пытанне, як кажуць, для роздуму.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# ВАЛТАРНІСТ



Для кагосьці валторна — проста скручаная металічная трубка. Для кагосьці — зазыўны рог сярэднявечных рыцараў, што кліча на паляванне. А для кагосьці — цэлае жыццё.

Юрыю Логінаву — таленавітаму валтарністу-выканальніку, дацэнту Беларускай акадэміі музыкі, сёлета было б ужо больш за шэсцьдзесят гадоў. І чатырнаццаць з іх ён аддаў Беларускаму акадэмічнаму тэатру оперы і балета, яшчэ трыццаць — Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе выхаваў каля пяцідзесяці вучняў. За гэтымі лічбамі — сапраўды цэлае жыццё з ягонымі ўзлётамі і няўдачамі, мноствам тэатральных прэм'ер, конкурсаў, хваляваннем за вучняў і агульнай радасцю перамог.

Ён быў адным з тых, хто зрабіў свой лёс сам. Надзвычайнае пачуццё ўласнай годнасці, воля, настойлівасць, здзіўляючая працаздольнасць і чалавечая чуласць — гэта ўсё ў яго з дзяцінства. На выбар прафесіі паўплывалі не сямейныя традыцыі, не жаданне бацькоў, а няпростыя рэаліі жыцця: вайна, Магнітагорскі дзіцячы дом, школьны духавы аркестр. Цікавасць да інструмента і прага да ведаў прывялі юнака ў Ленінград, а пазней — у Мінск.

Юрый Логінаў валодаў шчаслівым характарам: ён умеў радавацца поспехам іншых, умеў і спачуваць. Мы памятаем ягоную хуткую і лёгкую хаду, ягоную ўсмешку, уменне жартам, гумарам зняць напружанасць, дапамагчы і суцешыць у цяжкі момант. А яшчэ — мы памятаем жывы голас ягонай валторны: высакародна-стрыманы, узнёслы, інтэлігентны, без рэзкіх гукаў. І калі існуе ў нас на Беларусі валторнавая школа, што прынесла нашым выканаўцам мноства перамог на конкурсах самага высокага рангу, дык гэта дзякуючы таму, што ля яе вытокаў — Юрый Логінаў. Дзякуй Вам, Музыкант і Настаўнік!

**Таццяна ЗАСЛОНАВА**

# ПАКЛОНЫ СПІНОЙ

## (Вянок эпізодаў з жыцця балерыны)

*Таццяна Яршова, народная артыстка Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, скончыла выступаць амаль два гады таму. Апошнім сваім спектаклем яна абрала "Шчаўкунчык". А можа, гэта ён яе "абраў" на развітанне?*

**Развітанне**

— Нам заўсёды прапаноўваюць вельмі пышныя праводзіны, "бенефіс". Прапаноўвалі гэта Елізар'еў і мне, каб я станцавала "як у апошні раз". Я ж наадварот, заўсёды стараюся танцаваць "як у першы раз". Я перад спектаклем нічога не ведаю — што будзе, як будзе. Таму мне заўсёды цікава, як я буду сябе трымаць, як будуць паводзіць сябе партнёры. Валодзя (Уладзімір Даўгіх, муж і партнёр Таццяны Яршовай па большасці спектакляў — **І.К.**) мне шмат дапамог. Перад пачаткам мы з ім вырашылі, што я танцую не ў апошні раз. "Вядома, не ў апошні!", — падтрымаў ён і вельмі стараўся, максімальна адкрыўся, як ніколі...

Ведаю, як пра мяне кажуць: "характар, вытрымка" і гэтак далей. На самой справе ўсё не так, толькі хатнія ведаюць усю праўду. Для акцёра сыход са сцэны — гэта страшны момант. Я ў гэты час пачала думаць, як сыходзілі вялікія акцёры і чаго гэта ім каштавала. Ілзэ Ліепа казала аб Марысе: "У яго ўвесь час былі думкі аб смерці". Калі ў тваім лёсе настае такі пералом, беззваротны пераход у невядомасць, гэта спараджае самы сапраўдны панічны страх. Псіхалагічна цяжка асэнсаваць, што гэтага больш не будзе — таго, што было галоўным у жыцці. Увесь час штосьці ад сябе патрабаваў, жадаў, дамагаўся — а цяпер гэтага не трэба будзе рабіць. Шчасце, што ў мяне ёсць рэпетытарская дзейнасць, я з галавой у яе падаюся, бо гэта — працяг сябе.

**"Шчаўкунчык"**

— У мяне ўсё жыццё звязанае са "Шчаўкунчыкам". Самыя раннія ўражанні дзяцінства — гэта тэатр і балет "Шчаўкунчык". Я памятаю не ўсё, але добра памятаю Усходні танец. Гэта была пастаноўка Вайнонна, і танец быў бытавы, яскравы, у шараварах. Я сабрала ў хаце ўсе шалі і шалікі, зрабіла сабе гэткі "ўсходні" касцюм і танцавала. Лёс вырашыўся. У вучылішчы танцавала вальс адтуль жа, са "Шчаўкунчыка". У першы год працы ў рыжскім тэатры ўжо танцавала вядучую партыю — Машу.

**Рыга**

— У Рыжскім харэаграфічным вучылішчы вучылася не надта многа людзей, і агульнаадукацыйныя прадметы мы праходзілі з навучэнцамі музычнай школы. Там былі надзвычайныя дзеці. Напрыклад, адзін хлопчык, пазней вельмі добры скрыпач, калі трэба было рыхтавацца да конкурсу, абстрыгся дагала. Каб не адхіляцца, пазбегнуць спакусаў. У нашым вучылішчы навучаліся Міхаіл Барышнікаў, Аляксандр Гадуноў — Гадуноў цалкам, Барышнікаў гады за два да заканчэння пераехаў у Ленінград. Яны былі народжаны балетнымі людзьмі, першапачаткова. Заўсёды сцёртыя падэшвы чаравікаў ад піруэтаў дзе-небудзь на асфальце, на прыпынку ля тэатра, дзе прападалі заўсёды. Толькі Гадуноў быў з прыстойнай забяспечанай сям'і, астатнія — "з бедных". Мішка Барышнікаў апранаўся ў што трапіцца.

Марыс Ліепа часта прыязджаў у той час у Рыгу. Наведваў родных і адначасова выступаў у рыжскім тэатры. Ён перавазіў туды ўсіх знакамітых балерын, маскоўскіх і нават замежных. Яго там, відавочна, абагаўлялі. Аднойчы, калі ягоная маці была зусім ужо хворая, ён прыехаў і збіраўся танцаваць "Жызэль". Перад самым спектаклем паведамляюць: маці памерла. Ніхто б яго не асудзіў, калі б ён адмяніў спектакль. Ён не адмяніў. Аднак глядзець на яго мы не маглі. Асабліва другі акт, на магілках. Ад яго ішла проста фізічна адчуваемая вібрацыя. Мабыць, у ім перамог акцёр: звычайна кажуць "пераўвасабляешся ўяўленнем, а як бывае на самой справе?..

Латышскую мову памятаю да гэтай пары. І калі прыязджаю ў Рыгу, адчуванне, што вяртаюся дамоў. Мне даспадобы гэтая культура. Напэўна, я б там і засталася, калі б не конкурс.



**Конкурсы**

— Першая была Варна, 1974 год. Адбіралі так, каб без усялякіх сумненняў усе, каго адпраўлялі, прыехалі лаўрэатамі. З Рыгі была наша пара, пара з Вялікага, таксама з Кіева і з Алма-Аты, спецыяльна з нацыянальных тэатраў. Я ў той раз атрымала "срэбра", Аляксандр Мартынаў, мой партнёр — "бронзу". Потым быў маскоўскі конкурс. Рыхтуючыся да яго, у 1977 годзе мы з Мартынавым паехалі ў Маскву. Зразумела, падрыхтоўкі там ніякай не было, але затое мы мелі магчымасць паглядзець усе спектаклі, што ў той час ішлі. Напрыклад, "Кармэн-сюіту" з Плісецкай. "Масцітая" Майя была майстрам ва ўсім, і гэта мне перашкаджала, бо верх мастацтва — схаваць мастацтва. А яна менавіта ведала, што яна — майстар. І глядач бачыў не Кармэн, а Плісецкую.

На маскоўскім конкурсе ў мяне была "бронза", там мы ўжо прадстаўлялі Мінск.

**Мінск**

— Калі я прыехала ў Мінск, ён мне здаўся больш развязным, чым "чапурыстая" Латвія. Мне была дзіка, што тут на вуліцы, у транспарце могуць крычаць, сварыцца, мацюкацца.

А запрасілі нас адразу пасля Варны. Спачатку на фестываль, потым назусім. Я сама ніколі б нікуды не паехала, хаця якраз у той час праславуты прыбалтыйскі "нацыяналізм" і пачаў выяўляцца ў нашым тэатры. Зразумела, бягучы рэпертуар мы ўсё ж такі танцавалі. Але ў якія-небудзь вузлавыя моманты, калі адбывалася нешта асаблівае — не, "вось тут вас і не трэба". І гэта накоплівалася. А на Усесаюзны фестываль маладзёжных тэатраў у Мінск запрашэнне было асабовым, пасланы замест нас іншых не маглі.

У Рызе засталася сям'я — маці і сястра.

**Сям'я і дом**

— Маці заўсёды марыла спяваць. Наша сям'я з Урала, са Свярдлоўска. Падчас вайны ваенны шпіталь, эвакуіраваны на Урал, пераехаў у Прыбалтыку, і бабуля, маміна маці, паехала з ім. Там спадабалася, так і затрымаліся ў Юрмале. Мама яшчэ ў Свярдлоўску хацела паступіць у кансерваторыю, усё жыццё яе цягнула да тэатра. Хаця сама яна швачка — адвечная прафесія. Дарэчы, зараз яны толькі гэтым і жывуць...

У канцы 70-х усіх раптам зацікавілі ўсходнія адзінаборствы — танцоўшчыкаў, харэографаў. Так у нас у тэатры з'явіўся следчы па крымінальных справах, інструктар рукапашнага бою. Мы збліжыліся, было дзіўнае, складанае, цяжкае каханне. У яго была сям'я, і, вядома, ён быў членам партыі — развод немагчымы. Два гады гэта цягнулася, пакуль не згасла зусім. Застаўся сын, і гэта сапраўднае шчасце. Шкадую толькі, што не адважылася завесці дзіця раней, зараз ужо быў бы побач памочнік...

Калі Валодзя Даўгіх з'явіўся ў тэатры, ён неяк адразу пацягнуўся да мяне. Я ні аб чым такім не думала, катэгарычна. Некалькі гадоў ігнаравала ўсе ягоныя знакі ўвагі наадрэз. І раптам аднойчы, недзе на гастролях, за агульным сталом паглядзела ў ягоныя сумныя вочы і злавіла сябе на думцы: "Вось родны чалавек." З сынам у іх выявілася поўнае ўзаемаразуменне.

**Галоўнае**

— У мяне ў жыцці не было ніякага творчага голаду. Магчыма, таму нікуды, напрыклад, за мяжу, не імкнулася. Мне быў дазволены самы шырокі творчы дыяпазон, хаця ў характарыстыцы напісана "балерына класічнага рэпертуару".

Мяне часта згадвалі пасля іншых вядучых, у такім парадку, на-

# КАР'ЕРА ЯЦАКА

У той вечар у зале камернай музыкі сталіцы гучалі творы Л. ван Бетховена і лірычныя мініяцюры рамантыка Шуберта, а ва унісон найтанчэйшым гукам скрыпкі гучаў нізкі мужчынскі голас маладога выканаўцы Яцака Янішэўскага, які прыехаў да нас з Польшчы.

Асаблівае ўражанне зрабіла другая частка канцэрта: Менавіта другое аддзяленне канцэрта выклікала бурнае захапленне ўсёй публікі. Спевы Яцака Янішэўскага не пакідалі абыякавым ніводнага са слухачоў. Сапраўды натхнёным, напоўненым багаццем эмацыйных фарбаў было ягонае выступленне. Надзвычай прыемны тэмбр голасу Яцака быццам запаўняў сабою ўсю прастору камернай залы, а ад магутнасці опернага голасу ўзнікала незвычайнае пачуццё. Слухачы прагна ўбіралі ў сябе кожны праспяваны гук. Разам са спеваком, дзякуючы яго вялікай здольнасці да пераўвасаблення, зала радавалася і спачувала пакутам героя-вандроўніка вакальных твораў Шуберта. Па-майстэрску валодаючы мастацтвам фразіроўкі, дыкцыі, спявак насычаў кожную музычную фразу вобразным сэнсам, напаўняў яе глыбокім псіхалагічным падтэкстам. Яцаку Янішэўскаму ўдалося стварыць галерэю самых разнастайных эмацыйных настрояў, раскрываючы складаны ўнутраны свет свайго героя. У яго спяванні захапляла ўсё: і чысціня інтанацыі, і здольнасць лёгка, зусім непрыкметна браць дыханне, і майстэрства валодання сваім голасам.

Яцак Янішэўскі вядомы на радзіме не толькі як камерны спявак, але і як артыст опернага тэатра. Яго дэбют адбыўся на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета Варшавы ў час фестывалю "Варшаўская восень". Ён браў удзел у прэм'еры оперы польскага кампазітара Эльжбэты Сікорэй "Сэрцаед". Янішэўскі таксама не раз удзельнічаў у пастаноўках на нацыянальную тэматыку Варшаўскай камернай оперы. Летась спявак па запрашэнні працаваў у Германіі, дзе ў аснове яго канцэртных праграм была музыка Шуберта. З таго часу вакальныя мініяцюры — неад'емная частка яго рэпертуару. Але перш за ўсё вакаліст уяўляе сябе оперным спеваком і не збіраецца спыняцца на дасягнутым. Зараз ён працуе над басовымі партыямі шэрагу рускіх і італьянскіх опер.



Сваю музычную кар'еру Яцак пачаў у Варшаўскай Акадэміі музыкі як выканаўца на духавых інструментах, у прыватнасці на валторне. Праз два гады Яцак вырашыў стаць спеваком. Спачатку ён паступіў у клас знакамітага польскага тэнара Рамана Вэньжына. Пазней Янішэўскаму пашанцавала працаваць з выдатным польскім тэнарам Рышардам Карчыкоўскім. Зараз Яцак — вучань знакамітага балгарскага спевака Руска Рускова, паслядоўніка іспанскай вакальнай школы бельканта. У маі 1995 года Яцак Янішэўскі стаў лаўрэатам першай прэміі ў опернай катэгорыі на польскім вакальным конкурсе ў Душніках і таксама атрымаў спецыяльную ўзнагароду на Шапэнаўскім фестывалі. А ў лютым 1997 года ён быў прызнаны як лепшы бас сярод вялікай колькасці ўдзельнікаў праслухоўвання "Новыя імёны", што адбылося ў Мінску, арганізатарамі якога было нямецкае агенцтва.

На пытанне, каго ён лічыць сваім кумірам, Яцак адказаў: Мікалая Гяурава, у выкананні якога Янішэўскага зачароўвае прыгажосць голасу і высокі ўзровень вакальнай тэхнікі. Таксама малады спявак — вялікі прыхільнік творчасці славутага балгарскага баса Барыса Хрыстофа і, натуральна, Фёдара Шаляпіна. Нязменная аснова яго песеннага рэпертуару — вакальныя мініяцюры Франца Шуберта і Станіслава Манюшкі. Яцак адзначыў таксама, што вельмі любіць рамансы і песні рускіх кампазітараў, такіх як Чайкоўскі і Рахманінаў. Яшчэ Янішэўскі зазначыў, што яго заўсёды хвалюе змястоўная і напоўненая эмацыйным падтэкстам музыка. І гэта не проста словы, а глыбокае перакананне, якое пацвердзіў спявак сваім выступленнем у камернай зале філармоніі.

Што ж, доўгі час польская і беларуская культуры развіваліся сінхронна: шмат кампазітараў, музыказнаўцаў, выканаўцаў дагэтуль лічацца і польскімі, і беларускімі аднačасова. Хочацца верыць, што нягледзячы на ўсе цяжкасці, музычныя сувязі Беларусі з Еўропай будуць развівацца і далей. Бо музыка — гэта мастацтва вечнае, якое не прызнае ніякіх межаў.

**Аксана КРАСНІК**

# ГУЧАЛІ ТРУБЫ...

Скончыўся чарговы конкурс музыкантаў-выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах, які праходзіў сёлета ў Баранавічах. Вынікі конкурсу наступныя: сярод валтарністаў прэтэндэнта на I месца журы не вызначыла. Дыплом II ступені і званне лаўрэата нададзены навучэнцу Віцебскай музычнай вучэльні Валянціну Ярмоленку. Сярод трубачоў дыплом I ступені і званне лаўрэата атрымаў навучэнец Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Яўген Ляттэ. Сярод трамбаністаў дыплом I ступені і званне лаўрэата атрымаў выхаванец музычнай вучэльні з Мінска Сяргей Фалевіч. Сярод барытаністаў лаўрэатам стаў таксама мінчук Віктар Бабарыкін.

Тубістам журы вырашыла I месца не прысуджаць. Дыплом II ступені і званне лаўрэата атрымаў навучэнец гэтай жа вучэльні Віктар Ярыноўскі. Сярод выканаўцаў на ўдарных інструментах лаўрэатам стаў Сяргей Буранаў.

Такім чынам, з 38 удзельнікаў конкурсу 19 сталі лаўрэатамі. Што гэта, празмерная добразычлівасць журы альбо высокі прафесійны ўзровень выканаўцаў? Мяркую, што пра "празмернасць" казаць не даводзіцца, бо аснову журы склалі педагогі Акадэміі музыкі. Паводле існуючых на Беларусі правілаў лаўрэаты падобных конкурсаў вызваляюцца ад уступных іспытаў у Акадэмію (акрамя іспыту па спецыяльнасці). Узнагароджваючы лаўрэацкімі званнямі тых, хто гэтага не варты, журы б кампраметавала сябе. А каму гэтага хочацца? Такім чынам, пры ўсёй атмасферы добразычлівасці, што панавала на конкурсе, журы цікавіў перш за ўсё прафесійны ўзровень удзельнікаў, хаця ён і не быў аднолькавы ва ўсіх намінацыях.

Мне прыемна адзначыць, што асабліва вылучаліся трубачы: іхнія праграмы паводле складанасці былі на ўзроўні прэстыжных міжнародных конкурсаў. У конкурсе ўдзельнічалі 13 выканаўцаў і ўзровень іх быў больш высокім, чым у любой іншай намінацыі.

Хацелася б таксама адзначыць, што конкурс адкрыў новыя імёны выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах, якія, несумненна, зробяць вялікі ўнёсак у развіццё беларускага музычнага мастацтва. Віншуючы пераможцаў і іхніх педагогаў, канцэртмайстраў, хочацца выказаць словы ўдзячнасці арганізатарам конкурсу: Міністэрству культуры, муніцыпальным уладам горада Баранавічы і асабліва мэру горада Валерыю Захарчанку, кіраўніцтву Баранавіцкай музычнай вучэльні, гарадскому аддзелу культуры і многім іншым, хто сваёй працай забяспечыў удзельнікам і гасцям конкурсу гасцінны прыём і высокі арганізацыйны ўзровень конкурсных мерапрыемстваў. Спадзяюся, што конкурс выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах стане традыцыйным.

**Мікалай ВОЛКАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі.**

прыклад: "Бржазоўская, Паўлава, Яршова", ці "Душкевіч, Дадзішкіліяні, Яршова". А мне здавалася, што гэта не дрэнна, бо з першага месца шмат чаго не відаць. Калі запрашалі пастаноўшчыкаў, ім прапаноўвалі працаваць з першымі. А ў рэшце рэшт атрымлівалася, што яны выбіралі мяне. Асабліва калі прыязджалі з Ленінграда. Класіку ў нас ставілі і Ірына Калпакова, і Алег Вінаградаў, і Пётр Андрэевіч Гусеў. Калі рэпеціруеш з такімі майстрамі — гэта найвышэйшы пілатаж. Але каб з імі працаваць, трэба мець дасканалую школу, каб не адхіляцца на тое, што для іх нудна.

Танцоўшчык павінен быць аснашчаны тэхнічна бездакорна. Калі пачынаецца праца, ты выходзіш на сцэну, становішся на пальцы і на гэтым "пятачку" застаешся зусім адзін. І калі не ўпэўнены ў сабе, у сваёй падрыхтоўцы, то хваляванне, звычайнае сцэнічнае хваляванне, узрастае ў дзесяць разоў і забівае ўсё.

Дарэчы, я заўважыла: варта балерыне ў той ці іншай ступені быць моцнай тэхнічна, яе адразу абзываць "халоднай". Зразумела, артыст балета павінен валодаць не толькі фізічнымі ці сцэнічнымі дадзенымі, але і псіхічнымі. Гэта — творчы пачатак, гэтаму немагчыма навучыць, гэта — вынік самастойнай унутранай працы. Гэта здольнасць перажываць на сцэне і перадаць перажыванні гледачам. Творчая энергія пачынае працаваць з жыццёвым вопытам. Таму жанчыны ў балеце больш шчаслівыя. Напрыклад, у 35 гадоў у іх самы росквіт, а ў мужчын — скон, імклівы занепад.

З узростам сілы непазбежна заканчваюцца, але застаецца ўменне. Зразумела, калі чалавек не праграмуе сябе на адыход. Абавязковая ўмова добрай формы — штодзённая праца, "урок", за дзесяцігоддзі гэта становіцца звычкай. Я і ў адпачынку па-магчымасці займалася.

**Балет, індыйская філасофія і ідэальнае выхаванне**

— Калі я прачытала першую кніжку па індыйскай філасофіі, я адчула, як многа мне адкрылася. Індуізм, агні-ёга далі мне адказ на тыя пытанні, над якімі я да той пары часта задумвалася. І яшчэ выявілася блізкасць ідэалаў — балета і гэтай філасофіі. Гэта пастаяннае ўдасканальванне цела, пастаянная праца духу.

Наогул на мой погляд, балет дае ідэальнае выхаванне чалавеку. З дзяцінства "балетныя" пастаянна вучацца, спачатку ў вучылішчы, потым у тэатры. Вучацца не толькі танцу — жыццёвым рэчам таксама. Нездарма ў нас не проста "рэпетытар" — але "педагог-рэпетытар".

Кажуць, сённяшняя моладзь мае свой розум і не слухае парад. Але ж яны не вінаватыя, што ў іх не засталося ніякіх аўтарытэтаў. Засталося чыстае поле без ідэалаў. Тут ёсць віна і прэсы, журналістаў. На самой справе ідэалы былі і ёсць.

Адказнасць педагога ў балеце асаблівая. Часта я заўважала, які здольныя дзеткі ў вучылішчы. Пакуль малыя, усё ў іх ёсць, і ручкі, і ножкі робяць тое, што трэба. Але чым больш дарослымі, тым больш "драўлянымі" яны робяцца. У вучылішчы, на мой погляд, патрэбны новыя педагогі — былыя артысты балета. Але асабіста мне было б страшна за гэта ўзяцца. Пападзецца табе здольнае дзіця — гэта ж рэдкасць. Яго нельга сапсаваць, яго трэба пастаянна пасоўваць, нешта аддаваць...

**Не-балет**

— Калі наш тэатр збіраўся на гастролі ў Амерыку, мы з шэфам вельмі моцна пасварыліся — на смерць! Наконт японскага танца ў тым самым "Шчаўкунчыку". І зразумела на гастролі мяне не ўзялі. І ў гэты час прыходзіць чалавек, прадстаўляецца: "Рыд Таліпаў, рэжысёр, набіраю акцёраў. Хацеў бы запрасіць Вас." Я дзвюма рукамі пачала ўпірацца. Маўляў, не, у мяне нічога не атрымаецца. А ён ненадакучліва, ненавзойліва — як бы, а на самой справе прыляпіўся, як скоч. "Вы толькі паспрабуйце, Вам нічога не пагражае. Для Вас павінна быць цікава паспрабаваць сябе яшчэ дзенебудзь, Вы ж усё жыццё ў балеце!"

П'еса была авангардная — "Кантрабас" Патрыка Зюскінда. Іграў Віктар Манаеў з купалаўскага тэатра. Упершыню я бачыла, як робіцца драматычны спектакль, пачынаючы ад чыткі. Аказалася, Манаеў — чалавек нават крыху сарамлівы. Калі Таліпаў у першы раз прапанаваў паспрабаваць, я бачыла, як Віктар збянтэжыўся, сказаў: "Я вывучыў ролю, але не ўпэўнены, ці здолею..." І на вачах стаў ператварацца, уваходзячы ў вобраз. Сіла акцёра ў тым, наколькі багатае яго ўяўленне, наколькі ён у стане захапіць сабой, сваім уяўленнем, павесці гледача за сабой — тут не абыходзіцца без унутранага магнетызму. Я іграла балерыну, у якую закахаўся музыка-Манаеў. Спектакль потым нават вазілі ў Германію.

**Характар**

Я — чалавек не скандальны, але, калі адчуваю правату, не саступаю. На гэтай глебе часам сутыкалася з шэфам. Аднойчы мы паспрачаліся проста пры ўсіх, падчас рэпетыцыі. Выразаў не выбіралі, і я пайшла з залы, проста павярнуўшыся спіной. Мінуў час, я чакала звальнення. Звальнення не адбылося, засталіся нацягнутыя адносіны і ўнутраны дыскамфорт ад адчування ўласнай няслушнасці. У рэшце рэшт, падштурхоўваемая ўсімі, я зайшла да яго і паспрабавала папрасіць прабачэння. У адказ пачула: "Вы зняважылі мяне перад усімі, а выбачаецеся сам-насам!" На наступны дзень пасля ўрока я звярнулася да ўсіх: "Затрымайцеся на хвіліну!" І пачынаю прасіць прабачэння яшчэ раз. Праўда, ён мяне зараз жа перапыніў: "Хто старое памяне — вока вон".

Увогуле я прызвычаілася кантраляваць свае паводзіны, перш за ўсё на сцэне, але таксама і ў жыцці. І калі, напрыклад, я адчуваю заціснутасць, сарамлівасць, я ўключаю нешта, каб гэта перамагчы. Ува мне мала непасрэднасці, увесь час ідзе кантроль, які не дае проста расслабіцца.

**Пастаноўшчыкі і пастаноўкі**

— Ёсць мастакі, якія працуюць "ад нуля". Яны бяруць новую тэму і робяць усё самі. А ёсць іншыя, якія працуюць на падставе матэрыялу, што ўжо існуе. Яны шукаюць сваё бачанне. Калі б не было "Кармэн" Алонса, магчыма, і не было б елізар'еўскай "Кармэн-сюіты". Гэта проста розныя якасці: ёсць добры мастак, але дрэнны рэжысёр, ёсць наадварот. Вельмі рэдка гэтыя якасці сумяшчаюцца.

У елізар'еўскіх спектаклях заўсёды вельмі добрая пластыка. Але часам яна губляецца пад не надта ўдалымі касцюмамі і дэкарацыямі. У "Вясне Свяшчэннай", напрыклад, агромністыя халодныя дэкарацыі, пустыя, нешта паўночнае, і маленькія побач з імі людзі ў бясформенных касцюмах. Мабыць, таму спектакль аказаўся недацэнены. Мне здавалася, калі Елізар'еў яго ставіў, ён разлічваў на большы поспех. Можа стацца, гэты спектакль яшчэ вернецца.

Калі Алан Бернар, харэограф са Швейцарыі, ставіў у нас "Ундзіну", было так. Мяне не бралі на рэпетыцыі па ўзросце, я і не крыўдзілася. Але неяк здарылася, што танцаваць няма каму. Алан — да шэфа: "Становішча без выйсця, дайце Яршову!" І за 9 дзён я гэта вывучыла, без музыкі, на даўгату рухаў, бо музыка там нейкая вар'яцкая. Я ні ад кога не адштурхоўвалася, рабіла ўсё па-свойму, і Бернару гэта спадабалася. Нават фінал мы зрабілі па-мойму.

**Ундзіна, Сільфіда і "Лебядзінае возера"**

— З акадэмічных спектакляў — "Жызэль", "Дон-Кіхот" ці "Спячая прыгажуня", апошні мне болей за ўсё падыходзіў па дыяпазоне — акцёрскім і тэхнічным. Казалі, што партыя Аўроры — гэта "мая" партыя. А да спектакляў "Сільфіда" ці "Ундзіна" ў мяне свае ўласныя адносіны. Справа ў тым, што абедзве гераіні — гэта "істоты", не людзі, не жанчыны. Яны і жывуць па сваіх законах, а гэта адчувала ў сабе. Мне падабаліся гэтыя партыі, тут праяўляецца пластыка, якая нідзе не можа праявіцца ў "чалавечым" абліччы. Станцаваць яе можна толькі на ўяўленні, на прыродным пачуцці стылю.

У "Лебядзінае возера" мяне часта ставілі ў трэці акт, на партыю Адыліі, "чорнага лебедзя". Гэта надзвычай цяжка, без эмацыйнага "разагрэву" танцаваць. За мяжой падчас гастроляў мне даводзілася часта ў першым акце "Лебядзінага" танцаваць "Па-дэ-труа", у другім — "Танец маленькіх лебедзяў", а ў трэцім — Адылію. Баялася, каб гледачы мяне не пазналі, бо там залы звычайна невялікія, гледачы блізка. Але ўвогуле лічу, што "Лебядзінае" — не мой спектакль. Хаця даводзілася танцаваць яго пастаянна.

**Гастролі**

— Артыст не павінен думаць пра грошы. Інакш ён не атрымлівае эмацыйнай кампенсацыі, своеасаблівай энергетычнай падпіткі. На пачатку ў яго шмат энтузіязму — але ён хутка знікае, гэты энтузіязм заракляння грошаў. Артыст не атрымлівае творчай энергіі, не аднаўляецца.

Гастролі — выпрабаванне. Там адразу добра відаць, хто па што прыйшоў у балет. Я сапраўды марыла, каб хто-небудзь з журналістаў, хто піша пра балет, з'ездзіў з трупай на гастролі. Уражанні былі б больш сапраўдныя, быў бы зусім іншы погляд на артыстаў. А так чытаеш, і адчуванне такое, быццам чалавек існуе толькі ў тэатры. А гэта не так. Мы жывыя людзі, у нас сем'і, дзеці, складанасці, добрыя і кепскія якасці.

**Добрая якасць**

— У мяне ёсць сапраўды добрая якасць — я заўсёды, усюды запісвала ўрокі. Куды б ні ездзіла, з кім бы ні займалася... Відаць, гэта мае своеасаблівае праяўленне рухальнага рэфлексу. А балетных урокаў у мяне выдадзена і ўвогуле запісана няшмат. У мяне захавалася болей за трыццаць нататнікаў. Ужо ў першы год працы ў тэатры, калі, бывала, хварэў педагог, звярталіся да мяне дзяўчынкі. Ведалі, што я магу правесці ўрок.

Сама я аддавала перавагу мужчынскаму класу, у нас у тэатры ўсяго іх два, і менавіта мужчынскі клас больш падыходзіць салістам. А, напрыклад, у "балетных сталіцах", у Маскве, Ленінградзе, вядзецца некалькі класаў, якія адрозніваюцца па складанасці: "зоркі", "карыфеі", кардэбалет. Зараз мне было б цікава яшчэ раз там пабываць, ужо як рэпетытару, паглядзець на падрыхтоўку, на рэпетыцыю з другога боку. Напрыклад, у нас даволі часта рэпетытар ідзе на кампраміс з выканаўцам, з ягонымі фізічнымі здольнасцямі, а як у іх? Можа, высокі ўзровень Марыінкі таму і высокі, што такіх кампрамісаў там пазбягаюць? Зараз мяне не пакідае адчуванне "тугі па таленавітых выканаўцах". Ёсць многае што перадаць, не вельмі ёсць каму...

*За спушчанай заслонай яшчэ доўга не сціхалі апладысменты, а тут, на сцэне, праводзілі балерыну. Энергічны, як заўсёды, шэф бадзёра прамовіў адпаведныя выпадку словы, намякнуў на далейшую працу: "Мы з Таццянай Міхайлаўнай не развітваемся", — уручыў кветкі. Таццяну акружылі прыціхлыя артысты. "Усе гады пасля спектакля я выходзіла і кланялася зале, гледачам, павярнуўшыся да вас спіной. Зараз я хачу пакланіцца менавіта вам і тварам да вас." Нізка схілілася, выпрасталася і, гледзячы проста перад сабой сухімі пакуль што вачыма, хутка пайшла да сябе ў "грымёжку"...*

*Калі, прыйшоўшы на спектакль, вы заўважыце за апошнім радам партэра, ля "елізар'еўскіх крэслаў", зграбную невысокую малажавую даму ў чорным, з роўнай паставай балерыны — прамая спіна, насочкі ў бакі, — ведайце, што сёння дэбют (ці, як яны, "балетныя", кажуць, "прэм'ера") у кагосьці з гадаванцаў Таццяны Яршовай. І калі закрычыце ім "Брава!", то гэта "брава" таксама і ёй, Таццяне Міхайлаўне Яршовай, народнай артыстцы Беларусі, Балерыне.*

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**

№ 17—18 3 — 16 мая 1997 г.

АД ПРАДЗЕДАЎ

# КАЛЯНДАР ТРАДЫЦЫЙНЫХ ФЕСТЫВАЛЯЎ І СВЯТАЎ УСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

***ЧЭРВЕНЬ***

**Міжнародны пленэр імя М.Шагала**
*Чэрвень — ліпень, г.Віцебск*
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама: (8-021-2) 37-03-63

**Міжнародны фестываль фальклору Падняпроўя**
*Быхаўскі, Магілёўскі, Шклоўскі раёны*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны
Упраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама: (8-022-2) 22-48-84
Магілёўскі абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы: (8-022-2) 25-85-29, 25-63-64

**Рэспубліканскі пленэр, прысвечаны мастаку І.П.Хруцкаму**
*г.Полацк, Віцебская вобласць*
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Полацкага гарвыканкама: (8-021-44) 4-25-34

**Рэспубліканскае свята "Слуцкія паясы"**
*г.Слуцк, Мінская вобласць*
Міністэрства культуры: (8-017) 223-73-63
Аддзел культуры Слуцкага райвыканкама: (8-295) 5-25-14

**Рэгіянальнае свята "Дняпроўскія галасы"**
*г.Дуброўна, Віцебская вобласць*
Прымаюць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Дубровенскага райвыканкама: (8-021-37) 2-16-70

**Абласны фестываль акадэмічных хароў "Ляці, наша песня"**
*Г.Пружаны, Брэсцкая вобласць*
Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр: (8-016-22) 26-61-60, 26-36-86, 26-41-53

**Абласное свята народнага танца "Палескі карагод"**
*г.Пінск, Брэсцкая вобласць*
Прымаюць удзел ансамблі народнага танца
Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр: (8-016-22) 26-61-60, 26-36-86
Аддзел культуры Пінскага гарвыканкама: (8-016-53) 5-38-72, 5-38-52

**Абласное свята народнай музыкі "Іграй, гармонік"**
*г.Чашнікі, Віцебская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы і асобныя выканаўцы на гармоніку
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Чашніцкага райвыканкама: (8-021-33) 2-19-45

**Абласны фестываль аўтарскай песні**
*г.Барысаў, Мінская вобласць*
Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 239-67-02

**Абласны злёт маладых паэтаў Міншчыны**
*Лагойскі раён, Мінская вобласць*
Прымаюць удзел самадзейныя паэты
Абласная бібліятэка імя А.С.Пушкіна: (8-017) 236-84-03
Аддзел культуры Лагойскага райвыканкама: (8-274) 5-55-45

**Абласны фестываль фальклорных калектываў "Траецкі фэст"**
*Уздзенскі раён, Мінская вобласць*
Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 236-82-71
Аддзел культуры Уздзенскага райвыканкама: (8-218) 5-55-45

**Гарадскі фестываль эстраднай музыкі**
*2 чэрвеня, г.Баранавічы, Брэсцкая вобласць*
Прымаюць удзел эстрадныя ансамблі, асобныя выканаўцы
Аддзел культуры Баранавіцкага гарвыканкама: (8-016-34) 5-40-25, 5-34-82

**Міжраённы фальклорны фестываль "Веткаўскія сустрэчы"**
*г.п.Ветка, Гомельская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы
Аддзел культуры Веткаўскага райвыканкама: (8-023-30) 2-12-80

**Раённы фестываль маладых талентаў "Авацыя"**
*г.Камянец, Брэсцкая вобласць*
Прымаюць удзел калектывы і асобныя выканаўцы (намінацыі: музыка, песня, танец, вядучыя)
Аддзел культуры Камянецкага райвыканкама: (8-016-31) 2-15-45, 2-24-54

**Раённае свята, прысвечанае 850-годдзю г.п.Брагіна**
*г.п.Брагін, Гомельская вобласць*
Аддзел культуры Брагінскага райвыканкама: (8-023-44) 2-12-80

**Раённае свята "Тройца"**
*г.п.Бялынічы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы ўстаноў культуры
Бялыніцкі раённы цэнтр культуры і вольнага часу: (8-022-32) 2-17-79

**Раённы фестываль народнай песні і музыкі "Аўсянка-97"**
*в.Аўсянка, Горацкі раён, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы ўстаноў культуры раёна, вобласці, Расіі
Аддзел культуры Горацкага райвыканкама: (8-022-33) 2-24-81

**Раённае свята сяброўства (раёнаў Беларусі і Расіі)**
*в.Звянчатка, Клімавіцкі раён, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы ўстаноў культуры
Аддзел культуры Клімавіцкага райвыканкама: (8-022-44) 2-12-68

**Раённы дзіцячы песенны фестываль "Лукамор'е"**
*г.п.Краснаполле, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел гурткі і студыі ўстаноў культуры
Аддзел культуры Краснапольскага райвыканкама: (8-022-38) 2-15-45

# ЧАРОЎНЫ КУФЭРАК

***Тры дні на сцэне Сароцкага палаца культуры віравала свята дзіцячай тэатральнай творчасці "Чароўны куфэрак". Вось ужо трэці раз тэатр "Летуценнікі" збірае сваіх калег па творчасці. І калі ў 1988 — 1989 гадах гэта быў проста рэгіянальны тэатральны фэст з запрашэннем гасцей з суседніх Слуцкага і Салігорскага раёнаў, то сёлета пасля невялікага перапынку ён набыў статус "абласны". Яго заснавальнікамі цяпер выступілі ўпраўленне культуры і адукацыі і камітэт па справах моладзі Мінскага аблвыканкама.***



Сімвалам фестывалю ўзяты куфэрак — як добрая рэч кожнай беларускай сям'і. Для нас жа "Чароўны куфэрак" — тая духоўная скарбонка, з казачнага, таямнічага, загадкавага змесціва якой і павінен складвацца свет дзіцяці. За час двух папярэдніх фестываляў склаліся і пэўныя традыцыі: кола творчасці і натхнення, на якое кожны з удзельнікаў фестывалю замацоўвае стужачкі з надпісам свайго калектыву і якое з'яўляецца сімвалам фестывалю, своеасаблівы "дзіцячы" член журы "Языкасты Летуценнік" — маска з доўгім языччам, на якой кожны з гледачоў можа пакінуць свае ўражанні аб спектаклі, пажаданні калектыву альбо проста вясёлы аўтограф ці жарт. І вядома ж, сам "Чароўны куфэрак" зроблены народным майстрам, разьбяром па дрэве А.Трубчыкам, куды кожны з калектываў пасля кожнага са спектакляў клаў свой тэатральны скарб — праграмкі, афішы, фотаздымкі са спектакляў, артыкулы з газет і часопісаў пра свой тэатр.

Цікавым і арыгінальным было святочнае адкрыццё фестывалю. За ансову былі ўзяты героі беларускіх п'ес-казак, якія ў той ці іншы час ішлі на сцэне тэатра "Летуценнікі". І, вядома, беларускі дзіцячы фальклор: лічылкі, калыханкі, пацешкі. Кожны з герояў запрашаў на святочную сцэну адзін з калектываў — гасцей, якія паказвалі свае "візітныя карткі", знаёмілі гледачоў і гасцей са сваім калектывам.

Адкрыццё стала тым творчым імпульсам, які даў святочны зарад на цэлыя тры фестывальныя дні.

На фестывалі працавалі журы дарослае і дзіцячае. Дарослае ўзначаліў вядомы рэжысёр Р.Баравік — дацэнт кафедры тэатральнай творчасці Універсітэта культуры, дзіцячае журы складалася з прадстаўнікоў дзіцячых калектываў.

Кожны фестывальны дзень быў падобны і непадобны да астатніх. Гэта нечым нагадвала эстафету: сэнс і мэта захоўваліся, але на дыстанцыю выходзілі ўсё новыя і новыя ўдзельнікі. Гледачы ператвараліся ў акцёраў, акцёры ў гледачоў, дзеючыя асобы мяняліся амаль штогадзіны, а фестываль рушыў наперад, не збаўляючы тэмпу. Так за два з паловай дні на сцэне Сароцкага палаца культуры паказалі свае работы шэсць дзіцячых тэатральных калектываў.

Распачалі святочны рэй гаспадары — узорны тэатр "Летуценнікі" Сароцкага палаца культуры. Яны паказалі сваю новую работу — прэм'еру спектакля па п'есе брэсцкай паэтэсы і драматурга Зінаіды Дудзюк "Сінязорка". Гэты спектакль стаў своеасаблівым сімвалам — марай аб шчаслівай краіне Вудэнаў, куды прылятае чароўная птушка Сінязорка, якая прыносіць радасць і багацце ўсім жыхарам. Але ваяўнічы і злы кароль Катум-тум-тум са сваімі падначаленымі робатамі спрабуе захапіць Вудэны і пасадзіць да сябе ў клетку чароўную птушку Сінязорку.

Рэжысёр Ала Каткавец надала п'есе вобразны, эмацыйны пачатак. У спектаклі з прычыны мастацкай спецыфікі тэатра абодва супрацьлеглыя бакі дзеяння набываюць зрокавыя абрысы. Святло і цемень, духоўнасць і агрэсіўнасць — гэта стрыжнёвая лінія праходзіць праз увесь спектакль. А ў цэнтры — Сінязорка, сімвал веры і духоўнасці. Вельмі яскрава і пераканаўча сыграў Караля юны акцёр Віктар Брагінец. У яго выкананні Кароль — гэта не проста жорсткі і ваяўнічы драпежнік, але і весяльчак, які любіць і патанчыць, і паспяваць.

Забягаючы наперад, трэба сказаць, што прафесійнае і глядацкае журы адзначыла работу Віктара Брагінца прызам глядацкіх сімпатый, імянным гадзіннікам. І яшчэ адзін акцёр — самы юны ўдзельнік фестывалю чатырохгадовы Паўлік Каткавец — вылучыўся сваёй яскравай гульнёй.

Фестывальная афіша была даволі змястоўнай і арыгінальнай. Побач з "Сінязоркай" класіка беларускай драматургіі: Купалаўская "Паўлінка" ў выкананні гімназістаў з Барысава, дзіцячая замежная класіка "Прыгоды Чыпаліна" Дж.Радары ў выкананні юных аматараў з тэатра "Маяк" з Дзяржынска, варыяцыі на сучасную тэму ва ўзаемаадносінах Воўка і Зайца ў спектаклі "Дагнаць і абясшкодзіць" паводле п'есы А.Хайта і У.Курляндскага "Ну, воўк, пачакай" у выкананні ўзорнага тэатра-студыі "ТэСт" Маладзечанскай беларускай гімназіі, прыгодніцкае падарожжа ў лялечны горад паводле п'есы польскай пісьменніцы Л.Мілевай "Калі лялькі не спяць" у выкананні ўзорнага тэатра "Мельпамена" са Слуцка, музычная казка "Пра Ямелю" паводле п'есы Л.Філатава "Пра Фядота-стральца, удалога малайца" ў выкананні дзіцячай тэатральнай студыі "Вясёлы балаганчык" з Мар'інай Горкі.

Адна з галоўных вартасцей фестывалю — яго прадуманая, разумная арганізацыя. Фестываль стаў сапраўдным святам дзіцячай творчасці і натхнення. Тут удалося дамагчыся такой раскаванасці і адначасова вытанчанасці, пры якіх комплексы правінцыйнасці ў момант знікаюць. Усе юныя артысты змаглі ўбачыць адзін аднаго на сцэне, адпачыць разам на вечары і балю дружбы. На камерцыйныя паказы (кошт аднаго білета на спектакль склаў усяго 1 тысячу рублёў) змаглі хадзіць усе, хто хацеў...

І хаця фестываль не меў ярка акрэсленага духу спаборніцтва, кожны калектыў проста імкнуўся паказаць сваё майстэрства як мага лепей, і галоўная вартасць фэсту, што дзеці пасябравалі.

Да новай сустрэчы, фестываль!

**Васіль КАТКАВЕЦ,**
**загадчык аддзела культуры Любанскага райвыканкама.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Сінязорка" — Сінязорка (Святлана Ашуйка) і Кароль (Віктар Брагінец).*

# ВІНШУЕМ!

***За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вырашыла прысвоіць найменне***

***"Народны самадзейны калектыў":***

— студыі эстраднай песні Пінскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 108 Брэсцкай вобласці;

— сямейнаму аматарскаму клубу "Іван ды Мар'я" Мерчыцкага сельскага Дома культуры Пінскага раёна Брэсцкай вобласці;

— тэатру сатыры і гумару "Ком-Ікс" Мазырскага гарадскога Дома культуры Гомельскай вобласці;

— фальклорнаму ансамблю "Стаўбунскія вячоркі" Стаўбунскага сельскага Дома культуры Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Харашуха" Стара-Цярэшкавіцкага сельскага Дома культуры Гомельскага раёна;

— ансамблю народнай песні і музыкі "Рэчыцкія музыкі" дзіцячай музычнай школы № 1 г.Рэчыцы Гомельскай вобласці;

— камернаму хору Петрыкаўскай дзіцячай музычнай школы Гомельскай вобласці;

— ансамблю народных інструментаў Гомельскага раённага Дома культуры;

— баяннаму аркестру Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута Гомельскай вобласці;

— фальклорна-этнаграфічнаму ансамблю "Панёвы" Опальскага цэнтральнага Дома культуры Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці;

— хору народнай песні "Палессе" Лунінецкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 146 Брэсцкай вобласці;

— фартэпіяннаму квінтэту Івацэвіцкага раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра культуры Брэсцкай вобласці;

— лялечнаму тэатру "Батлейка" Мірскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 234 Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці;

— фальклорнаму гурту вёскі Студзераўшчына Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Спадчына" Бобравічскага цэнтральнага Дома культуры Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Юрацішкаўскі кірмаш" Юрацішкаўскага гарадскога Дома культуры Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці;

— хору "Вяснянка" Гродзенскага педагагічнага вучылішча.

***"Узорны самадзейны калектыў":***

— ансамблю песні і танца "Каралінка" Брэсцкага гарадскога Дома дзіцячай і юнацкай творчасці;

— эстраднаму ансамблю танца "Маскарад" Драгічынскага гарадскога Дома культуры Брэсцкай вобласці;

— студыі дэкаратыўна-прыкладной творчасці дзяцей і юнацтва "Факел" г.Жлобіна Гомельскай вобласці.

# ТАЯМНІЦЫ НЯСВІЖСКАЙ МЕЛЬПАМЕНЫ

***Безумоўна, тэатр — гэта таямніца, а тэатр, які мае званне "Народны", самадзейны па сутнасці сваёй, — таямніца ўдвая. Сапраўды, што прымушае людзей самых розных прафесій збірацца пасля напружанага працоўнага дня, у свой вольны час, і цалкам аддаваць сябе сцэне? Які магніт, якая непераможная сіла цягне іх да сцэнічных прыступак? Грошай жа за гэта яны не атрымліваюць! Што аб'ядноўвае і згуртоўвае гэтых улюбёных у мастацтва людзей? Дзе яны, у рэшце рэшт, бяруць сілы, каб сярод жыццёвых, хатніх, сямейных і прафесійных клопатаў знаходзіць час яшчэ і на свае захапленні? Пытанні, пытанні...***

***Аднаму з самых сталых народных калектываў краіны — тэатру ў Нясвіжы летась споўнілася 45. Ганаровае званне "Народны" ён атрымаў шэсць гадоў таму. А наогул, тэатру ў Нясвіжы, адным з самых старажытных гарадоў Беларусі, ужо больш за 250 гадоў. Уражвае? Але і гэтага мала. 1746 год, год з'яўлення ў Нясвіжы тэатральнай трупы княгіні Уршулі Радзівіл, лічыцца годам нараджэння тэатра на тэрыторыі Беларусі. Вось такія карані, такі пачатак генеалагічнага дрэва на гэтай, поўнай цудоўных паданняў і рамантычных гісторый зямлі.***



Быў час, калі сюды дасылаў лісты кароль Францыі Людовік XIV, прыдворным камедыёграфам якога быў вялікі Жан Батыст Паклен (Мальер). Тэатр у Нясвіжы тады ўжо існаваў. Дарэчы, харэографы, балетмайстры выпісваліся з Парыжа, оперы спецыяльна для нясвіжскай трупы пісалі французскія кампазітары. Колькі самых неверагодных гісторый звязана з Нясвіжскім тэатрам той пары, гісторый рамантычных, часам нават трагічных.

Адна з іх хутка ажыве на сцэне тэатра, але пра гэта крышачку пазней, а зараз вернемся да творчых пошукаў і праблем, пазнаёмімся з апантанымі артыстамі народнага тэатра.

Яго асноўнае ядро складаюць людзі, што аддалі сцэне больш за 20 гадоў і маюць у творчым арсенале дзесяткі створаных вобразаў. Гэта Тамара Ярмоленка, прафесійная журналістка, якая ўвесь час працавала ў раённай газеце, Эма Булат, дзяржаўная служачая, Генадзь Шаблоўскі, мастак, музыкант, майстар на ўсе рукі, Мікалай Дрозд, дырэктар сярэдняй школы, Іосіф Радзюк, будаўнік.

У творчай біяграфіі гэтых артыстаў удзел у спектаклях "Мінулася кату масленіца" і "Не было ні граша, ды раптам алтын" А.Астроўскага, "Паўлінка" і "Прымакі" Я.Купалы, "Выбачайце, калі ласка" і "Трыбунал" А.Макаёнка, "Бяда ад пяшчотнага сэрца" М.Салагуба, "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцінкевіча, "Мікітаў лапаць" М.Чарота, "Бедныя, багатыя, вясёлыя" Г.Марчука і шмат іншых п'ес.

У горадзе іх ведаюць, на вуліцы з імі вітаюцца незнаёмыя людзі, паміж сабой называюць "нашыя артысты", пры сустрэчы ў краме альбо на рынку пытаюцца, калі будзе наступная прэм'ера, на спектаклях заўсёды горача рэагуюць на розныя сюжэтныя нечаканасці, напрыканцы доўга трымаюць на сцэне ўдзячнымі апладысментамі. Гэта дзякуючы ім людзі ведаюць, што ў Нясвіжы ёсць свой тэатр, які "не горшы за сталічныя".

Тут уражвае не параўнанне з нейкімі вядомымі аўтарытэтамі, а той гонар, які гучыць у гэтых словах. Іх, артыстаў народнага тэатра, ведаюць, любяць, яны і іх спектаклі патрэбныя гораду, яны нясуць культуру, прываблівaючы сваім талентам, — вось адзін з магчымых адказаў на пытанне аб тым, што іх аб'ядноўвае, дае сілы, трымае на сцэне. Побач з вопытнымі майстрамі працуюць іх маладзейшыя калегі: Ала Ганецкая і Вольга Дубрава, метадысты раённага цэнтра культуры і адпачынку, дырэктар гэтага цэнтра Таццяна Лук'янчык, інжынер Яўген Атрахімовіч. На іх рахунку таксама ўжо не адна сыграная роля, яны таксама ведаюць, што такое творчы поспех, што такое радасць сцэнічных адкрыццяў.

Аднак жа прэм'еры, апладысменты і кветкі бываюць не так часта, большасць часу займаюць цяжкія, карпатлівыя, нервовыя, не заўсёды ўдалыя рэпетыцыі. Адкуль тады гэтая апантанасць, гэты фанатызм у працы, у творчых пошуках? Адкуль палкая самаадданасць? Назіранні за рэпетыцыямі, спектаклямі, размовы з артыстамі, бачанне нейкіх патаемна-няўлоўных сувязей паміж імі даюць поўнае права сказаць, што тэатр для большасці з іх — сэнс існавання ў жыцці, шчаслівая магчымасць сустрэчы з цудам творчасці. Так, яны творцы, і ў гэтым няма перабольшвання. Аддаючы сябе сцэне, людзям, яны шмат і атрымліваюць. Зразумела, не ў сферы матэрыяльных набыткаў, а ў сэнсе духоўнасці.

Інакш жыць ім ужо цяжка, а то і проста немагчыма. Вось некалькі прыкладаў. Напярэдадні прэм'еры спектакля "Дэфіцытны жаніх" паводле твора Г.Марчука артыстка Ярмоленка зламала руку. І тым не менш прэм'ера адбылася, Тамара Пятроўна выйшла на сцэну ў гіпсе і сыграла з такім уздымам, што гледачы аднадушна вырашылі: так напісана ў аўтара. Чаго гэта каштавала актрысе — ведае толькі яна.

Далей, Вольга Дубрава, якая ў гэтай жа п'есе выконвала ролю маладой гераіні, на кожную рэпетыцыю прыходзіла з маленькай дачкой. Маці рэпеціруе на сцэне, маленькая ж Аляксандра (сваё "творчае жыццё" яна пачала амаль у месячным узросце) у калысцы каля сцэны. Дачка тэатра і ўсё тут. Роля была сыграна цудоўна, а Сашка ўжо сама бегае па сцэне.

І яшчэ адзін прыклад. Мікалай Максімавіч Дрозд, вядучы артыст тэатра, жыве і працуе наогул не ў Нясвіжы, а ў Аношках. "Не блізкі свет", як той казаў. Каб прыехаць на рэпетыцыю, ён ідзе ад дому тры кіламетры да аўтобуснага прыпынку, а потым ужо едзе. На якіх вагах можна ўзважыць гэтую самаадданасць? Калі б існаваў, скажам, ордэн "Рыцар тэатра", Мікалай Максімавіч быў бы сярод першых, хто яго атрымаў.

Вось такі ён, Нясвіжскі народны тэатр, прадаўжальнік тэатральных традыцый, закладзеных тут два з паловай стагоддзі таму. У самыя бліжэйшыя дні нясвіжане ўбачаць прэм'еру вадэвіля "Аз і ферт" паводле твора вядомага рускага драматурга XIX стагоддзя А.Фёдарава, а потым, восенню, на сцэне ажыве самая цудоўная, рамантычная і трагічная легенда пра каханне, якая нарадзілася на гэтай зямлі. Кожны, хто аднойчы ехаў па дарозе Навагрудак — Мір — Гарадзея — Нясвіж, бачыў помнік прыроды — дуб і сасну, што растуць з аднаго кораня і, пераплятаючыся галінкамі, нібыта рукамі, імкнуцца да сонца. Паданне расказвае, што калі яшчэ быў зусім маладым князь Караль Станіслаў Радзівіл, па мянушцы "Пане Каханку", у балетнай трупе тэатра танчыла прыгажуня-балерына Ганузя, а пры панскім двары служыў малады таленавіты мастак. Яны горача пакахалі адзін аднаго, але Ганузя спадабалася аднаму з багатых паноў са світы Караля Станіслава. Закаханых павінны былі разлучыць назаўсёды, але яны вырашылі ўцячы, спадзеючыся зберагчы сваё каханне. Па дарозе ўцекачоў дагналі і закатавалі, а на месцы, дзе пралілася іхняя кроў, выраслі дуб і сасна, выраслі, аб'яднаўшыся каранямі, каб ніколі больш не расставацца.

Даследчыца нясвіжскай даўніны і пісьменніца Шыпшыгіна-Патоцкая напісала п'есу паводле гэтага падання і зараз тэатр над ёй працуе. Хочацца спадзявацца, што гэты спектакль, у якім, дарэчы, выйдуць на сцэну самыя маладыя артысты тэатра, стане вялікай творчай падзеяй, святам у тэатральным жыцці Нясвіжа.

Хай тэатр сённяшні будзе годным нашчадкам традыцый сваіх славутых продкаў!

**Валерый МАРОЗ**

*На здымку: сцэна са спектакля "Паўлінка" на святкаванні 45-годдзя тэатра.*

# ЗВІНЕЛІ, ЗВІНЯЦЬ І БУДУЦЬ ЗВІНЕЦЬ!

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, Пастаўскі райвыканкам пастанавілі правесці 30 мая — 1 чэрвеня 1997 года ў г.Паставы Віцебскай вобласці II Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".

Запрасіць да ўдзелу ў фестывалі ансамблі народнай музыкі з Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі.

Правесці ў рамках фестывалю вечарыну, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесара І.Жыновіча, творчыя лабараторыі выканаўцаў на народных інструментах, выставу-кірмаш вырабаў народных майстроў, стажыроўку метадыстаў абласных навукова-метадычных цэнтраў народнай творчасці і культурна-асветнай работы, кіраўнікоў самадзейных мастацкіх калектываў.

Рэспубліку Беларусь прадстаўляюць ад кожнай вобласці і г.Мінска лаўрэаты (І месца) папярэдніх фестываляў "Звіняць цымбалы і гармонік" — адзін ансамбль народнай музыкі (у розным спалучэнні), саліст-інструменталіст, прыпевачнік.

У склад дэлегацыі ад кожнай вобласці акрамя творчых калектываў і індывідуальных выканаўцаў уваходзяць прадстаўнік упраўлення культуры (кіраўнік дэлегацыі), спецыяліст па інструментальным жанры абласнога цэнтра народнай творчасці, майстры па вырабе музычных інструментаў, кіраўнікі вядучых музычных калектываў. Агульная колькасць дэлегацыі — не больш за 30 чалавек (з вадзіцелямі транспартных сродкаў). Замежныя краіны прадстаўляюць калектывы і асобных выканаўцаў у складзе да 15 чалавек.

Рэпертуар удзельнікаў фестывалю павінен адлюстроўваць мясцовыя асаблівасці рэгіёна, які яны прадстаўляюць.

***У час фестывальных мерапрыемстваў адбудуцца:***

— прэзентацыя ўдзельнікаў (1 нумар);

— "Пастаўскі баль" (выступленне да 10 хвілін);

— вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесара, заснавальніка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі І.Жыновіча (ансамблі цымбалістаў, салісты-інструменталісты — па адным нумары);

— конкурс "Хто каго?" сярод індывідуальных выканаўцаў: салістаў-інструменталістаў, прыпевачнікаў, сямейных ансамбляў, дуэтаў, трыо (да 10 хвілін);

— выступленні на канцэртных пляцоўках Пастаўскага і іншых раёнаў Віцебскай вобласці (да 1,5 гадзіны);

— удзел у гала-канцэрце.

***Падвядзенне вынікаў фестывалю.***

Лепшыя салісты-інструменталісты і вакалісты ў конкурсе "Хто каго?" вызначаюцца па наступных крытэрыях:

— выканальніцкае майстэрства і сцэнічная культура;

— захаванне рэгіянальных традыцый і асаблівасцей музычных твораў;

— мастацка-вобразнае рашэнне праграмы (нумароў), касцюма.

Пераможцам конкурсу ўручаюцца грашовыя прэміі, удзельнікам фестывалю — дыпломы і памятныя падарункі. Лепшыя калектывы будуць рэкамендавацца міністэрствам для ўдзелу ў міжнародных фестывалях.

# ПАЛАЖЭННЕ

## *аб спецыяльных прэміях Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за выдатныя дасягненні і асабісты ўклад у захаванне і развіццё народных культурных традыцый*

**1.** Спецыяльныя прэміі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за выдатныя дасягненні і асабісты ўклад у захаванне і развіццё народных культурных традыцый (далей спецыяльныя прэміі) устанаўліваюцца Міністэрствам культуры з мэтай дзяржаўнай падтрымкі і стымулявання значных творчых і навуковых дасягненняў, плённай арганізацыйнай працы ў адраджэнні, засваенні, развіцці і перадачы будучым пакаленням народных традыцый.

Спецыяльныя прэміі прысуджаюцца за таленавітыя работы ў сферы мастацкіх промыслаў і рамёстваў, высокамастацкае выканаўчае майстэрства і актыўную папулярызацыю твораў аўтэнтычнага фальклору, арганізацыю традыцыйных народных святаў, выставаў народнай творчасці, цыклаў радыёперадач, выдатныя даследчыя работы, кнігі ў галіне традыцыйнай народнай культуры, адметную грамадскую культурна-асветніцкую дзейнасць па ўзвышэнні міжнароднага аўтарытэту нацыянальнай культуры Беларусі.

Штогод устанаўліваюцца 10 спецыяльных прэмій памерам 30 мінімальных заработных плат кожная

Спецыяльныя прэміі могуць прысуджацца майстрам беларускіх мастацкіх промыслаў і рамёстваў, носьбітам і выканаўцам аўтэнтычнага фальклору, спецыялістам, даследчыкам і выкладчыкам традыцыйнай народнай культуры, кіраўнікам творчых мастацкіх калектываў, кіраўнікам органаў кіравання і ўстаноў культуры незалежна ад ведамаснай прыналежнасці, дзеячам грамадскага культурна-асветнага руху.

**2.** Вылучэнне кандыдатур на атрыманне спецыяльных прэмій праводзіцца:

рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання;

рэспубліканскімі арганізацыямі, навучальнымі і навукова-даследчымі ўстановамі культуры і мастацтва;

упраўленнямі культуры аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама;

творчымі саюзамі і грамадскімі аб'яднаннямі, у тым ліку таварыствамі беларускай культуры замежжа.

Папярэднія хадайніцтвы на атрыманне прэмій накіроўваюцца да 1 снежня бягучага года ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь для ўдзелу ў конкурсе кандыдатаў на саісканне спецыяльнай прэміі.

У прадстаўленні ў тэкставых, фота- і іншых матэрыялах абгрунтоўваюцца падставы для вылучэння кандыдата на атрыманне спецыяльнай прэміі. Пры неабходнасці членам камісіі прадастаўляецца магчымасць дадатковага разгляду дасягненняў кандыдата на месцы яго дзейнасці.

Зацверджаны склад кандыдатур, дапушчаных да ўдзелу ў саісканні спецыяльных прэмій, даводзіцца да ведама вылучыўшых іх арганізацый, устаноў і аб'яднанняў, а таксама сродкаў масавай інфармацыі.

**3.** Склад камісіі па прысуджэнні спецыяльных прэмій зацвярджаецца рашэннем калегіі Міністэрства культуры.

Склад кандыдатур, дапушчаных да ўдзелу ў саісканні спецыяльных прэмій, зацвярджаецца рашэннем камісіі. Рашэнне камісіі аб прысуджэнні спецыяльных прэмій зацвярджаецца калегіяй Міністэрства культуры.

Асобам, якія атрымалі спецыяльныя прэміі, уручаюцца дыпломы і вызначанае грашовае ўзнагароджанне.

# ПАБОЛЕЙ БЫ ДОБРАГА

На мой погляд, можна толькі радавацца, калі ў нашай краіне праходзяць дабрачынныя акцыі. Канечне, яны не вырашаюць усе існуючыя праблемы. Але ж нездарма кажуць у народзе, што з малога нараджаецца вялікае. Так, зусім нядаўна Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь зрабіла ў Вілейскай спецыялізаванай школе-інтэрнаце сапраўднае свята. Вальсы, маршы, сюіты, кавbadзіна... кавацiна, лезгінка знакамітых кампазітараў Л.ван Бетховена, Ж.Бізе, Д.Вердзі, А.Пятрова, А.Ауэра, А.Хачатурана і іншых проста ашаламілі дзяцей. Трэба было бачыць, як яны прымалі камерны духавы аркестр Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі! Пасля заканчэння запланаванай музычнай праграмы дзеці доўга не хацелі адпускаць ліцэістаў. Гэты канцэрт застанецца ў іх памяці на ўсё жыццё...

Міністр культуры Аляксандр Сасноўскі таксама наведаў Вілейку і ад душы павіншаваў выхаванцаў школы-інтэрната з музычным святам. Дарэчы, гэта ўжо другі прыезд сюды нашага міністра культуры, раней ён пабаяцаў зрабіць для дзяцей канцэрт і сваё абяцанне выканаў. Акрамя цудоўнай музыкі былі і падарункі — ксеракс, два камп'ютэры, кнігі, карціна, цукеркі. Як прызнаўся дырэктар школы-інтэрната Мікалай Валчкоў, падобныя мерапрыемствы — вырашэнне набалелых праблем. Калі б не гэтая дабрачынная акцыя, дык школа-інтэрнат яшчэ доўга не мела б камп'ютэраў і ксеракса. А яны сёння вельмі неабходныя для нармальнай працы з выхаванцамі. Трэба не забывацца, што ўсе 224 выхаванцы — дзеці з цяжкімі парушэннямі мовы, прычым 75 з іх — сіроты.

Праходзячы па калідорах школы-інтэрната, нельга не заўважыць, што рамонт тут рабіўся даўно... Безумоўна, я разумею дырэктара Мікалая Іванавіча: калі грошай выдаткоўвацца мала, дык іх трэба размяркоўваць на самае-самае — на харчаванне, вопратку, падручнікі... Кінуліся ў вочы і малюнкі дзяцей, якія дэманструюцца тут жа на шурпатых сценах: добрых вожыкі, вясёлыя мядзведзі, разумныя каты, добразычлівыя львы, рознакаляровыя касмічныя караблі. Я разглядаў гэтыя па-дзіцячы чыстыя наіўныя карцінкі і думаў, як складзецца будучыня тутэйшых дзяцей? Безумоўна, хочацца, каб іх дзяцінства мела і паветраных змеяў, і вясёлкавыя шарыкі, і алавяных салдацікаў, і ляльку Барбі, і прыгожую музыку, і добрыя ласкавыя словы. Тады ім будзе лягчэй змагацца з жыццёвымі цяжкасцямі. Я спадзяюся, што ўсе яны, калі вырастуць, будуць шчаслівымі людзьмі. Падобныя святочныя мерапрыемствы, што ладзіць апошнім часам Міністэрства культуры, выклікаюць у мяне толькі станоўчыя ўражанні.

Калі мы ўжо вярталіся ў Мінск, начальнік упраўлення навучальных і навукова-даследчых устаноў Аляксандр Сцепанцоў паведаміў, што ў бліжэйшы час Міністэрства культуры зноў збіраецца правесці дабрачынную акцыю для дзяцей. Як гэта ні банальна гучыць, але дзеці — будучыня нацыі. Таму, калі ў нас на Беларусі выдаецца часопіс маладых літаратараў "Першацвет", праводзіцца фестываль дзіцячай песні "Халі-Хало", існуюць лялечныя тэатры, адбываюцца тыя ж дабрачынныя акцыі, дык адчуваеш, што ў нас не ўсё гэтак дрэнна — ёсць і добрае. Паболей бы добрага.

**Зміцер ВОЛКАЎ,**
**наш спецкар.**
*Мінск–Вілейка–Мінск*

***2 – 4 мая ў Мінску пад эгідай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Міністэрства культуры, Міністэрства сацыяльнай абароны, рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў прайшоў III рэспубліканскі фестываль народнай творчасці ветэранскіх калектываў "Не старэюць душой ветэраны". Фестываль ператварыўся ў вялікае свята, якое вылілася на вуліцы Мінска. Былі ўскладзены кветкі да помніка Перамогі, адбыліся мерапрыемствы ў сталічных парках. Не было толькі прайграўшых і пераможцаў, бо сам удзел у такім свяце, а гэта значыць магчымасць і здольнасць паказаць сябе, паглядзець і ацаніць, на што здатныя іншыя, быў для ветэранаў яшчэ адной перамогай.***

***Сярод удзельнікаў фестывалю былі салісты "Музыкальнай гасцёўні" Рэспубліканскага палаца ветэранаў. З гаспадыняй гасцёўні, загадчыцай метадычнага цэнтра палаца ветэранаў Галінай РОГАЎЦАВАЙ размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

# ЦУДОЎНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ДОМА ВЕТЭРАНАЎ



**— Колькі гадоў існуе Ваша гасцёўня?**

— Гасцёўня існуе ўжо пяць гадоў. Яна створана, каб разнастаіць вольны час ветэранаў. Да нас прыходзяць ветэраны Вялікай айчыннай вайны, ветэраны працы. Іх аб'ядноўвае адно — любоў да літаратуры, паэзіі, музыкі, песні. Кожную сераду а 18-й гадзіне мы праводзім у гасцёўні літаратурна-музычны вечар. Тэмы самыя разнастайныя: вечары паэзіі, прысвечаныя творчасці Сяргея Ясеніна, Роберта Бёрнса, Яўгенія Еўтушэнкі, Уладзіміра Высоцкага. Акрамя таго, пры гасцёўні працуе клуб паэзіі "Натхненне". Збіраемся двойчы ў месяц па аўторках. Людзі розных прафесій, улюбёныя ў паэзію. Нашы вершы гучаць па радыё, на тэлебачанні. Цяпер мы рыхтуем да выдання зборнік "Мы жывыя".

**— Вы гэта робіце самі ці вам хтосьці дапамагае?**

— У нашай гасцёўні склаўся свой "касцяк" альбо "актыў", на які я абапіраюся. Мы плануем працу на месяц, на квартал і самі праводзім мерапрыемствы. У наш актыў уваходзяць розныя людзі, пачынаючы ад рабочых і заканчваючы дактарамі навук. Вось Галіна Дзянісава — кандыдат эканамічных навук, Лідзія Завацкая — былы дырэктар абласной бібліятэкі. Ёсць інжынеры, педагогі. Акрамя вечароў паэзіі мы праводзім песенныя вечары. Гэта вечары рамансаў, лірычнай і народнай песні.

**— А як яны ў вас праходзяць?**

— Спачатку ідзе расказ пра песню, пра выканаўцаў. У нас склалася свая плеяда спевакоў, якія пастаянна ў нас выступаюць. Гэта Мая Міраненка, былы педагог, у яе выключны голас, яна спецыялізуецца на рамансах. Співаюць Ларыса Глазырына, прафесар, доктар педагагічных навук, Алег Ціханенка, доктар тэхнічных навук, Вера Зарубава, Ніна Дзяхцярык. Яшчэ ў працы гасцёўні нам дапамагаюць студэнты Дзяржаўнай акадэміі музыкі — Маргарыта Александровіч, Андрэй Хмызаў, Уладзімір Мароз, мы іх завем "нашы зорачкі". Таксама мы вельмі ўдзячныя нашым канцэртмайстрам. Сяргей Мярзлюк на добраахвотных пачатках працуе з намі, калі б мы яго ні паклікалі, ён заўсёды у нас. Другі канцэртмайстар — Мікалай Сярдобаў, выкладчык Акадэміі музыкі. Нярэдка мы запрашаем на выступленне маладыя таленты — навучэнцаў музычнай вучэльні, фальклорны ансамбль "Зорка Венера". Там дзяўчынкі — першы курс, і кіруе калектывам студэнтка Анастасія Кісялёва, ёй усяго 18 гадоў.

Поруч з песеннымі вечарамі мы праводзім сустрэчы з папулярнымі артыстамі. У нас у гасцях былі Ігар Лучанок, Эдуард Зарыцкі. Па святах мы праводзім агенькі. Гэта тэматычныя вечары, прысвечаныя якой-небудзь даце. Пішам сцэнарыі: выступленні артыстаў у перамешку з конкурсна-забаўляльнай праграмай. А потым, натуральна, наладжваем сабе дыскатэку. Безумоўна, ставім салодкі стол, самі пячом пірагі. Конкурсна-забаўляльныя праграмы праходзяць вельмі цікава. Публіка збіраецца з усяго горада. Звычайна нашая гасцёўня змяшчае 70—80 чалавек — аншлагі поўныя. А праграмы вось якія: "Алё, мы шукаем таленты", "А ну-ка бабулькі", нядаўна прайшла ўвогуле выключная праграма "Як многа бабулек харошых". І яшчэ "Караоке па-беларуску".

**— Нават ёсць і такое!**

— А як жа, мы не адстаём ад жыцця. Потым праводзім конкурсы прыпевак, конкурсы чытальнікаў, конкурсы на лепшы танец, — тут былі і беларускія танцы, і рускія, і грузінскія. Прайшлі праграмы "Міс Чараванне", "Міс Гасцёўня", "Міс Элегантнасць", "Гаспадынька", "Міс Паэзія". Карацей, у нас адны "місы", і яны так рыхтаваліся, былі гэткія выключныя касцюмы. І журы было кваліфікаванае і кампетэнтнае. Хачу пахваліцца, у нас нават зафіксаваны шлюб паміж наведнікамі нашай гасцёўні. Ён былы палкоўнік, яна былы дырэктар абласной Медтэхнікі.

**— Як можна трапіць да вас у гасцёўню? Многа ветэранаў сядзяць дома, амаль нікуды не выходзяць...**

— На жаль, у нас запрашальныя білеты, бо ўсіх змесціць не можам. Але раз у два месяцы наша гасцёўня выходзіць на вялікую сцэну ў актавы зал. За два месяцы мы робім адбор лепшых нумароў і паказваем іх публіцы. Гэта і стымул для выступоўцаў. Наступны канцэрт будзе ў канцы чэрвеня перад "Днём вызвалення".

**— Дзякуй вялікі Вам за вашую працу. Поспехаў!**

***Пры размове прысутнічаў малады музыкант, канцэртмайстар Сяргей МЯРЗЛЮК, пра якога Галіна Рогаўцава вельмі цёпла згадвала. Таму нельга было не задаць некалькі пытанняў і яму.***

**— Ты чалавек малады і любіш, як мне сказалі, займацца з ветэранамі, дапамагаць ім, сам на добраахвотных пачатках прыходзіш да іх, працуеш. Што цябе цягне да ўжо пажылых людзей?**

— Ведаеш, ветэраны, з аднаго боку, як маленькія дзеці, з імі вельмі цікава і часам забаўна, а з другога боку, у іх ёсць чаму павучыцца, падказваюць, як быць у той ці іншай сітуацыі. Яны толькі, мабыць, выглядаюць не маладымі, а ў душы яны мае равеснікі.

**— Я вось чуў, што ты пішаш на іх словы музыку.**

— Так, у мяне ёсць некалькі аўтараў, з якімі я стала супрацоўнічаю. Напрыклад, паэт-песеннік Васіль Касмакоў. З'яўляюцца і новыя. Некаторыя ад нас сыходзяць. Вось мой сябар Аляксей Патап'еў... У мяне засталіся некалькі яго вершаў, я думаю напісаць песні. Іх будуць спяваць яго паплечнікі, калегі, сябры.

**— Сёння ты выступаў на сцэне. Трохі раскажы пра сваю работу з салістамі-ветэранамі.**

— З салістамі мне працаваць няцяжка. Праблема адна — рэпертуар. Заўсёды штосьці шукаеш, дзесьці штосці "капаеш". Штосьці знаходзіш, з чымсьці згаджаешся, з чымсьці — не. А галоўная ў мяне салістка Вера Зарубава, яна таксама салістка фальклорнага ансамбля "Вечарына". Нядаўна яна стала маёй "хроснай бабуляй". Як старэйшая яна мне дапамагае, дае парады. У нас з ёй узаемаразуменне.

**— Што ты хочаш пажадаць ветэранам на свята Перамогі?**

— Перадусім здароўя і каб яны трымаліся, трымаліся, трымаліся.

**— Дзякуй за размову.**

# АБ ПРАВЯДЗЕННІ І НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ БЕЛАРУСКІХ ФІЛЬМАЎ

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выдала загад "Аб правядзенні І Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў" з мэтай падвышэння ролі нацыянальнага кінематографа ў сацыяльным і культурным жыцці нашага грамадства, папулярызацыі дасягненняў беларускага кінавідэамастацтва розных жанраў, падтрымкі таленавітых маладых кінематографістаў і далейшага развіцця кінафестывальнага руху ў краіне. З гэтай нагоды прапануецца: устанавіць правядзенне адзін раз у два гады Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў; зацвердзіць прыкладзенае Палажэнне аб Нацыянальным фестывалі беларускіх фільмаў; правесці ў кастрычніку 1997 года ў г.Брэсце І Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў; зацвердзіць склад аргкамітэта І Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў. Вырашэнне арганізацыйных пытанняў па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю ўсклaсці на ўпраўленне кінавідэамастацтва, Нацыянальную кінастудыю "Беларусьфільм", Рэспубліканскае вытворча-творчае прадпрыемства "Беларускі відэацэнтр".

Прыняць да ведама, што Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт прыняў адпаведнае рашэнне аб правядзенні фестывалю.

Фінансаванне мерапрыемстваў фестывалю правесці на долевых пачатках за кошт цэнтралізаваных сродкаў Міністэрства культуры і сродкаў Брэсцкага гарвыканкама.

Фундатарамі Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі Саюз кінематаграфістаў, Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", Рэспубліканскае вытворча-творчае аб'яднанне "Беларускі відэацэнтр" і мясцовыя выканаўчыя органы (пры іхняй згодзе).

Фестываль наладжваецца адзін раз у два гады ў адным з абласных цэнтраў Рэспублікі Беларусь.

Кінапраграма фестывалю ўключае абавязковы конкурсны паказ, акрамя таго, могуць быць арганізаваныя інфармацыйны і рэтраспектыўныя паказы.

У конкурсным паказе, што ацэньваецца журы, удзельнічаюць мастацкія, дакументальныя і анімацыйныя кінавідэафільмы.

Фільмы, што вылучаюцца на фестывальныя паказы, павінны быць на кінаплёнцы фарматам 35 мм альбо на відэаносьбіце ў стандарце SVHS.

Кінавытворцы або ўладальнікі права пракату фільму, якія маюць намер узяць удзел у фестывальных паказах, павінны падаць пісьмовую заяву ў адборачную камісію за два месяцы да пачатку фестывалю, а таксама прадставіць наступныя матэрыялы для каталога: звесткі пра аўтараў фільма, выканаўцаў галоўных роляў, фатаграфіі, слайды і іншыя рэкламныя матэрыялы.

Колькасць кінафільмаў па кожным жанры для ўключэння іх у конкурсны паказ вызначае Аргкамітэт на падставе вынікаў працы адборачнай камісіі.

Журы вызначае лаўрэатаў фестывалю па наступных намінацыях: галоўным прызам узнагароджваецца пераможца ў намінацыі "За лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы";
"За лепшую мужчынскую ролю";
"За лепшую жаночую ролю";
"За лепшую рэжысуру";
"За лепшы сцэнарый";
"За лепшае музычнае афармленне";
"За лепшае выяўленчае рашэнне".

Лаўрэаты ўзнагароджваюцца прызамі.

# УСПОМНІЦЬ ЗАБЫТАЕ...

У рамках фестывалю "Мінская вясна-97" у Вялікай зале Акадэміі музыкі адбыўся аўтарскі канцэрт "Край жураўліны" маладога кампазітара Генадзя Ермачэнкава. Канцэрт адкрыў аркестр народных інструментаў педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі, дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Леанід Іваноў. Прагучалі: Паэма для аркестра народных інструментаў і дзве музычныя фрэскі "Край буслоў" і "Крыніцы", Рэчытатыў і арыя для валторны (памяці дацэнта-валтарніста Юрыя Логінава). У канцэрце таксама прыняў удзел заслужаны артыст Беларусі прафесар Яўген Гладкоў, у яго выкананні прагучала паэма для цымбал "Гусляр". Парадавала прысутных добрым выкананнем Канцэрта для домры з аркестрам навучэнка ліцэя пры Акадэміі музыкі Святлана Плахіна. Затым выступілі Актэт драўляных духавых інструментаў, ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра (кіраўнік — заслужаны артыст Беларусі Барыс Нічкоў). Харавую сюіту "У родным краі" выканаў "Народны хор дзяўчынак" рэспубліканскага Палаца культуры "Юнацтва" — мастацкі кіраўнік Віктар Масленікаў. Адметна тое, што на канцэрце прагучалі тры прэм'еры аркестра беларускіх народных інструментаў: Канцэрт для балалайкі з аркестрам — саліст Марына Ільіна, таксама ўпершыню прагучалі музычная фрэска "Сабор Святой Сафіі" і песня "Беларусь мая родная" на словы Леаніда Пранчака. Такі разнастайны цікавы склад выканаўцаў, новыя прэм'еры беларускіх музычных твораў упрыгожылі б любы фестываль Беларусі.

За дні музычнага фестывалю прагучала шмат яркіх лірычных твораў замежных аўтараў, але беларуская музыка, на жаль, амаль не гучала. Думаецца, што мастацкаму кіраўніку філармоніі, Саюзу кампазітараў Беларусі трэба смялей пашырыць канцэртную дзейнасць беларускіх аўтараў, адраджаць вакальную лірыку, рамансы, успомніць арыі забытых беларускіх опер.

**Барыс ПЯНЧУК,**
**народны артыст Беларусі.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, выдатнага грамадскага дзеяча Парватава Яўгена Барысавіча і выказвае спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

# ПОГЛЯД З ПАРТЭРА

Апошнія два заняткі лабараторыі беларускай драматургіі тэатр "Вольная сцэна" праводзіў не ў вестыбюлі, як звычайна, а ў глядзельнай зале. Гэта, як ні дзіўна, паўплывала на якасць сцэнічных чытанняў новых твораў беларускіх аўтараў. Выкарыстанне мінімальных светлавых і музычных эфектаў, няхітрых мізансцэн стварыла атмасферу, набліжаную да атмасферы будучага спектакля, выявіла недахопы драматургічнага матэрыялу і хібы яго рэжысёрскага бачання.

У панядзелак 21 красавіка рэжысёр В.Мазынскі са сваімі артыстамі Т.Мархель, Т.Жахоўскай і В.Кашчэевым паказалі ў асобах драму М.Арахоўскага "Лабірынт". Вядома, што гэта п'еса на традыцыйным падвядзенні вынікаў года да Міжнароднага дня тэатра была прызнана лепшай і атрымала прэмію імя Кандрата Крапівы. Тэатр вынес на абмеркаванне крытыкаў, рэжысёраў і студэнтаў творчых ВНУ Мінска свой, так бы мовіць, вычышчаны варыянт п'есы. У святле рампы хібы будучага спектакля і пралікі рэжысёрскай адаптацыі выявіліся на поўную сілу. Складаныя ўзаемаадносіны персанажаў: мастака Стаха, яго сяброўкі Лілі і студэнткі Жанны, паводле меркавання А.Савіцкай, згубілі ў гэтым паказе багацце падтэкстаў, зрабілі іх другаснымі і нязначнымі. Выпрамленыя тэатрам лабірынты жыцця герояў М.Арахоўскага, іх жаданні і намеры канчаткова заблыталі недасведчанага гледача. Таму, відаць, і ўзніклі пытанні кшталту: аб чым п'еса?.. Знаёмы з першакрыніцай драматург А.Дудараў убачыў "у гэтым цікавым і шматслойным творы згубленых людзей, якія шукаюць, але так і не знаходзяць адзін аднаго".

Тым жа вечарам артысты "Вольнай сцэны" Л.Сідаркевіч, І.Сігоў і У.Іваноў прачыталі па ролях інсцэніроўку вядомай аповесці А.Адамовіча "Апошняя пастараль". Зрабіў яе М.Казачонак.

Вынікі працы лабараторыі падсумаваў В.Валадзько. Ён жа прапанаваў вынесці на восеньскія сцэнічныя чытанні творы жывых аўтараў, каб у іх прысутнасці не толькі крытыкі, а ў першую чаргу аўтары маглі выказацца, што ім замінае ў працы над п'есамі драматургаў-пачаткоўцаў.

**Наталля АСТРОЎСКАЯ**

# МАСТАК, ЯКОГА НАЗЫВАЛІ ЗЛАЧЫНЦАМ

У бібліятэцы імя Янкі Купалы адкрылся выстава нямецкага фатографа і мастака Вольса.

"Гэтыя работы вядомыя ў многіх краінах свету, і нам бы хацелася, каб беларускі глядач мог ацаніць мастака, чые карціны без перабольшвання мелі эпахальны характар для мастацтва пяцідзесятых гадоў", — сказала пры адкрыцці дырэктар мінскага аддзялення Інстытута імя Гётэ Вера Багальянц.

Шчыра кажучы, для многіх прысутных імя Ота Альфрэда Вольфганга Шульцэ (1913 — 1951 гг.), які ўзяў у 1937 годзе творчы псеўданім Вольса, было амаль невядомым, у адрозненне ад Генрыха Цыле, чыя фотавыстава дэманстравалася ў нас трохі раней і чыё імя не раз з'яўлялася ў саюзных і беларускіх выданнях мінулых гадоў.

Аднак выстава не расчаравала. Наадварот — кароткі, усяго ў 38 гадоў, жыццёвы шлях творцы, чыё і жыццё, і пошукі не ўкладваліся ў звыклыя каноны, выклікаў вялікую цікавасць. Парадоксы чалавечага існавання, дзе за прыстойным фасадам часта хаваецца бездань, за вясёлай усмешкай — адчай істоты, якая шукае сэнс свайго з'яўлення ў святле немінучага распаду, знайшлі сваё адлюстраванне ў працах фатографа, які больш за ўсё хацеў разбурыць менавіта форму, каб выявіць існасць з'явы. Што ёсць жывое ў "мёртвай" прыродзе і наколькі жывыя мы самі? — нібыта задае пытанне Вольс, дэманстратыўна фіксуючы побач труп жывёлы і асвятляльны прыбор — раўнадушныя да ўсяго і разам з тым робячы нераўнадушнымі нас.

Напружаную ўвагу да формы хлопчык праявіў з дзяцінства, спрабуючы выкарыстаць сапсаваныя здымкі альбо фотаплёнку, якія бацька прывозіў з паездак, і шукаючы іх у адыходах ці кошыках са смеццем. Пазней, калі, выехаўшы ў Парыж з Дрэздэна, малады фатограф атрымаў заказ на працу ў павільёне моды на Сусветнай выставе, ён напоўніцу выкарыстаў магчымасць убачыць зваротны, часта гратэскавы бок зачаравальнага жыцця мадэльерак і агромністага кола персанажаў так званай "Вялікай моды" і адлюстраваць яго. Менавіта гэтыя фотаздымкі, якія здаюцца стэрэаскапічнымі з-за нязвыклага ракурсу ці нечаканага асвятлення, як бы папярэднічаюць працам будучага графіка-жывапісца. Дарэчы, тое ж мы назіралі і пры знаёмстве з работамі Цыле — яны часам амаль фатаграфічна капіруюць здымкі, але знешняе, вонкавае падабенства толькі дае нам магчымасць больш яскрава ўбачыць і ацаніць грані таленту і мастака, і фатографа і паспрабаваць спалучыць іх у адно.

Але, апроч гэтай, займальнапрывабнай для прафесіяналаў і цікаўна-напружанай для аматараў працы нашай фантазіі, ведаў і інтэлекту, мы маем цудоўную магчымасць проста ўбачыць скрозь пласты часу агромністыя эпохі жыцця даваеннай і пасляваеннай Германіі (мастакі-фатографы ахапілі, магчыма, самы драматычны і вызначальны для гэтай краіны час), паўзірацца ў твары людзей, убачыць вуліцы і касцюмы, адчуць вечную тугу чалавека па дасканаласці. Тым болей што мы не надта часта заўважаем і пішам пра сучасных майстроў фатаграфіі, даўно прывыкшы да паўсядзённага цуду — здымка, які спыняе імгненне. Што ж тычыць розных аспектаў творчасці Вольса, якога нездарма называлі эксперыментатарам і — ячшэ больш выразна — "злачынцам у сілу творчых перакананняў", то лепей проста пайсці на гэтую выставу і, пастаяўшы перад здымкамі, якімі захапляліся і захапляюцца ўжо два-тры пакаленні, паспрабаваць зразумець нешта ў сабе і часе, бо мастацтва найперш менавіта гэта спрабуе зрабіць з нашымі душамі...

**Вольга ІПАТАВА**



Вольс. "Парыж".

# НАША НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА Ў ЕЎРАПЕЙСКІМ КАНТЭКСЦЕ

## можна вызначыць з дапамогай кнігі




***У нядаўнім нумары нашай газеты мы расказалі пра унікальную кніжку Міхаіла Кацара "Беларускі арнамент" і таксама паведамілі, што ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" пабачыла свет яшчэ адна неардынарная кніга — "Народнае мастацтва Беларусі", аўтарам якой з'яўляецца ўкладальнік першай кнігі, доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута.***

***У сваёй працы Яўген Сахута падае комплекснае ўяўленне пра асноўныя віды народнага дэкаратыўнага мастацтва Беларусі: разьбярства, ганчарства, кавальства, пляценне, ткацтва, роспіс і інш. У ёй разглядаюцца мастацкія асаблівасці традыцыйных і сучасных вырабаў народных майстроў, вызначаецца нацыянальная адметнасць, даецца параўнальная характарыстыка ў еўрапейскім кантэксце. Гэтае выданне — першая ў беларускім мастацтвазнаўстве праца абагульняльнага характару.***

***Яўген Сахута расказвае, як нараджалася яго кніжка:***

— Вывучэнне, зберажэнне і развіццё народнага мастацтва не толькі важная народнагаспадарчая задача, але і духоўная задача, вырашэнне якой мае непасрэдныя адносіны да нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Тое разумелі ў "Беларускай энцыклапедыі", падрыхтоўваючы да выпуску кнігу Міхаіла Кацара. Я быў уражаны тым гераізмам, які праявілі яе супрацоўнікі і тагачасны галоўны рэдактар Барыс Сачанка падчас працы над "Беларускім арнаментам". Тады я завёў размову наконт далейшых выданняў, мне адказалі: давайце яшчэ шукаць нешта унікальнае. Я кажу, чаго шукаць, калі ёсць яшчэ адзін гатовы матэрыял. Гэта плён маёй 25-гадовай навуковай дзейнасці, што пакладзены ў маю доктарскую дысертацыю. Сачанка паглядзеў, праз тыдзень аддаў загад па ўключэнні яе ў выдавецкія планы. Я такога сам не чакаў. Праз паўгода кніжка пабачыла свет. Тыраж яшчэ, "цёплы", ляжыць у выдавецтве, там падлічваюць, у колькі ён абышоўся і колькі кніжка будзе каштаваць. На сённяшні дзень яна каштуе тысяч 170, але выдавецтва спадзяецца, што будуць датацыі і цана панізіцца. Нічога дзіўнага няма: тут каля 500 здымкаў і слайдаў па ўсіх відах народнага мастацтва Беларусі. Прадстаўлены ўсе рэгіёны. Канешне, абышлося вельмі дорага. Я не чакаў, што мне выпадзе шчасце трымаць у руках гэтую кнігу. На жаль, у энцыклапедыі праца па выданні падобных кніжак зараз спынілася. Планавалася выдаць яшчэ дзве кнігі па архітэктуры, але падрыхтаваныя да выдання, яны далей не пайшлі, таму што новае кіраўніцтва пачало больш дбайна, на яго думку, лічыць грошы, не думаючы пра сумныя наступствы для нашай традыцыйнай культуры.

**С.М.**

# БУДЗЕМ НАСЕЛЬНІКАМІ "МУЗЫЧНАГА КВАРТАЛА"!!!

***На Беларусі з'явілася новая газета — "Музычны квартал". Як бачна з назвы, газета ставіць сваёй мэтай асвятленне падзей музычнага жыцця. Аднак, як завяраюць супрацоўнікі "Музычнага квартала", гэта разнапланавае выданне, арыентаванае на самыя шырокія колы сучаснай моладзі. Таму галоўным рэдактарам газеты з'яўляецца прадстаўнік той самай моладзі — сімпатычная і абаяльная Юлія ВАНІНА. З ёй размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

**— Найперш скажыце колькі слоў пра вашу газету?**

— Прыярытэты — гэта адлюстраванне жыцця і дзейнасці тых гуртоў і выканаўцаў, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі і для Беларусі. Але мы не пакінем "у спакоі" расійскую эстраду, прадукцыя якой карыстаецца ў нашай краіне вялікім попытам, і, безумоўна, будзем асвятляць заходнюю музыку.

**— Ваша газета амаль што адзіная, звязаная з шоу-бізнесам, якая выкарыстоўвае беларускую мову. Як гэта, на вашу думку, адаб'ецца на іміджы і папулярнасці вашага выдання?**

— Нічога страшнага ў тым, што мы змяшчаем артыкулы на беларускай мове, я не бачу. Рэч у тым, што для беларусаў няма розніцы чытаць і разумець пісанае як расійскай, гэтаксама і беларускай мовай. Аднак мы выкарыстоўваем і міжнародную мову шоу-бізнесу — ангельскую. У рэгістрацыйным пасведчанні нашай газеты замоўлена тры мовы.

**— Якая перыядычнасць выхаду вашай газеты?**

— Пакуль што мы выходзім раз на месяц.

**— Чым газета "Музычны квартал" будзе, на ваш погляд, адрозніваецца ад той жа "Музыкальной газеты"?**

— Здаецца, "Музыкальная газета" болей асвятляе музычныя падзеі, якія адбываюцца на захадзе. Акрамя таго, мы арыентаваны на маладзейшую аўдыторыю.

**— Ці ёсць у вас адметныя рубрыкі?**

— Вядома ж, якая шматтыражная газета, а ў нас стартавы наклад 10 000 паасобнікаў, не мае арыгінальных рубрык!

**— Дык якія?**

— Мы, напрыклад, цікавімся не толькі развіццём рока, джаза і "папсы", але асвятляем класічныя жанры, бардаўскую песню, фальклор. Да таго ж займаемся аналізам музыкі, якую "круцяць" на дыскатэках і якую граюць у клубах.

**— Як вы мяркуеце, у якім стане на дадзеным этапе знаходзіцца беларуская музыка?**

— Развіваецца і будзе развівацца. Дзіўна, што жыць становіцца цяжэй, а цікавасць да музыкі ў моладзі падвышаецца. Прычым не да абы-якой. Моладзь з большай ахвотай звяртаецца да інтэлектуальных жанраў. Калі сярэдні рок-канцэрт раней збіраў абмежаванае кола знаёмых, то цяпер у большасці выпадкаў — аншлаг. Людзі прыходзяць і слухаюць змест песень. Тое самае з бардамі і часткова з фальклорам. Рытмізаваная, пазбаўленая сэнсу эстрада пераплывае ў дыскатэкі, якія на гэтым спецыялізуюцца. Адбываецца размежаванне: там, дзе хочацца танчыць, — гучыць музыка для цягліцаў, там, дзе хочацца адпачываць, успрымаючы новую інфармацыю, — музыка для галавы. Сярод музыкаў з'явілася больш людзей, зацікаўленых у якасці сваёй творчасці. Ужо нікога не здзіўляе закрытасць і безалкагольнасць рэпетыцый. Раней фінал рэпетыцыі нельга было ўявіць хаця б без піва. Цяпер гэтага няма. Рэпетыцыі — гэта сур'ёзная праца. Услед за гэтым жывы кантакт з любімымі выканаўцамі перамясціўся ў клубы. Нарэшце мы падыходзім да агульнасусветнай мадэлі.

**— І апошняе пытанне. Якія вашыя бліжэйшыя планы?**

— Закончыць фармаванне штату — выбраць лепшых з пазаштатных карэспандэнтаў і працягваць далейшыя пошукі стылю і чытача.

**— Іншымі словам — засяліць "Музычны квартал"?**

— Так.

**— Што ж, я таксама з задавальненнем буду жыхаром вашага квартала. Дзякуй за размову. Поспехаў і ўдачы.**

КРАСАВІК
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

№ 17—18 3 — 16 мая 1997 г.

SUB SPECIE AETERNITATIS

# ФЯДОТ І ПАРОЛЯ

*"Любоў церпіць доўга, уміла-жальваецца, любоў не зайздросціць, любоў не праслаўляе сябе, не ганарыцца...*

*... не раздражняецца, не памышляе ліха,*

*не радуецца з няпраўды, а разам цешыцца з ісціны;*

*усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяваецца, усё пераносіць.*

*Любоў ніколі не мінаецца..."*

***Першае Пасланне Апостала Паўла да Карынфянаў (13: 4-8).***

... Гэтыя ўзнёслыя і высакародныя словы пакінуў нам вялікі хрысціянскі вястун — адзін з самых руплівых вучняў Збавіцеля. Здзяйсняючы сваю адважную Адысею па Міжземнамор'і, ён усюды прапаведваў: любоў ва ўсім, што цудоўна, добра і праўдзіва. У наступныя дзве тысячы гадоў гэтым шляхам Любові пройдуць многія, хто сваімі пакутамі, сумненнямі і прасвятленнямі зацвердзіў: без любові гэты свет не меў бы сучаснага і будучага, не меў бы сэнсу. Сярод вандроўнікаў на гэтым шляху і мае героі — Фядот і Пароля.

... Сям'я Усавых — Фядот Антонавіч і Праскоўя Андрэеўна (з дзяцінства яе ласкава клічуць Паролька, Пароля) — жыве ў вёсцы Кругавец Добрушскага раёна, што на Гомельшчыне. На самай мяжы з Украінай і Расіяй. Таму і гаворка ў вёсцы асаблівая — багата рускіх і ўкраінскіх словаў. Пазнаёміліся яны яшчэ дзецьмі: Пароді было 7, Фядоту — 12 гадоў.

**Пароля:** Маці паслала мяне служыць: сястру большую ў адну хату, мяне — у другую. У гаспадароў маленькіх калыхаць. Ну, дзіцёначка закалышу, калі яны на рабоце — адчыню вакенца (помню ўсё!), на вакенца сяду і пяю: "Ой, не пой, не пой, салавейка мой, у зялёным садку, не задавай, не задавай жалю сэрцу майму, маё сэрца млее, млее, заміpае ў мяне". Гэта дзіцячая мая такая песня была. А ён (Фядот — **М.Г.**) каня вядзе: хоць туды — у поле, хоць адтуль — у вёску. І вось гэта ж ён пачуў і потым казаў, што на сэрцы жаль, калі гляну на цябе. А я была худзенькая ды любаценькая дзяўчынка. Вось з тае пары я на вакенцы і сяджу: на другі дзень, на трэці... А ён усё заўважаў: "як ты ваду, — кажа, — з калодзежа цягала ды не выцягла... І з тае пары, кажа, стаў цябе я чакаць..."

...Праз 15 гадоў яны ажаніліся, нарадзілі дзяцей, пабудавалі хату, пасадзілі сад. Жылі з цярпеннем, міласэрнасцю, верай... Вядома ж, не аднымі ружамі быў усцелены іхні жыццёвы шлях. На іх велізарнымі каменнямі ляжалі варожасць, нянавісць і забойства. Ні аб'ехаць, ні абысці.

22 чэрвеня 1941 года. Над народам, знявечаным калгасамі, расстрэламі і лагерамі, была ўзнятая не менш страшэнная сякера ўжо не свайго, а чужаземнага нягодніка. Даваенныя жахі, і нечаканасць бяздарнага адступлення выклікалі разгубленасць, здранцвенне, асуджанасць. Масавы палон.

**Фядот:** Я быў пастухом, скаціну за сялом пасвіў. З дзедам, Емяльянавічам. Бачу — з сяла на кані вершнік галопам ляціць на Весялоўку. Назіраем мы з дзедам: што ж такое? Каб не вайна... Дзед ужо быў на вайне, дык ён ведае — каб не пачалася тут вайна... Назіраем: куды ж гэты ездавы будзе яшчэ скакаць? Ён за Весялоўку, а з Весялоўкі на Усох. Ну, баба мая ідзе: "Фядотка, вайна!" Ну што значыць — вайна? Я ўжо скаціну дапасу. Дацямна. Вайна, значыць — вайна. Што тут ужо будзеш рабіць?

**Пароля:** Перад ранніем хтосьці стукае нам. Дзяжурная з сельсавета. Анюта яе звалі. Я ў яе спытала: "Павестка?" "На ранне, — кажа, — збірацца..." А гэта ж слёзы! Я Бога зняла, папрасіла ў Бога на ўколенцах. Ён Вальку нёс, а Ваську трымаў за руку. Да сельсавета прыйшлі, а там людзей-людзей... Прасіў, каб я зберагла дзяцей. Ну, што ж, распрасціліся, яны і пайшлі...

... І пайшоў салдат 19-га будаўнічага батальёна на вайну. У сваёй звычайнай сялянскай вопратцы. З рыдлёўкай. Ад роднага дому, пчальніка, сада, каханай з дзяцінства Парролькі, аднагадовай Валькі і трохгадовага Ваські. Грувасціць доты, дзоты, капаць супрацьтанкавыя равы. Пайшоў на ўсход, да Варонежа. І там — з адной рыдлёўкай — 6 ліпеня 1942 года быў палонены. І пачалася дарога пакут Фядота, цяпер ужо на Захад, у Нямеччыну.

Усе яны, каго не расстралялі падчас адбору і каго завалаклі за калючы дрот, ужо не існавалі для Сталіна. Для Сталіна ўсе яны — каля 6 мільёнаў савецкіх салдат і афіцэраў, хто трапіў у палон за гады вайны, — сталі цяпер злачынцамі, здраднікамі Радзімы. Хоць ужо даўным даўно свет нармальных людзей не лічыў палон злачынствам. А іх зараз кінулі. І нікому яны не былі патрэбныя, акрамя сваіх родных і блізкіх, ды і тое, не ўсіх! Ніхто горш за іх не жыў і не паміраў у палоне. Праз нейтральныя краіны ім не дасылалі лісты і хатнія гасцінцы, пасылкі з Чырвонага Крыжа, ім не налічвалі выслугу гадоў і заробак, не ўзводзілі ў чарговы чын, як палонных вайскоўцаў заходніх армій.

**Фядот:** Я ведаў, што калі вярнуся з палону нават калекам, дык на радзіме мяне чакае суд, магчыма, нават і расстрэл. Але не могуць жа мяне расстраляць за тое, што рыдлёўкай не перабіў фашысцкія танкі? Ці трэба было абавязкова памерці ў той дзень? А як жа сям'я, дзеці, Пароля? Для чаго чалавеку тады патрэбна жыццё? І чаму гэта ён здраднік? Слова ж сваё не мяняе. Вось даў клятву адданасці Паролі і верны ёй будзе да канца дзён сваіх. Ён і радзіме не збіраўся здраджваць. За год на фронце столькі зямлі наварочаў і ўсё — супраць немца. А вось што гэта за Радзіма-маці, калі яна кінула дзяцей сваіх у ліхім палоне? Ці няма ёй разліку падтрымліваць мільёны асуджаных, хто бачыў ганьбу адступлення 41-га і 42-га? Выходзіць, на фронце ён патрэбны Радзіме, а ў палоне — кінуты-лішэнец, які павінен падохнуць? А як выжыць, калі іх пяць сутак вялі без пітва і ежы, а потым, на секунды, пад лічэнне выпускалі да карыта з баландай і яны жменяй запіхвалі ў засохлы рот свінячую бурду... Гналі доўга. Надышлі восеньскія халады. Па начах калаціліся ў гнойнай жыжцы хлявоў, а ўдзень, наштурхаўшы за пазуху саломы і як-небудзь падвязваючы дротам і матузкамі пастолы, зробленыя з кінутых ім скур, зноў цягнуліся гаротнай калонай.

... Здаралася і шанцавала. Неяк у яміне знайшлі дохлага каня, а аднойчы ўгледзеў і ўхапіў-такі хлябінку, якая ляжала ля дарогі — дзякуй добрай душы! Па праўдзе кажучы, ад тае хлябінкі толькі і засталося тое, што ў пяцярні заціснуў. Астатняе — ў момант параздзіралі. А як шкада тых некалькіх бульбін, што вырваў з поля! Як-небудзь абмыў, паставіў кацялок варыць, пакуль з работы прыйшоў — вада выкіпела, а кацялок сплавіўся — адна ручка засталася. Не раз і білі, увесь час пералічвалі. А раніцай немцы заходзілі ў барак і рабілі праверку: клалі на голыя ногі лом халодны. Калі чалавек уздрыгваў, ішлі далей, калі не варушыўся, тут жа выносілі труп у яму. Збегчы было цяжка: вельмі саслабеў, ды і выгляд прыкметны — скура ды косткі. Неяк удвaix паспрабавалі ўцякчы: схаваліся ў каміны, але знайшліся сведкі — іх выдалі. І агнём, дымам, кулямі ўцекачоў выкурылі — чарнамазых, абпаленых, ледзь жывых. Па дарозе бачылі ўсялякае. Неяк гляджу: мужык з намаганнем пхне прад сабой тачку. На ёй — некалькі мяхоў з зернем, а жанчына з двума малымі дзеткамі прыладзіла на ягоную тачку свае невялікія клуначкі. І калі гаспадар скінуў яе пажыткі, немцы з лямантам набеглі і пачалі яго лупцаваць.

... Мабыць, упершыню палонныя былі разам са сваімі катамі: выказваючы спачуванне гэтай жанчыне і яе дзеткам, яны аплаквалі сваіх родных, якія мучыліся на бязмежных прасторах пакутніцы-Еўропы.

**Пароля:** Ворагі забіць мяне хацелі — кажух ім аддавай. Мёд рабавалі з пчальніка, палілі салому са страхі і дымам гналі пчол. А я іх упрошвала, каб не спалілі хату. А ў хаце голаду, холаду — лопне сэрца! Травы елі, смактуны гэтыя з канюшыны таўклі, вераб'іны шчаўлік таўклі... А фронт падышоў — у пагрaбах сядзелі. Я яшчэ калеку прывяла — Ганна тут Бударка на мыліцах хадзіла. А пагрaбы на агародзе земляныя, а зімы былі снегавыя, маразы — вялікія. У дзяцей ручкі паапухнуць... Я потым дужа спорцілася — захварэла — можа, з гора так атрымалася?..

Вясна 1945 года. Фядот дажыў да волі. Свабоду ім прынеслі саюзнікі. І 9 жніўня 1945 года Фядот прыбыў у адзін з савецкіх праверачна-фільтрацыйных лагераў ва Усходняй Прусіі. Тут, не выходзячы за дрот, ён павінен быў пераканаўча давесці, што невінаваты.

**Фядот:** Зрабіць гэта было не проста. Трапіў жа ў палон ("Чаму не загінуў ад нямецкай кулі?"). Тры гады быў у палоне і застаўся жывым ("Чаму не памёр? Астатнія ж амаль усе памерлі?"). Вызвалілі амерыканцы. (Гэта было вельмі абцяжваючымі абставінамі...) Бачыў кавалак еўрапейскага жыцця — і гэта была галоўная віна. ("Яшчэ аднавяскоўцаў адукаваць пачне!")

... Па ўсім павінен быў Фядот атрымаць сваю "дзесятку", але ж нездарма ён у сарочцы нарадзіўся! (Сямейнае паданне засведчыла, што само з'яўленне Фядота на свет Божы было вось такім незвычайным.) На шчасце, сябры яго па палоне трапілі ў той жа згонны лагер і высвятленне лёсу Фядота не запатрабавала багата часу. Але ніколі ён ужо не даведаецца, чаму лёс так спрыяў менавіта яму. Лёгка ж, на здзіўленне сяброў, ён адкруціўся — усяго на гадок у Кузбас! А ён не разумее — дома не патрэбныя работнікі, ці што?

**Фядот:** Працаваў на шахце, акуратна, моўчкі, сцяўшы зубы (А калі раптам падоўжаць тэрмін? А я дадому хачу! Толькі б далі водпуск!) Не праца — адно мучэнне. І на Вялікдзень, зусім знянацку — два тыдні волі! Вырашыў не вяртацца. Меркаваў, што калгас не адпусціць — без мужыка яму капец! А што здарылася дома — ужо ведаў.

**Пароля:** А калі вяртаўся з Нямеччыны — ліст даслаў. "Я жывы, а вы жывыя ці не?" Я адпісала яму пісьмяцо, што жывыя. Ён зноў піша: "Не падмані толькі мяне. Васька мне сасніўся. Сон — не ведаю, які: каля рэчкі бачыў яго, а ты як памешана бегала. Значыць, нешта з Васькай ёсць. Ты напішы мне праўду, ці ён ёсць, мой сынок, ці няма жывога?" А тады ўжо абвяла ручку Валькіну на паперы і напісала: "Добры дзень ці вечар, татка мой дарагі, радны! Ваські нашага няма, за трое сутак у вёсцы павыдушвала дзяцей, ці дыфтэрыя, ці тыф, ці шкарлатына — не ведаю..." Усё ўжо расказваў, паказваў, выяўляў. Казаў мне: "Мамачка, не плач так, яшчэ ж і коніка няма. Не будзе таткі, дык я табе буду дапамагаць. А прыйдзе татка, дык будзем разам гора гараваць. Шэсць гадоў, мой залаценькі, шэсць гадоў..."

**Валянціна Фядотаўна** (дачка Фядота і Паролі): Ранняй вясной 1946 года бацька вярнуўся дадому. Мама і бабулька чакалі яго — не спалі. Суседзі паведамілі, што бацька ўжо ў Гомелі. Халодны з вуліцы твар і калючае шчаціннe пабудзілі мяне. Вось ён, мой бацька, якога я толькі сёння спазнаю... Мама яго і абцалавала, і абмілавала, і ў ногі ўпала. А ён сам галосіць на ўсю сілу...

... Вёска сустрэла Фядота цёпла. Чалавек ён добры, ветлівы, гарэлкі не п'е, гаспадарлівы, рукі на месцы. Ён будуе сяло: колькі дамоў зрубіў і печак склаў — усе ведаюць. З удоў браў за працу памалу. Шкуру не драў ніколі. ("Дык як магчыма браць з удавы?") І спяшаўся, не дакранаўся да гарэлкі і закускі. ("Ды ёй дзетак карміць!") Многія маладзіцы не зводзілі з яго вачэй. Але якая карысць? І калі з усмешкай пыталі: "А што будзеш рабіць, калі застанешся адзін?" — Адказваў: "Клятву паклаў, і ўсё! Адзін бы жыў, і ўсё!"

Старанна адбудаваў і сваю хату, і ўсю мэблю ў ёй з любасцю зрабіў. Да сённяшняга дня інкруставаная шафа, разныя буфет, канапа і куфэрак ўпрыгожваюць іхні дом. Ва ўсім, што рабілі яны з Паролю, былі слушнасць, увага і клопат. Акуратны агарод, утульны сад, дзе заўсёды стаяў столік з вязаным абрусам, дагледжаны пчальнік, алея вербаў, якія зрасліся верхалінамі. Фядот з дзяцінства жыў правілам: менш кажы, больш пачуеш, убачыш і зразумееш. Ягоная назіральнасць і ўмеласць дапамаглі яму і палон вытрымаць. Якія немцы ні пільныя, але ён раней за іх прыкмеціў расколіну ў скляпенні тунэля, якая павольна разыходзілася. І сваіх, і немцаў выратаваў. Праўда, праз некалькі дзён "удзячны" ахоўнік так агрэў яго кіем па руках, што палец перабіў і пазногці зляцелі. За тое, што Фядот капаў маленькай рыдлёўкай, ды не зусім шпарка. Другі раз ён ратаваўся ад шахты і запісаўся ў муляры. І пакуль вопытныя муляры трымалі экзамен, ён так усё ўгледзеў, што таксама прайшоў іспыты. Дома, на волі (?), працаваў салодка, з ахвотай, з выдумкай. Для сябе і людзей млынок зрабіў: малоць зерне на муку, бульбу на крухмал, проса на пшано. Неяк змайстраваў Фядот ручны прывод для плуга.

Дык прыйшлі ўскорасці трое з сельсавета і сказалі: "Які маладзец! Калі праз тры дні не знішчожыш — пагрыміш на Салаўкі!" (прыбеглі, нагадалі: "Ты ў нас на ўліку, людзей баламуціць не дазволім! Гэта прыгонны селянін каня меў, а калгасніку — каня, ці там прыводу — мецъ не прызначана! Ці па лагерам засумаваў?") Араць з тым прыводам больш не адважваліся. Гэтак ён і стаяў пад павецццю, пакуль не згніў.

Зневажалі, дакаралі часам Фядота подлыя п'янюгі — плён і апірышча хлуслівай улады — выгаворвалі: "Ты ж нявольнік". Але ж на людзей ён зла не меў: да людзей, як да сябе, адносіўся. Ігнат Палубот — дзядок са спаленай украінскай вёскі Еліна —15 гадоў жыў у сям'і Фядота і Паролі. Усялякі, хто гляне на фота Ігната — скамянецца: былінны, мудры, цудоўны быў выгляд у гэтага Палубота (так і хочацца сказаць Палубога). Быццам сам Усявышні яшчэ раз выпрабоўваў іх на дабрыню...



*Сядзяць — Палубот Ігнат Мацвеевіч (1865 —1959 гг.), Наталля, Назаранка Праскоўя Фядотаўна (1885 — 1981 гг.) — маці Паролі, стаяць — Валянціна, Фядот і Пароля, В.Кругавец, 1954 год.*

**Валянціна:** За гэта, ды за рукі залатыя любіла і любіць іх вёска. Бацька любую машыну збярэ, разбярэ, наладзіць, падключыць. А калі пачыналі збор мёду, мама мне кажа: "А ну-ка, Валька, бяры міску, разнось па суседзям! А ну, частуй суседзей! Таму што не ва ўсіх жа пчолы ёсць. А пчолы ж кусаюць — можа каго на агародзе і ўкусіла пчала. Так што трэба занесці..." А калі прыходзіў Спас, то пачыналі частаванне ад сваякоў да суседзей.

...Пра сябе Фядот менш усяго думаў: першы касцюм толькі на смяротны час прыдбаў — туды ж трэба ў новым. Усё жыццё дзеля Паролькі і дзетак стараўся. На іх і правяраў лёс яго сілу духу.

У 1961 годзе цяжка захварэла дванаццацігадовая разумніца і рукадзельніца Наталля. Каб выратаваць яе, Фядот новы дом зрубіў, на высокім і сухім месцы, куды ў хуткім часе і пераехалі. Сем год адратоўвалі дзяўчынку — усё рабілі, каб яе вылечыць. Але не перамаглі хваробу. Пасля смерці красуні-дачкі з'ехалі адтуль як мага далей — на ўскраіну вёскі. Бо жыць у той хаце было не пад сілу. Усё так нагадвала аб Наталлі, усё было паблізу. Школа і клуб, прыпынак аўтобуса, адкуль вывальвала ўжо "гарадская" моладзь — яе равеснікі, бачная з дома груша на могілках, дзе яна ляжала... Ва ўспамін аб дачцы Фядот насадзіў ліпы і слівы, з Гомеля прывёз чаранкі, прышчапіў іх да дзічкі. І сёння растуць у садзе тыя грушы.

У гэтай сям'і жывая чалавечая памяць адушаўляе ўсё блізкае, дарагое і любімае. Усё, што захавала цяпло позірку, дакранання, подыху... Усё, чым жыў і жыве чалавек: рукадзелле, вопратку і абутак Наталлі, старую бабулькіну хату, вязанне і вышыўкі Паролі, алеі верб, тапалёў і ліп, зрубленыя Фядотам хаты...

Усё гэта яны хораша называюць "нашы памяці". З чатырох дзяцей засталася адна Валька — Валянціна Фядотаўна, якая зараз жыве ў Гомелі. (Марыя — іх першынец — памерла, толькі ёй споўніўся год...)

**Валянціна:** Пры думцы аб тым, што бацька каля маці, мне становіцца лягчэй і пакойней на душы. Ён жа не толькі на чалавека, нават на жывёліну голас не павысіць. У мамы часцяком сільна баліць галава. Гэта — ад вайны і па сённяшні дзень. Я дзяўчынкай прыбягала з вуліцы і не ведала, што мама ўжо злягла. Забягаю ў пярэдні пакой са сваімі дзіцячымі радасцямі, а бацька палец к губам: маўляў, Валька, цішэй! А ў хаце цішыня... І мамка ляжыць такая бледная, знясіленая, страшная... А бацька на коленцах каля яе стаіць і сваімі далонямі цісне на яе скроню. А яна шэптам: "Фядотушка, мацней сціскай..." Я бегла да бабулькі — мы жылі насупраць. А дома часам усю ноч гарэў свет: бацька вызываў доктара, дапамагалі суседзі і разам ратавалі маці. Іншы раз боль не адпускала яе некалькі сутак. Раненька бацька вокны хустамі закрые, часы-ходзікі прыпыніць, ката — за дзверы, курэй з хлява ні на шаг. Такую цішыню рабіў. Каб мама магла выжыць. Я шчаслівая, што ў мяне такі бацька. Я заўсёды ім ганарылася, заўсёды хацела быць такой, як ён.

А мама! Якая яна чысцюля, пявуння, колькі ў яе ласкі, жарту, смеху. А якая майстрыха — ну няма ёй роўных! Толькі арэнбургскія хусткі я магу параўнаць з яе хусцінамі. Па сваіх узорах, са сваёй пражы такую хусцінку створыць — толькі на выставу. І на выставах былі маміны рукадзеллі. Багата ў якіх дамах сяла ёсць нашы памяці. У адной хаце мы з сынам налічылі пятнаццаць нашых работ. Усіх нас маці навучыла гэтаму майстэрству — вязанню і вышыванню. Вось я і кажу, што гэтыя людзі створаныя друг дзеля друга...

**Пароля:** Шкадаваў мяне, любіў мяне, дзяцей, унукаў... Не пакрыўдзіў мяне ніколі і я яго не пакрыўдзіла. Пражылі як ангелы, як ангелы... Адным словам — золата мой Антонавіч, мой Фядотка. Такіх людзей няма. Прыйшоў з вайны — плакаў. Спорцілась я, але спас. Даў мне спакой. Ці з другім бы я жыла? Адзін ён такі на ўсё сяло. Я прашу, каб нас паклалі ў адну магілу. Душа ў нас адна ў целе была.

... Жыццё Фядота і Пароли нібыта біблейская легенда. І ўсе словы тут зусім не маюць значэння, акрамя слоў пакаяння. У тым, каб пражыць сваё жыццё на дарозе Любові. Любові да другіх. Да зямлі кланяюся ім за гэта.

Пасля знаёмства з Фядотам і Паролаю я жыву адчуваннем, што яны былі заўсёды і заўсёды будуць, што не могуць знікнуць бясследна такія людзі. Такія зямныя і не зямныя. Вось яны лунаюць над вёскай, пяшчотна ўсміхаюцца і дакранаюцца кончыкамі пальцаў адзін да аднаго... Як два светлыя закаханыя анёлы...

*"Уваходзьце вузкаю брамаю; бо шырокая брама і прасторная дарога вядуць у пагібель, і многія ідуць імі;*

*бо вузкая брама і цесная дарога вядуць у жыццё, і нямногія знаходзяць іх."*

***Паводле Мацвея Святое Дабравесце (7:13-14).***

**Марат ГАРАВЫ**

# "ТУТ БЫЛА НАДЗЯ"...

Агульнавядома, што салдаты, якія давааявалі "да Берліна", лічылі сваім абавязкам распісвацца на сценах рэйхстага. Я ведаў двух такіх: паэта Пятра Прыходзьку і майго калегу па газеце "Знамя юности" Валянціна Дончына. А вось пра тое, што распісваліся і ў сярэдзіне будынка — пра гэта я даведаўся цяпер, з нямецкіх газет. Але факт гэты так і застаўся б проста фактам, калі б вакол яго сёння не разгарнулася павучальная, як мне бачыцца, дыскусія.

У бундэстагу распаліліся спрэчкі, якія выйшлі на старонкі друку: пакідаць гэтыя, знойдзеныя колькі гадоў таму "наскальныя надпісы", зробленыя савецкімі салдатамі ў 1945 годзе, альбо не. Пасля шматдзённай палемікі вырашылі пакінуць: для нашчадкаў. (Вось што такое сённяшняя Нямеччына: хай чытаюць у 1997 годзе — і разважаюць. Мне хочацца бачыць у гэтым здаровую і моцную маральнасць цэлага народа, ягоны клопат пра будучыню сваёй краіны і ўсёй Еўропы.)

Але чаму праз чатыры гады вярнуліся да гэтага пытання і засумняваліся? Штуршком стала знікненне перакладаў гэтых надпісаў з сейфа расійскай амбасады ў Берліне. Праціўнікі ўвекавечання насценных надпісаў высунулі такое меркаванне: "Захаванне надпісаў небяспечна для падлеткаў: без сарамлівай чырвані на твары іх могуць чытаць толькі, мабыць, сантэхнікі". На падставе гэтага экземпляра, што захоўваецца ў сейфе ў старшыні бундэстага, можна сказаць, што ні падлеткі, ні сантэхнікі не маюць падставаў чырванець. Толькі адзін са сказаў можа быць названы жорсткім альбо непрыемным: "За Ленінград яны заплацілі цалкам!" Астатнія ж гучаць так: "Прывітанне Маскве!", "З Берлінам скончана!", "Слава лётчыкам-знішчальнікам!", "Тут была Надзя".

Ёсць, праўда, адзін момант, які ў дыскусіі не быў закрануты, хаця абмяркоўваўся ў кулуарах пасяджэння: рускія мацюкі, не пабляклыя за 50 гадоў.

Галоўны нямецкі захавальнік помнікаў прафесар Энгель выступае за тое, каб надпісы былі захаваныя. "Сярод іх ёсць толькі адзін, сапраўды непрыстойны". (Так... Цікава, хто яго аўтар і ці жывы ён? Міжволі адчуваеш гонар: наш!) Старшыня бундэстага Рыта Зюсмут далучаецца да меркавання прафесара. "Хай народ не хвалюецца: цэнзуры не будзе", — сказала яна. (Калі б вы ведалі, колькі і якія аналогіі ўзніклі ў мяне з гэтай нагоды. Як бы мы паводзілі сябе, калі б, барані Божа, адбылося наадварот? Якімі б мы былі, калі — пераможцы! — мы зараз сталі такімі, якія ёсць?)

Цяпер надпісы зафіксаваныя для захаванасці на некаторы час. А потым (над саставам асаблівага шкла працуюць навукоўцы) сцены пакрыюць шклом — і назаўсёды. Сляды сумеснай гісторыі... Там, дзе яна вырашалася ўчора і дзе робіцца сёння. Для навучання дэпутатам і нашчадкам. А мне, быламу "кадраваму" настаўніку, гэта было цікава: вось, аказваецца, як трэба выкладаць грамадазнаўства — хай балюча, непрыемна, але — каб ніколі больш!

**Навум ЦЫПІС, наш уласны карэспандэнт у Германіі.**

# АЎТОГРАФЫ ПАМЯЦІ




Няўмольна хутка ляціць час. Гартаючы старонкі памяці, я прыгадваю гады сваёй маладосці. 1941 год. Я — студэнт Гомельскага педінстытута. Вясна. Здаем апошнія экзамены. Я ўжо быў прызначаны працаваць настаўнікам на Палессе. Але ранак 22 чэрвеня быў азмрочаны страшнай весткай — вайна.

Я з сябрамі апынуўся на Бранскім фронце. Балюча было, калі даведаліся з друку, што Гомель захапілі чужынцы. Каб знайсці сваіх сяброў, якія недзе загубіліся ў час адступлення, я пачаў пісаць вершы на рускай мове. Некалькі іх было надрукавана ў франтавой газеце "На разгром врага". У хуткім часе я атрымаў некалькі паштовак ад сваіх аднагодкаў: рэдакцыя дала ім мой адрас...

І вось вызвалена родная Беларусь. Нашы войскі — у братняй Польшчы. Вогненныя дарогі вялі нас на захад, да Нямеччыны. І вось тая зямля, адкуль да нас прыйшла вайна. Занятае нашымі войскамі паселішча. Фашысцкая прапаганда зрабіла сваю справу. Але што гэта за дзіва: да нас бягуць людзі. Чуем рускую, украінскую, беларускую гаворку... Чуюцца словы: "Родныя. Прыйшлі". Гэта былыя батракі нямецкіх бюргераў, рабочыя з заводаў, нядаўнія нашы калгаснікі, з Арлоўшчыны, Гомельшчыны, Палтаўшчыны...

Нашы войскі на Одэры. Вораг люта супраціўляўся. Адборныя паветраныя асы безнадзейна баранілі подступы да Берліна.

Зенітчыкі Рэчыцкай гвардзейскай дывізіі, якой камандаваў генерал-маёр Т.М.Серадзін, трапным агнём збілі ваяўнічую пыху фашысцкіх асаў.

Да варожай сталіцы — лічаныя кіламетры. Адно імкненне — хутчэй туды, у логава звера. І вось перад намі той горад, да якога ішлі, спяшаліся столькі гадоў.

Савецкі салдат-пераможца ўвайшоў у Берлін. Нялёгкі быў яго шлях. За плячыма — Сталінград, бітва за Маскву, Курская дуга, аперацыя па вызваленні Беларусі — "Баграціён", вызваленне Польшчы, Венгрыі і іншых краін.

Фашысты адчайна супраціўляліся. Стралялі з падваротняў, з вокан, бамбілі свой горад. Наша зенітная батарэя знаходзілася ў парку Вікторыя. У ноч на 1 мая была дадзена баявая трывога. Пачуўся гул самалёта. Ляцеў "Хінкель — 111". Недалёка ад рэйхстага гітлераўцы зрабілі пасадачную пляцоўку. Нашы байцы ўключылі пражэктары і ўдарылі зенітныя гарматы. Варожы самалёт рухнуў долу.

Другога мая сціхнуў бой у варожай сталіцы. Зрабілі сваю справу снарады з аўтографамі: "Падарунак Гітлеру", "Па рэйхстагу!".

А назаўтра, калі асеў дым ад баёў, сонечнай раніцай горад звінеў песнямі і воклічамі радасці. Пад акардэоны і гармонікі гучалі любімыя песні: "Кацюша", "Давай закурым", "Аганёк". А колькі шчырых сустрэч, успамінаў!

Цяжка паддаецца апісанню відовішча, якое было каля рэйхстага. Воіны пакідалі свае аўтографы на абпаленых баямі сценах, а над ім лунаў Чырвоны Сцяг Радзімы, узняты рукамі савецкіх воінаў. На сценах з'явіліся надпісы: "Перамога", "Дайшлі", "Слава савецкаму салдату", "Мы з Гомеля", "Смерць фашызму!". А лётчыкі з гумарам пакінулі такія словы: "Ваявалі вышэй усіх, распісаліся ніжэй усіх". Пакінуў аўтограф на сцяне рэйхстага і маршал Жукаў.

**Паўлюк ПРАНУЗА**

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗДЫМКА

Уявіце сабе такую карціну. У самым цэнтры Берліна, за некалькі метраў ад Брандэнбургскай брамы, стаіць абпалены агнём, закурэлы парахавым дымам, прастраляны з усіх бакоў снарадамі, кулямі каменны гмах. На ім узвышаецца разбіты купал, зарашэчаны абгарэлымі жалезнымі кроквамі, якія тырчаць з даху нібыта рэбры на шкілеце нежывой істоты. Па ўсім праходзячы праз Брандэнбургскую браму з усходняй часткі Берліна ў раён Ціргартэна, да былога рэйхстага. Цяпер жа, як вядома, няма ўжо Берлінскай сцяны. Сам рэйхстаг адноўлены як памяшканне, пафарбаваны ў новы колер, без ранейшага купала, ператвораны ў музей. Замест сцяга перамогі, які быў узняты намі ў маі 45-га, можна ўбачыць зараз зусім іншы



бачна, што тут нядаўна ішоў бой за ўзяцце германскай сталіцы. Не паспелі астыць руіны, ачахнуць ад полымя камяні — як да гэтага гмаху падышоў воін у афіцэрскім кіцелі, з чырвонай зоркай на фуражцы. Ён спакойна напісаў сваё прозвішча на сцяне будынка, які нікім не ахоўваўся, і спыніўся на мяжы паміж англійскай і савецкай зонамі. Гаворачы вайсковай мовай — гэта была нейтральная паласа.

У той самы момант, калі воін паглядаў на будынак, да яго падышоў франтавы карэспандэнт. Шчоўкнуў затвор фотаапарата і праз некалькі гадзін воін узяў у свае рукі свежую фотакартку, якая стала для яго на ўсё жыццё самай дарагой рэліквіяй, светлай памяццю пра самае незабыўнае, што было ў жыцці.

Чытач ужо мог здагадацца, што гаворка ідзе пра ўсім вядомы рэйхстаг, што стаіць у цэнтры Берліна, а тым воінам, які падыходзіў да яго і здымаўся перад ім на фота — быў аўтар гэтых радкоў — былы палітрук, затым вайсковы журналіст, капітан, якому тады споўнілася толькі дваццаць пяць гадоў. А чалавекам, які здымаў яго каля руін рэйхстага, быў фотакарэспандэнт франтавой газеты "Красная армия" старшы лейтэнант Васіль Іванавіч Аркашоў.

А што ж сёння на тым месцы, дзе быў зроблены франтавы здымак, калі яшчэ не паспеў ачахнуць попел вайны? Там, у засені густых дрэваў, стаіць помнік нашаму салдату-пераможцы, пастаўлены адразу пасля заканчэння баёў. На працягу многіх гадоў яго ахоўваў ганаровы каравул нашых воінаў, які нёс варту пазменна, сцяг іншай краіны. Калі мне ў 1990 годзе давялося там зноў пабываць з групай ветэранаў — былых франтавікоў, я ўсё гэта бачыў на свае вочы. Сэрца маё было перапоўнена глыбокімі пачуццямі любові да сваёй радзімы, да тых людзей, якія здзяйснялі свае подзвігі ў імя міру, шчасця на зямлі для ўсіх народаў. У душы нараджаліся вершы, якія затым папаўняліся новымі думкамі і вобразамі.

*Май у акоп мой на прылеску*
*Паслаў праменьчык сонца мне*
*І абудзіў прыемнай весткай,*
*Што наступіў канец вайне.*

У гэтых радках я імкнуўся выказаць пачуцці ўсіх воінаў — былых франтавікоў, якія прайшлі ад Волгі да Берліна, распісаліся штыкамі сваімі на скаронай гітлераўскай цытадэлі. Што можа сёння сказаць удзельнік тых падзей, галава якога абветрана былымі паходамі і заінела ранняй сівізной? Тыя надпісы, што пакідалі на рэйхстагу ў маі 1945 года нашы воіны, павінны дзесьці захоўвацца, — ці ў музеях ці ў спецыяльных сховішчах. Бо гэта ж — сама гісторыя. А гісторыю нельга падрабляць, трэба толькі ведаць яе, захаваць такой, якой яна была, ёсць і будзе.

Закончыць гэты кароткі аповед мне хочацца словамі вядомага аўстрыйскага пісьменніка Стэфана Цвейга з яго рамана "Марыя Сцюарт": "Суддзя нашых зямных дзеянняў — гісторыя, нязменна маўклівая пры жывых, і толькі пасля завяршэння іх зямнога шляху ўзважвае перад нашчадкамі справы памерлых". А на гэта не павінны забывацца ні тыя, хто жыве сёння, ні тыя, хто будзе жыць пасля нас.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

# ВАНДРОЎКІ... ШЭДЭЎРАЎ

## ДЫЯМЕНТ "САНСІ"

У 1054 годзе гандляр Джагатунга ішоў з караванам па Усходняй Індыі і знайшоў вельмі буйны алмаз. Камень быў без адзінай шчылінкі і важыў 101,25 карата. Гандляр абмяняў у султана камень на двух маладых сланоў, дваццаць вярблюдаў і восемдзесят манет. Пазней алмазам працяглы час валодалі індыйскія султаны.

З 1325 года гэты камень, паводле сведчанняў гісторыкаў, знаходзіўся ў заснавальніка дынастыі Туглакаў Гіяс-ад-дзіна. Але той неўзабаве загінуў. У 1473 годзе алмаз трапіў да Карла Смелага — некаранаванага караля Бургундыі. У 1475 годзе фламандскі шліфавальшчык Людвіг ван Беркен згодна з указам караля ўпершыню апрацаваў алмаз падвойнай агранкай да трыццаці дзвюх граняў. Падчас шліфоўкі была выдалена маса ў сорак восем карат, і алмаз стаў важыць 53,33 карата. Ён захаваў сваю першапачатковую авальную форму, але зрабўіся ўжо дыяментам. Герцаг Бургундскі марыў аб заваяванні ўсёй Еўропы, верыў у сілу каменя і яму здавалася, што з гэткім амулетам ён стане непераможным. Аднак праз некаторы час герцаг быў забіты.



Затым нейкім чынам дыямент апынуўся ў партугальскага караля Альфонса Афрыканскага, які шмат разоў закладваў дыямент ліхвярам, бо меў патрэбу ў сродках, каб заваяваць калоніі ў Афрыцы. Але і ён прадаў камень французскаму маркізу за 100 тысяч франкаў, а той, у сваю чаргу, — Мікалаю-Гарлею Сансі. Яму дыямент і абавязаны сваёй назвай.

Сансі сябраваў з апошнім нашчадкам дынастыі Валуа — Генрыхам III, каралём Францыі. Заблытаўшыся ў пазыках, Сансі вырашыў прадаць дыямент каралю. Ён паслаў камень са сваім верным васалам, які на шляху да караля стаў ахвярай рабаўнікоў. Паколькі дыямент не з'явіўся ў продажы, Сансі падумаў, што верны слуга праглынуў яго перад смерцю. Труп адшукалі, эксгумавалі і пры ўскрыцці сапраўды знайшлі ў страўніку страчаны дыямент. Генрых III прадаў жамчужныя каралі сваёй маці Кацярыны Медзічы і, выкупіўшы дыямент, зноў ператварыў яго ў талісман.

У 1589 годзе Генрых III быў забіты манахам Клемонам, нібыта за падтрымку гугенотаў. У 1610 годзе каталікам Равальякам быў забіты Генрых IV, да якога дыямент перайшоў разам з тронам Францыі. Абодва разы падчас забойства талісман вісеў на грудзях каралёў. Яго бачылі і на каранацыі Людовікаў XIV, XV, і XVI.

У дні Французскай рэвалюцыі 1792 года, незадоўга да пакарання смерцю Людовіка XVI, камень разам з усімі каштоўнасцямі французскага двара зноў бясследна знік.

Напалеон зацікавіўся згубленым дыяментам і наняў хітрага шпіёна па мянушцы Блейвейс, які валодаў еўрапейскімі мовамі, а таксама мастацтвам пераўвасаблення. Блейвейс быў пасланы ў Вену, дзе, паводле чутак, прадавалі дыямент, падобны да "Сансі". Блейвейс паехаў на заданне, пераапрануўшыся элегантнай французскай какоткай, а калі вярнуўся з Аўстрыі, далажыў, што камень — не "Сансі".

Праз дзевяць гадоў пасля смерці імператара ў 1830 годзе па Парыжы разнесліся чуткі, што Пётр Дзямідаў, праўнук вядомага расійскага прадпрымальніка, набыў дыямент "Сансі". Французскі ўрад падаў на Дзямідава ў суд за тое, што той наважыўся набыць крадзеную рэч. Над гандлёвым домам Дзямідавых навіс цень непрыстойнасці, а гэта тое ж самае, што і банкруцтва.



Дзямідаў набыў "Сансі" праз ювеліра Мэрыёна Бургіньёна ў парыжскага маклера Фрыдэлейна за 500 тысяч франкаў (вясельны падарунак сваёй жонцы — унучцы Напалеона).

Абвінавачваемы запрасіў лепшага адваката Францыі, які гадамі адцягваў працэс "Пра набыццё выкрадзенага дыямента". У рэшце рэшт, калі верыць чуткам парыжскага бамонда, у суд з'явілася герцагіня Берыйская. Упрыгожаная дыядэмай з цэйлонскімі сапфірамі, яна заявіла, што "Сансі" з'яўляецца адным з яе фамільных дыяментаў і што яна, каб не кампраметаваць сябе, прадала яго праз даверaную асобу. А да яе дыямент трапіў ад бабкі, якая атрымала камень у падарунак ад Людовіка XVI. Дзямідаў адсудзіў дыямент у 1835 годзе.

Праз шмат гадоў маладая ўдава Дзямідава Аўрора, пабраўшыся шлюбам з гвардзейскім афіцэрам Мікалаем Карамзіным, сынам вядомага пісьменніка і гісторыка Мікалая Міхайлавіча Карамзіна, прывезла з сабою ў новую сям'ю плацінавы куфэрак, дзе ў кучы жэмчугу, ізумрудаў і александрытаў быў і дыямент "Сансі", што перайшоў ёй па спадчыне разам з усімі уральскімі жалезаруднымі і металаплавільнымі заводамі і гарадамі каля іх.

У доме Карамзіных "Сансі" знаходзіўся з 1846 па 1917 год. З Расіі яго не вывозілі — гэта вядома дакладна. Але з тае пары след ягоны згубіўся...

## ГЕМА ГАНЗАГА

Гема — гэта каштоўны альбо напаўкаштоўны камень з выявамі, зробленымі на ім. У старажытнасці гемы былі пячаткамі, знакамі ўласнасці, амулетамі, упрыгожаннямі. На геме Ганзага адбітыя валадар Егіпта Пталемей II і ягоная сястра, якая з'яўлялася адначасова ягонай жонкай, — Арсіноя II. Пасля доўгіх вандраванняў гэтая гема апынулася ў скарбніцы Ганзага — прадстаўніка шляхетнага італьянскага роду перыяду Адраджэння. Потым яна трапіла ў Кёльнскі сабор. Але ў 1574 годзе гему Ганзага адсюль выкралі. Каштавала яна ў той час 34 пуды золата. З 1803 года гема ўжо лічылася адной з каштоўнасцяў жонкі Напалеона Жазэфіны. Жазэфіна падарыла гему расійскаму імператару Аляксандру I, і яна апынулася ў Пецярбургскім Эрмітажы, дзе і захоўваецца дасюль.

## ПАРТРЭТ БУХВОСТАВА

Жонка князя Аляксандра Меншыкава Дар'я Міхайлаўна Арсеньева разам са сваёй сястрой Варварай вышылі шоўкам на льняным палатне партрэт рускага салдата часоў Пятра I Сяргея Лявонцевіча Бухвостава. Гэтае палатно ацэньвалася тады даражэй за многія палотны найталенавітых мастакоў. Пасля Меншыкава партрэт быў у руках фаварыта імператрыцы Грыгорыя Арлова, асабістага ўрача Кацярыны II Дзімсдэля, фельдмаршала Міхаіла Кутузава, у зборы рускіх вышывак пецярбургскага багача Шлягіна... У першыя гады савецкай улады партрэт Бухвостава нейкім чынам апынуўся ў руках Тарноўскай і Сібірцава, якія спрабавалі прадаць яго замежным грамадзянам за 25 тысяч долараў. Але органы ўнутраных спраў перапынілі гэтую нячыстую справу, і шэдэўр застаўся ў Ленінградзе. Аднак пазней партрэт, на жаль, загінуў падчас паводкі.

## КУФАР МАРЫІ МЕДЗІЧЫ

Шмат гісторый звязана з разьбяным каштоўным куфрам, дзе калісьці захоўваўся скрутак з унікальнымі скарбамі. Да іх прылічваюцца сярэбраная пентаграма "Зорка Фларэнцыі", падвязка Генрыха IV і незвычайны алмаз чырвонай вады. З Францыі куфар, ужо пусты, трапіў у Італію ў рукі Марыі Медзічы. Генрых IV з палітычных меркаванняў ажаніўся з Марыяй Медзічы, і куфар з Італіі зноў вяртаецца ў Францыю. Значна пазней Людовік XVI падарыў яго вядомаму авантурысту Каліёстра, які паабяцаў каралю за гэта "бессмяротнасць". Затым незразумелым чынам на пачатку мінулага стагоддзя куфар трапляе ў Расію. У рэшце рэшт, з багатай калекцыі састарэлай дамы Чарскай куфар Марыі Медзічы выкраў злачынца. Органам міліцыі ўдалося знайсці гэты шэдэўр і перадаць яго на захаванне дзяржаве. Паводле ацэнак спецыялістаў, куфар Марыі Медзічы зараз каштуе 400 — 450 тысяч долараў.

## ГРЫШКІНЫ КАРАЛІ

На гэтых каралях таямніча і прыцягальна зіхацяць паўтара дзесяткі дыяментаў у аправе з плаціны. Але асабліва зачароўваюць падвескі — тры буйныя смарагды — кожны велічынёй з палову пачка ад запалак. Аздоблены яны золатам. Іхні глыбокі, сакавіты колер выпраменьвае спакой лясоў і палёў. Каштоўныя каралі ў свой час імператрыца Аляксандра Фёдараўна падарыла фаварыту Грыгорыю Распуціну. Затым "Грышкіны каралі" (як іх пачалі называць з таго часу) трапілі да Вольгі Лохцінай, фанатычна аддана й "святому старцу" Распуціну. У апошні час яны доўга знаходзіліся ў нейкай прыватнай калекцыі, адкуль іх спрабавалі прадаць усяго за 11 (?) тысяч рублёў. Але высілкамі крымінальнага вышуку "Грышкіны каралі" ў непашкоджаным стане з'яўляюцца цяпер нацыянальным набыткам Расіі.

**Разам з шэдэўрамі па свеце вандраваў**
**Іван ШПАДАРУК**

# ШРЫ ЧЫНМОЙ СКОНЧЫЎ 5-ГАДОВУЮ АДЫСЕЮ СТВАРЭННЯ СЯМІ МІЛЬЁНАЎ МАЛЮНКАЎ ПТУШАК МІРУ

Міжнародны лідэр-міратворца Шры Чынмой дасягнуў сваёй мастацкай мэты — намаляваць 7 мільёнаў птушак Міру — 28 сакавіка 1997 года ў 6.07 раніцы ў сваім доме ў Нью-Ёрку. Дасягнуўшы гэтага беспрэцэдэнтнага выніку, ён мякка заўважыў: "Са слязамі і ззяючымі ўсмешкамі майго сэрца-ўдзячнасці я прапаную гэтыя 7 мільёнаў Птушак Мараў пра Мір і Волю сваёй вёсцы-душы Усходняй Шакпуры ва Усходняй Бенгаліі, цяпер Бангладэш, дзе я нарадзіўся 65 гадоў таму".

Гэтая адысея духоўнага жывапісца пачалася на Мальце ў снежні 1991 года, пяць гадоў і тры месяцы таму. Падчас вандровак па Еўропе, Азіі, Афрыцы, Аўстраліі ягонымі вернымі сябрамі былі асадкі, пачкі паперы і ўжо намаляваныя выявы птушак. Шасцімільённы малюнак быў скончаны тыдзень таму, такім чынам на стварэнне заключнага мільёна малюнкаў птушак у гэтым цудоўным творчым марафоне пайшло менш за шэсць сутак! У сярэднім ён ствараў 1.300.000 малюнкаў штогод на працягу апошніх пяці гадоў — і гэта ў дадатак да напружанага графіка паездак, звязаных з наладжваннем канцэртаў Міру ў шматлікіх краінах, сустрэч з міжнароднымі лідэрамі, клопату пра вучняў у сотнях Цэнтраў Шры Чынмоя па ўсім свеце, удзелу ў іншых міратворчых і спартыўных праграмах.

Шры Чынмой так тлумачыць выбар тэмы для сваіх твораў: "Птушкі лётаюць у прасторы свабоды, таму яны прыносяць нам асаблівае пасланне свабоды, якая можа быць знойдзена толькі ў мірным сэрцы-доме чалавецтва".

Выдатныя асобы ў розных сферах дзейнасці, уключаючы Маці Тэрэзу, былога прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова і ягоную жонку Раісу, прэзідэнта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нэльсана Мандэлу, прэм'ер-міністра Канады Жана Крэцьена, прэм'ер-міністра Аўстраліі Джыма Болдэра, многіх амбасадараў і больш за семдзесят сенатараў ЗША, музыканта Іегудзі Менухіна і легендарнага спартсмена Карла Льюіса, — дасылалі свае сардэчныя водгукі Шры Чынмою ў сувязі з ягоным унікальным прысвячэннем чалавецтву. Многім з іх ён падарыў свае малюнкі.

Шматлікія гледачы бачылі малюнкі Шры Чынмоя падчас выстаў у знакамітых залах, музеях і галерэях свету, уключаючы залу Сената аўстралійскага Нацыянальнага парламента ў Канберы, залу-ратонду будынка Сената ЗША ў Вашынгтоне, будынак ААН у Нью-Ёрку, будынак ЮНЕСКО ў Парыжы, залу Міру ў Осака, Мэл-галерэю ў Лондане і будынак міжнароднага аэрапорта імя Кенэдзі ў Нью-Ёрку. У галерэі, што месціцца недалёка ад будынка ААН, летась у жніўні былі выстаўленыя тры мільёны з пяці мільёнаў малюнкаў, што запоўнілі чатыры паверхі ў будынку галерэі.

Шры Чынмой выкарыстоўвае ў малюнках шырокі спектр колераў, форм і памераў, а таксама ўзоры паперы, зробленай у розных краінах свету. Многія кампазіцыі ўяўляюць сабой вялікіх птушак, складзеных з птушак меншага памеру. Іншы раз ён малюе агромністых, прыгожых птушак у вольным палёце па палатне. Сярод апошніх малюнкаў ёсць серыя з тысяч асобных птушак, размешчаных у рамках, што маюць форму сэрцаў.

Для Шры Чынмоя дасягненне за межамі таго, што многія лічаць магчымым, сталася звычайным. Дакументальна зафіксаваныя ягоныя дасягненні і ў іншых галінах, уключаючы напісаныя ім больш за 1200 кніг, больш за 14500 песень на ягонай роднай бенгальскай мове, а таксама 7500 на англійскай, выкананне твораў на 150 інструментах падчас 14-гадзіннага канцэрта, больш за 150 тысяч акрылавых і акварэльных карцін, ім паднята вага 7063,75 фунтаў правай рукой і 7040,25 — левай, ён падняў над галавой адной рукой больш за дзве тысячы чалавек з ліку тых, хто натхняе свет, кожны па-свойму (сярод іх прэзідэнты, лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, рэлігійныя лідэры розных веравызнанняў). Шры Чынмой дзеліцца з імі сваім бачаннем, ён кажа: "Мая мэта — гэта пераўзысці самога сябе. Кожны дзень я малюся за тое, каб стаць больш дасканалым чалавекам, каб лепей служыць чалавецтву".

**Ігар ПЯРЭРВА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 7.05.97. у 15.00.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3946
Замова 2702
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.